# ПРАВІЛЫ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ І ПУНКТУАЦЫІ

ЗМЕСТ

**РАЗДЗЕЛ I**
**АРФАГРАФІЯ**

**ГЛАВА 1**
**ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ**

### §[1] 1. Галосныя літары

1. У беларускім алфавіце 10 галосных літар: *а, о, у, ы, э, е, ё, і, ю, я.*

2. Літары *а, о, э, у* пішуцца ў пачатку слова і пасля цвёрдых зычных для абазначэння адпаведных галосных гукаў. Галосная літара *і* пішацца ў пачатку слова, пасля зычных пішацца *ы* або *і* ў залежнасці ад цвёрдасці або мяккасці зычных. Літары *е, ё, ю, я* ў пачатку слова, у сярэдзіне слова пасля галосных і раздзяляльных знакаў абазначаюць на пісьме спалучэнні зычнага гука [й] з галоснымі [э], [о], [у], [а]: *елка* – [йэ]*лка, яма* – [йа]*ма, юны* – [йу]*ны*; *мая* – *ма*[йа], *паёк* – *па*[йо]*к, паехаў* – *па*[йэ]*хаў, саюз* – *са*[йу]*з*; *сям'я* – *сям*[йа], *ён* – [йо]*н, аб'езд* – *аб*[йэ]*зд, льеш* – *л*[йэ]*ш, б'ю* – *б*[йу].

3. Літара *і* абазначае спалучэнне гукаў [йі] толькі пасля галосных, апострафа, раздзяляльнага мяккага знака і [ў]: *краіна* – *кра*[йі]*на*, *кроіць* – *кро*[йі]*ць*, *батарэі* – *батарэ*[йі], *круіз* – *кру*[йі]з, *аб'інець* – *аб*[йі]*нець*, *вераб'іны* – *вераб*[йі]*ны*, *куп'істы* – *куп*[йі]*сты, салаўіны* – *салаў*[йі]*ны*. У пачатку слова яна можа абазначаць спалучэнне гукаў [йі], у іншых пазіцыях – галосны [і]: *іней* – [йі]*ней, іх* – [йі]*х*; але: *імчаць* –[і]*мчаць*, *іржышча* – [і]*ржышча, іголка* – [і]*голка, Ірына* – [і]*рына, Ігнат* – [і]*гнат, іржаць* – [і]*ржаць*.

4. Літары *я, ё, е, ю, і* пасля зычных абазначаюць мяккасць зычных і адпаведныя галосныя гукі [а], [о], [э], [у], [і]: *сяду* – [*с'а*]*ду, мёд* – [*м'о*]*д, лета* – [*л'э*]*та, вязу* – [*в'а*]*зу, люты* – [*л'у*]*ты*.

5. Кропкі над літарай *ё* абавязковыя. Кропка над літарай *і* малой абавязковая, над *I* вялікай у друкаваных тэкстах – не ставіцца, у рукапісных тэкстах кропка абавязковая.

### § 2. Літары *о, ё*

1. Літара *о* пішацца толькі пад націскам: *год, кот, скрозь, шоўк, ко́лас, мо́ва, до́ўга, по́суд, аро́л, шо́лах, плячо́, даро́га, разго́ртваць, дапамо́га, дадатко́ва, жніво́, дэпо́, во́дар, о́канне, о́да, о́птам, о́рдэн, о́фіс, о́пера, Об, Орша, Омск, Обнінск, Осла, Оксфард, Орск, То́кіа, Ватэрло́а.*

2. Літара *ё* пішацца пад націскам: *біёлаг, сацыёлаг, трыёд, шпіён, іён.*

Літара *ё* пішацца не пад націскам у словах з коранем *ёд-* і *ёт-*: *ёдапіры́н, ёта́цыя, ётава́нне*.

3. Літара *ё* пішацца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляецца *радыё-*: *радыёстанцыя, радыёграма, радыёантэна*.

Калі першая частка складанага слова ўтворана ад назвы хімічнага элемента *радый*, то пішацца літара *е*, якая з'яўляецца злучальнай галоснай: *радыебіялогія, радыеактыўнасць, радыеметрычны, радыеізатоп* і пад. У першым складзе перад націскам у гэтым выпадку пішацца *я: радыяме́трыя, радыяхі́мія, радыяло́гія, радыягра́фія*.

4. Спалучэнні галосных *іо* пад націскам і *іа* не пад націскам у сярэдзіне слоў іншамоўнага паходжання перадаюцца як *іё* (*ыё*), *ія* (*ыя*)*: біяло́гія, сацыяло́гія, шпіяна́ж, аўдыявізуа́льны, варыяскапі́чны, варыяфі́льм, ме́дыя,* а таксама *радыё*; але: *эфіо́п, ніо́бій, ніо́біевы, дыо́птрыя, Іо́сіф, Іо́ў, Іо́на, Іасафа́т*.

У слове *дыета* пішацца спалучэнне галосных *ые.* На стыку прыстаўкі і кораня захоўваецца *ыэ: дыэтан, дыэлектрык*.

### § 3. Літары *э, е*

1. Літара *э* пішацца:

у пачатку выклічнікаў *э, эге, эге-ге, эй, эх*;

пасля прыстаўнога *г* у слове *гэты* і вытворных ад яго (*дагэтуль*), а таксама ў выклічніках *гэ, гэй* і назвах літар (*бэ, вэ* і пад.);

пасля шыпячых, [р], [д], [т] і цвёрдага [ц]: *жэрдка, жэмчуг, шэры, нашэсце, чэрствы, чэк, нараджэнне, абуджэнне, рэкі, рэзаць, халадэча, сардэчны, пустэча, мястэчка, цэны, у руцэ*.

2. У словах іншамоўнага паходжання літары *э, е* як пад націскам, так і не пад націскам пішуцца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем:

у пачатку слова: *э́ра, эсэ́, э́ўрыка, э́пас, э́тыка, Эўклі́д, Эўрыпі́д, Элі́ста*; але: *е́гер, е́рась, ерэты́к, Еўро́па, еўрапе́йскі, Еўпато́рыя, еўпатары́йскі, Ерэва́н, ерэва́нец, Еўфра́т*;

у канцы нязменных слоў, а таксама ўласных імён і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя *л, к*, пішацца *э: купэ́, рэзюмэ́, рэнамэ́, кафэ́, галіфэ́, кашнэ́, кабернэ́, фрыкасэ́, плісэ́, каратэ́, дэкальтэ́; Стру́вэ, Мерымэ́, Эйвэ́, Хасэ́, Мо́рзэ, Табі́дзэ, Брыгва́дзэ, Каба-Ве́рдэ, Душанбэ́, Сан-Тамэ́*; але: *камюніке́, са́льта-марта́ле, філе́, піке́*.

3. Літара *э* ў запазычаных словах пасля губных зычных, а таксама пасля *з, с, н* пішацца згодна з беларускім літаратурным вымаўленнем. Так, словы *капэ́ла, сурвэ́тка, экзэмпля́р, маянэ́з, тунэ́ль, сэ́рвіс* пішуцца з *э*, а *меда́ль, нерв, парла́мент, перспекты́ва, газе́та, серві́з* – з літарай *е*.

### § 4. Перадача акання на пісьме

1. Галосныя гукі [о], [э] ў ненаціскным становішчы чаргуюцца з [а]: *дом – дамы́, мо́ва – маўле́нне, цэ́гла – цагля́ны, шэпт – шапта́ць*.

2. Незалежна ад паходжання слова гук [о] ў ненаціскных складах вымаўляецца як [а], што перадаецца на пісьме: *гара́, вада́, баранава́нне, ко́лас, хо́лад, бало́та, Бандарэ́нка, Ко́ханава, Ку́нцава, Гаме́р, Сакра́т, арганіза́цыя, педагагі́чны, электара́т, харэагра́фія, заало́гія*.

Не падпарадкоўваюцца аканню словы са спалучэннямі *ро, ло*, якія чаргуюцца з *ры, лы: кроў – крыві́ – крыва́вы, дро́вы – дрыво́тня, кро́шка – крышы́ць, бро́вы – брыво́, гром – грымо́ты – грыме́ць, брод – брысці́, гло́тка – глыта́ць, бло́хі – блыха́*.

3. У словах славянскага паходжання і запазычаннях, цалкам адаптаваных у беларускай мове, галосны [э] ва ўсіх ненаціскных складах чаргуецца з [а] і

---

[1] У гэтых правілах параграфы (§) з'яўляюцца асноўнымі структурнымі элементамі, абазначаюцца арабскімі лічбамі з кропкай і маюць скразную нумарацыю. Параграфы аб'ядноўваюцца ў главы і падзяляюцца на пункты або абзацы (у выпадку, калі параграф складаецца з аднаго пункта).

абазначаецца на пісьме літарай *а*: *стрэ´хі – страха´*, *шэ´ры – шарэ´ць*, *чэ´ргі – чарга´*, *крэмль – крамлёўскі*, *жэ´мчуг – жамчу´жына*, *арэ´нда – арандава´ць, майстэ´рня – ма´йстар*.

Ва ўласных імёнах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў у ненаціскных складах гук [э] падпарадкоўваецца агульным правілам акання – пасля цвёрдых зычных ён чаргуецца з [а] і абазначаецца на пісьме літарай *а*: *Беразіно´, Чарапаве´ц, Жамчу´жнікаў, Чарнышэ´ўскі, Шаўчэ´нка, Чалю´скін, лі´тара, транслітара´цыя*.

4. Перадача на пісьме [э] ў іншых словах іншамоўнага паходжання ў ненаціскных складах асновы вызначаецца наступнымі правіламі:

у пачатку слова [э] перадаецца на пісьме літарай *э* ў адпаведнасці з беларускім вымаўленнем: *эканo´мія*, *экза´мен*, *эква´тар*, *этажэ´рка*, *элеме´нт*. Літара *э* пішацца пасля прыставак і ў другой частцы складанага слова: *праэкзаменава´ць*, *трохэлеме´нтны*, *квінтэсэ´нцыя*;

пасля шыпячых, [р], [д], [т] і цвёрдага [ц] пішацца *э: жэто´н, Жэне´ва, Жэра´р, жэлаці´н, чэкме´нь, рэспу´бліка, рэфо´рма, Рэма´рк, рэкла´ма, рэа´ктар, рэві´зія, агрэга´т, рэжы´м, рэко´рд, рэе´стр, рэвалю´цыя, цэнтралі´зм, цэві´та, дэта´ль, гардэро´б, Дэтро´йт, Дэфо´, дэлега´т, дэманстра´цыя, о´рдэн, тэо´рыя, тэа´тр, тэлегра´ф, тэлефо´н, ветэра´н, ка´тэт, тэрмо´метр, тэарэ´ма*.

5. У запазычаных словах напісанне *э* і *а* пасля іншых зычных рэгулюецца слоўнікам: *панэ´ль*; але: *шыне´ль*; *сэ´нсарны*; але: *секта´нцкі*.

6. Ненаціскныя фіналі *-эль, -эр* у запазычаных словах перадаюцца як *-аль, -ар: шні´цаль, шпа´таль, мі´таль, фо´рталь, ка´рцар, грэ´йдар, лі´дар, камп'ю´тар, пэ´йджар, рэйсфе´дар, эспа´ндар, тэ´ндар, о´рдар, ме´неджар, фарва´тар, а´льма-ма´тар, кра´тар, прэсві´тар*.

Ненаціскныя фіналі *-эль, -эр* ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання перадаюцца нязменна: *Ландэр, Одэр, Пітэр, Юпітэр*.

### § 5. Правапіс літар *о, э, а* ў складаных словах

1. У складаных словах можа быць адзін націск, два і больш (асноўны і адзін або некалькі пабочных). Калі ў другой частцы складанага слова націск не на першым складзе, то ў першай частцы захоўваецца *о*: *асно̀вапалажэ´нне, баво̀ўнапрадзі´льны, во̀гнетрыва´лы, во̀даразмеркава´ль-нік, вагòнарамо´нтны, во̀стракамбінацы´йны, высо̀каідэ´йны, гало̀ўнакама´н-дуючы, ко̀рманарыхто´ўка, ко̀негадо´ўля*.

2. Калі ў другой частцы складанага слова націск на першым складзе, то ў першай частцы замест *о* пішацца *а*: *дабрадзе´й, скарахо´д, салява´р, дабрая´касны, галавало´мка, вадасхо´вішча, малатабо´ец, бамбасхо´вішча, раўнапра´ўе*.

Літара *о* захоўваецца, калі першай часткай складанага слова з'яўляюцца *слова-, што-: словатво´рчасць, штодзённы, штоме´сяц, штого´д*.

3. *О* пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца на *ў* (у нескладовае): *марозаўсто´йлівы, торфаўбо´рачны, вогнеўсто´йлівы, збожжаўбо´рка*.

4. Лічэбнікі ад 200 да 900 утвараюць асобны тып складаных слоў, у якіх скланяецца і першая частка. Літары *э, о, е, я* пішуцца ў гэтых словах у залежнасці ад месца асноўнага і пабочнага націску ў склонавых формах.

Напрыклад*:

Н. *дзве́сце тры´ста чаты´рыста пяцьсо´т*

Р. *двухсо́т тро̀хсо´т чатыро̀хсо´т пяцісо´т*

Д. *двумста́м тро̀мста´м чатыро̀мста´м пяціста´м*

В. *дзве́сце тры´ста чаты´рыста пяцьсо´т*

Т. *двумаста´мі трымаста´мі чатырмаста´мі пяццюста´мі*

М. *двухста´х тро̀хста´х чатыро̀хста´х пяціста´х*

Н. *шэ̀сцьсо´т сѐмсо´т во̀семсо´т дзевяцьсо´т*

Р. *шасцісо´т сямісо´т васьмісо´т дзевяцісо´т*

Д. *шасціста´м сяміста´м васьміста´м дзевяціста´м*

В. *шэ̀сцьсо´т сѐмсо´т во̀семсо´т дзевяцьсо´т*

Т. *шасцюста´мі сямюста´мі васьмюста´мі дзевяццюста´мі*

М. *шасціста´х сяміста´х васьміста´х дзевяціста´х*

5. Гук [э] ў першай частцы складаных слоў захоўваецца і абазначаецца літарай *э*: *мэтанакіраваны, мэтазгодна, рэдказубы, шэравокі, арэхападобны, крэдытаздольнасць, тэлебачанне*.

6. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў форме роднага склону і якога-небудзь іншага слова, першая частка пішацца так, як яна пішацца ў родным склоне лічэбніка: *трохдзённы, чатырохпавярховы, шасціствольны, шасцісоты, пяцідзёнка, дзесяцігодка, сямікласнік, васьмігадовы, васьмісоты, дзевяцігрaдусны, саракагоддзе, саракапяцітонны, двухсотметровы*.

7. Калі складаныя словы маюць у сваім складзе больш за дзве часткі, то кожная з іх пішацца як асобна ўзятае слова: *авіяматорабудаванне, аўтатрактарабудаванне, аэрафотапрыбор, тэлефатометр*.

### § 6. Перадача якання на пісьме

1. Галосныя *е*, *ё* ў першым складзе перад націскам абазначаюцца на пісьме літарай *я*: *зе´млі – зямля´, зе´лень – зялёны, се´м'і – сям'я´, сёлы – сяло´, сёстры – сястра´, вёслы – вясло´, вёска – вяско´вы, е´лка – ялі´на, е´здзіць – язда´, ёмкі – ямчэ´й, ёрш – ярша´, лён – ляно´к, мёд – мядо´к, дзе´нь – дзянёк, лес – лясны´, снег – снягі´, ве´цер – вятры´, сце´ны – сцяна´, дзе´вяць – дзявя´ты, дзе´сяць – дзяся´ты, сем – сямна´ццаць, во´сем – васямна´ццаць, цецеруко´ў - цецяру´к , перане´сці – перанясу´*.

У астатніх ненаціскных складах *е* захоўваецца: *селяні´н, зеляні´на, вестуны´, леснікі´, векаве´чны, верацяно´, нерухо´мы, безупы´нны, во´зера, ве´села, во´сем, за´едзь, вы´светліць, вы´ехаць, во´сень, це´мень, дзевятна´ццаты, дзесятко´вы*.

2. Літара *я* пішацца ў першым складзе перад націскам у імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў: *Бялы´нічы, Лемяшэ´вічы, Алякса´ндр, Сярге́й, Бялі´нскі, Няхо´да, дзяжу´рства, калянда´р, яфрэ´йтар, сяржа´нт, Яршо´ў, Яфі´м*.

3. Літара *е* захоўваецца ў складаных лічэбніках *сѐмсо´т, во̀семсо´т*, паколькі кожная частка ў іх мае свой

---

* Прыклады, якія прыводзяцца ў гэтых Правілах, не могуць разглядацца як падрадковыя заўвагі да пунктаў, часткі ці абзаца пунктаў.

націск, параўн.: сѐмсо́т – сямісо́т, во̀семсо́т – васьміста́м.

Заўсёды захоўваецца *е* ў першым складзе перад націскам пасля заднеязычных *г, к, х*: *геро́й, Гера́сім, кера́міка, кефір, Херсо́н*.

4. *Не* і *без*, калі яны стаяць асобна, заўсёды пішуцца з літарай *е*, напрыклад: *не быў, не браў, не ідзе, без меры, без жартаў, не спыніць, без прычыны, не без вынікаў, не без работы*.

Пры напісанні разам *не* і *без* становяцца часткай слова і падпарадкоўваюцца агульным правілам напісання галосных літар *е, я* ў беларускіх словах: *няха́й, нясто́мна, няшта́тны, бязме́жны, бязлю́дны, бяско́нца*; але: *непісьме́нны, безупы́нны, безапеляцы́йны, бескары́сны, беспаваро́тны*.

5. Літара *я* пішацца ў некаторых каранях слоў нязменна: *ві́цязь, су́вязь, за́яц, яравы́, вяза́ць, по́вязь, мяккава́ты, цягаві́ты, цяжкава́ты, святкава́ць, ме́сяц, по́яс, па́мяць, дзе́вяць, дзе́сяць, ты́сяча, за́вязь, Бе́сядзь, Пры́пяць*; *япру́к – япрука́, япруко́вы*; *ядло́вец – ядлаўцо́ўка, ядлаўцо́вы*.

6. Літара *я* пішацца ў паслянаціскных складах у некаторых суфіксах назоўнікаў (*ро́ўнядзь, бо́язь, дро́бязь*) і дзеясловаў (*ла́яць, ве́яць, се́яць, ка́шляць, ба́яць, му́ляць*), а таксама ў аддзеяслоўных назоўніках (*ла́янка, ве́ялка, се́ялка*).

### § 7. Правапіс *е, ё, я* ў складаных словах

1. У першай частцы складанага слова літара *е* захоўваецца незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы: *сенакасі́лка, серпадзю́б, верхнеазёрскі, белабры́сы, землетрасе́нне, светапо́гляд, свежавы́мыты, свежамаро́жаны, сенажа́ць.*

Калі першай часткай складаных слоў з'яўляецца аснова *велік-/вялік-*, то напісанне літар *е* або *я* залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы, то пішацца *е*, калі другі, то пішацца *я: велікаду́шны, велікару́скі, велікаму́чанік, велікасве́цкі; Вялікабрыта́нія, вялікадзяржа́ўны, вялікагало́вы*.

2. У першай частцы складанага слова літара *ё* захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі і замяняецца на *е*, калі націск на першым складзе другой часткі: *лёгкаатлеты́чны, лёдадрабі́лка, мёртванаро́джаны, мёдаварэ́нне; ледарэ́з, медаго́нка, легкаду́мна*.

3. У складаных словах злучальныя галосныя *о, ё* пішуцца толькі пад націскам, *а* – у любым ненаціскным складзе: *ільно́валакно, Вадо́хрышча, куро́дым, геліёграф, радыёметр, марозаўсто́йлівы, прыборабудаўні́чы*.

4. Злучальная галосная *е* ў складаных словах пераходзіць у *я*, калі націск на першым складзе другой часткі складанага слова: *баяздо́льны, зерняўбо́рачны, зернясхо́вішча, земляро́б, жыццяра́дасны, крывятво́рны*; але: *боепрыпа́сы*, *жыццеапіса́нне*, *землекарыста́нне, зернебабо́вы*.

Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як простыя словы з адным націскам: *зямфо́нд, лясга́с*.

### § 8. Прыстаўныя галосныя *і*, *а*

1. Прыстаўная галосная *і* пішацца:

у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай *м*: *імшара, імчаць, імгла, імгненне*, *імклівы*;

у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першымі *р, л,* калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці папярэдняга слова, што заканчваецца на зычную: *іржа, іржаць, ірдзенне, ірваць, іржышча*; *ілгун, ільдзіна*; *Іржуць коні, калёсы скрыпяць ад Дона да Буга* (Я. Купала). *Часамі на цэлыя кіламетры рассцілалася дарога роўным, нібы выбеленым на сонцы, ільняным палатном* (Я. Колас). *Няхай наша дружба цвіце, каб сонцам ірдзелі пуціны* (Я. Колас). Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосную і пасля яго няма знака прыпынку, то прыстаўная літара *і* не пішацца, напрыклад: *Не чакай, што ржа з гадамі паесць ланцугі...* (Я. Купала). *Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора ржаных каласоў...* (Я. Колас).

2. У словах з гістарычным каранёвым *о* можа з'яўляцца прыстаўная галосная *а*: *імшара* і *амшара, іржаны* і *аржаны, іржышча* і *аржанішча*.

3. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары *і* і *а* перад *р, л, м* не пішуцца: *заржавець, заржаць, зардзецца, замглёны, замшэлы, прымчацца, вакамгненна*.

## ГЛАВА 2
## ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

### § 9. Зычныя літары

1. Для абазначэння зычных гукаў у беларускай мове выкарыстоўваецца 21 літара: *б, в, г, д, ж, з, й, к, л, м, н, п, р, с, т, ў, ф, х, ц, ч, ш*.

2. Асобныя гукі не маюць спецыяльных літар: афрыкаты [дж], [дз] і [дз'] перадаюцца на пісьме адпаведна спалучэннямі літар *д* і *ж*, *д* і *з*: *хаджу, ваджу, ксяндзы, пэндзаль, хадзіў, вадзіў, дзюны*.

3. Гук [j] перадаецца або літарай *й* (на канцы склада пасля галосных: *рэйка, май*), або літарамі *е, ё, і, ю, я*, якія адпаведна абазначаюць спалучэнні гукаў [йэ], [йо], [йі], [йу], [йа] – у пачатку слова, пасля галосных, апострафа, раздзяляльнага мяккага знака і *ў*: *яма, ёмкі, ехаць, іней, юшка*; *альянс, маянэз, аб'ява, пад'ём, медальён, маёр, пад'ехаць, уецца, салаўі, раз'юшаны, салью, уюн, саўю*.

### § 10. Правапіс звонкіх і глухіх зычных

1. Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнага *з*) на пісьме не адлюстроўваецца. Для праверкі правільнасці напісання звонкіх і глухіх зычных трэба змяніць слова ці падабраць іншае аднакарэннае слова, каб пасля зычнага, які патрабуе праверкі, быў галосны або зычныя *р, л, м, н, в*: *рыбка – рыба, шапка – шапак, магчы – магу, кладка – кладак, даведка – даведацца, дзядзька – дзядзечка, хадзьба – хадзіць, казка – казаць, важкі – важыць, каска – касак, суткі – сутак, просьба – прасіць, касьба – касіць, носьбіт – насіць, малацьба – малаціць, рубчык – рубец, паўзці – паўзу, малодшы – малады*; *хлеб – хлеба, рог – рога, дзед – дзеда, поезд – поезда, роўнядзь – роўнядзі, сядзь – сядзі, нож – нажа, маж – мажаш, лістаж – лістажу, воз – воза, мазь – мазі, дождж – дажджу, плашч – плашча, рэж – рэжу*, а таксама *розаг – розгі*, *мозг – мазгі, лязг – лязгаць, грыб – грыбны, грыбніца, бег – беглы, бегма, загадка*

*– загадны, загадваць, ножка – нажны, мок – мокры, намоклы, пах – пахнуць, прапахлы, выкуп – купляць, пакупнік, выйгрыш – выйгрышны*. Словы *лязг, лязгаць* маюць варыянты *ляск, ляскаць*.

2. Правапіс уласнабеларускіх і запазычаных слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных нельга праверыць, вызначаецца па слоўніку: *футбол, баскетбол, вакзал, айсберг, струбцына, экзамен, Афганістан*.

### § 11. Зычныя *д, т* і *дз, ц*

1. Чаргаванне цвёрдых зычных гукаў [д], [т] з мяккімі [дз'], [ц'] (дзеканне і цеканне) адлюстроўваецца на пісьме: замест *д*, *т* перад *е*, *ё*, *і*, *ю*, *я* пішацца адпаведна *дз*, *ц*: *гарады – у горадзе, народы – у народзе, сады – у садзе, іду – ідзём, вяду – вядзі, вада – вадзяны, грудны – грудзі, люду – людзі, варта – на варце, хата – у хаце, чысты – чысцюткі, выток – выцякаць, карта – на карце, катлы – кацёл, тру – церці, шосты – шэсць, пяты – пяць, латынь – лацінка*.

2. Чаргаванне [д], [т] з [дз'], [ц'] адбываецца перад мяккім [в']: *два – дзве, дзвесце, рута – руцвяны, мёртвы – мярцвяк, чатыры – чацвёрты, чэрствы – счарсцвелы*.

Літара *ц* і дыграф *дз* перад мяккім [в'] пішуцца згодна з вымаўленнем у словах: *дзверы, мядзведзь, бацвінне, цвёрды, цвярозы, цвік, цвілы, цвісці, цвід, цвіндэк, ліцвін, ліцвінка, яцвяг, Мацвей, Мацвеенка, Бацвіннік* і інш. Выключэнне: *твіст*.

3. Гукі [д] у канцы прыстаўкі і [т] у складзе суфікса перад мяккім [в'] захоўваюцца нязменна і на пісьме перадаюцца адпаведна літарамі *д* і *т*: *адвезці, у таварыстве, у агенцтве, у выдавецтве, аб прыродазнаўстве, у грамадстве, у братэрстве*.

Гук [т] захоўваецца нязменна і на пісьме перадаецца літарай *т* перад мяккім [в'] у аддзеяслоўных назоўніках і ў словах, вытворных ад іх: *бітва – у бітве, брытва – брытве, брытвенны, клятва – клятве, клятвенны, пітво – у пітве, паства – у пастве.* Літары *д* і *т* захоўваюцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва – мардве, мардвін, Мардвінаў, Літва – у Літве*.

4. У словах іншамоўнага паходжання (а таксама ў вытворных ад іх) цвёрдыя *д, т*, як правіла, захоўваюцца нязменна: *літаратура*, *майстар*, *рэйсфедар*, *дэлегат, дэманстрацыя, матэрыял, універсітэт, кватэра, тэхніка, медыцына, апладысменты, індык, тыраж, скептык, ерэтык, пластык, тэарэтык, авантура, дыктатура*.

5. Перад суфіксамі і злучэннямі суфіксальнага паходжання *-ін-, -ір-, -ёр-, -еец, -ейск-* у словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, вытворных ад іх (у тым ліку перад памяншальным суфіксам *-ік-*), [д] і [т] чаргуюцца з [дз'], [ц'], што і адлюстроўваецца на пісьме: *сульфіды – сульфідзін, камандаваць – камандзіроўка, камандзір, Індыя – індзеец, індзейскі* (але: *індыец, індыйскі, індыйцы*), *гвардыя – гвардзеец, гвардзейскі, мантаж – манцёр, манціроўка, манціровачны, акцёр –актрыса, білет – білецёр; эпізод – эпізодзік, жакет – жакецік, білет – білецік*.

6. *Дз, ц* пішуцца ў некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца па слоўніку: *мундзір, гетэрадзін, дзюна, дзюшэс, бардзюр, арцель, арцішок, цір, цітр, эцюд, цюль, нацюрморт, уверцюра, накцюрн, цюркскі, цюльпан, каранцін, лацінскі* (але: *латынь*).

7. *Д, т* або *дз, ц* пішуцца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем у імёнах уласных: *Дадэ, Дэфо, дэ Бальзак, Драгічын, Дэтройт, Тэлаві, Атэла, Тэвасян, Тэкля, Тэкерэй, Тэрэза, Шаптыцкі, «Юманітэ», Дзяніс, Гарыбальдзі, Дзвіна, Дзясна, Барадзіно, Уладзівасток, Градзянка, Плоўдзіў, Хрысціна, Цютчаў, Кацюбінскі, Вучэціч, Целяханы, Цімкавічы, Ціхвін, Быцень, Церак, Цюмень, Цюрынгія, Гаіці, Палесціна, Поці, Таіці* і інш. Правапіс такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

### § 12. Некаторыя спалучэнні зычных

1. У асобных словах адбылося спрашчэнне груп зычных: спалучэнні *здн, згн, стн, скн, стл, рдн* вымаўляюцца як *зн, сн, нц, сл, рн, рц,* што і адлюстроўваецца на пісьме:

*здн – зн*: *праязны, выязны* (параўн.: *прыезд, выезд*), *позна, спазніцца, Познышаў*;

*згн–зн*: *бразнуць* (параўн.: *бразгаць*), але ў слове *а брызгнуць* спалу- чэнне *згн* не спрасцілася;

*стн – сн*: *бязлітасны* (параўн.: *літасць*), *пачэсны* (параўн.: *чэсць*), *ненавісны* (параўн.: *нянавісць*), *існаваць* (параўн.: *істота*), *скарасны* (параўн.: *скорасць*), *колькасны* (параўн.: *колькасць*), *абласны* (параўн.: *вобласць*), *капусны* (параўн.: *капуста*), *посны* (параўн.: *пост*), *гуснуць* (параўн.: *густы, гусцець*), *абвесны* (параўн.: *абвестка, абвясціць*), *месны* (параўн.: *змястоўны, месца*); тое ж у запазычаннях: *кантрасны* (параўн.: *кантраст*), *кампосны* (параўн.: *кампост*), *фарпосны* (параўн.: *фарпост*);

*скн – сн*: *бліснуць* (параўн.: *бліскаць, бліскавіца, бляск*), *пырснуць* (параўн.: *пырскаць*), *пляснуць* (параўн.: *пляскаць*), *ляснуць* (параўн.: *ляскаць*), *трэснуць* (параўн.: *трэскаць*); але: *віскнуць*, *нацìскны*;

*стл – сл*: *жаласлівы* (параўн.: *жаласць*), *шчаслівы* (параўн.: *шчасце*), *карыслівы* (параўн.: *карысць*), *няўрымслівы* (параўн.: *урымсціцца*), *помслівы* (параўн.: *помста*), *пасланць* (параўн.: *пасцялю, пасцель*);

*рдн – рн*: *міласэрны, міласэрнасць* (параўн.: *сардэчны*);

2. Спалучэнні зычных [ск], [ст], [с'ц'] на канцы кораня слова могуць чаргавацца з [шч], што і перадаецца на пісьме: *воск – вашчыць, густы – гушчар, хрысціць – хрышчоны, Мінск – Міншчына, Віцебск – Віцебшчына, Глуск – Глушчына*. Калі ж каранёвае *с* стаіць побач з суфіксальным *к*, якое можа чаргавацца з *ч*, то спалучэнне гукаў [с] і [ч] (у вымаўленні – [шч]) перадаецца як *сч*. Напісанне *сч* захоўваецца і ва ўсіх вытворных словах: *пясчынка*, *пясчанік, супясчаны, супясчанік, брусчатка*.

3. Спалучэнне зычных *дт* на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз *т*: *Гумбальт, Кранштат, Брант, Рэмбрант, Шміт, Клот.*

### § 13. Прыстаўныя і ўстаўныя зычныя

1. Прыстаўная літара *в* пішацца перад націскным *о*:

у пачатку слоў: *во´зера, во´льха, во´сень, во´спа, во´сь, во´кны, во´тчына, во´йкаць, во´бад, во´блака, во´бласць, во´страў, Во´гненная Зямля, Во´льга* і інш., у вытворных ад іх словах пасля прыставак: *абво´страны, адво´рваць, паво´йкаць, уво´сень*; але: *о´каць* (і вытворныя ад яго), *о´дум*. Пры змене месца націску *о* пераходзіць у *а* і прыстаўная *в* у гэтых словах не пішацца;

перад прыстаўкамі *о-, об-, од-* (*от-*): *во´кіс, во´кісел, во´клік, во´кліч, во´крык, во´пыт, во´бземлю, во´бмацкам, во´браз, во´быск, во´дгалас, во´дгук, во´ддаль, во´дзыў, во´піс, во´дпаведзь, во´дпуск, во´дсвет, во´дступ,*

*во́труб'е* і інш., а таксама *наво́бмацак, наво́ддалек, паво́дле, наво́дшыбе* і інш.;

у запазычаных словах: *во́хра, во́цат* і вытворных ад іх: *во́хрыць, паво́хрыць, воцатнакі́слы* і інш.

2. У формах слоў *во́ка, во́стры, во́сем, вако́л* і вытворных ад іх прыстаўная *в* захоўваецца незалежна ад месца націску: *вачэ́й, вача́мі, заво́чны, увачаві́дкі, увачччу́; вастры́ць, вастрыня́, завастрэ́нне; васьмёра, вако́ліца, навако́лле, вако́лічны*.

3. У сярэдзіне некаторых слоў перад націскным *о* пішацца ўстаўная літара *в*: *ніводзін, Ляво́н, Ляво́нчанка, Радзіво́наў* і інш.

4. Прыстаўное *в* не пішацца ў запазычаных словах перад пачатковым націскным [о]: *о́пера, о́перны, о́да, Оксфард, о̀мме́тр, о́рдэн, о́фіс* і інш.

5. Прыстаўная літара *в* пішацца:

перад націскным каранёвым *у* на пачатку слова: *ву́гал, ву́да, ву́галь, вуж, ву́зел, ву́зы, ву́ліца, вунь, вус, ву́сны, ву́ха, ву́чань*, а таксама ў формах такіх слоў і вытворных ад іх незалежна ад месца націску: *абву́глены, камѐннавуго́льны, чатыро̀хвуго́льнік, заву́лак, наву́дзіць, вудзі́льна, вузлы́, вузлава́ты, вуса́ты, чарнаву́сы, вуса́ч, вучы́цца, наву́ка, навуча́льны, педвучы́лішча, вушэ́й, вуша́мі, завушні́цы, лапаву́хі, залатаву́ст* і інш.;

перад прыстаўкамі *у-, уз-* (*ус-*): *ву́сціш, ву́сцішна, ву́праж, ву́згалаўе, ву́сцілка*.

6. Устаўная літара *в* пішацца:

перад націскным *у* ў сярэдзіне слоў: *паву́к, ціву́н, караву́л, есаву́л*, а таксама ў формах такіх слоў і вытворных ад іх незалежна ад націску: *павукі́, павуці́нне, павучо́к, цівуно́м, есаву́льскі, караву́льны*;

перад *у* ў сярэдзіне слова ў беларускіх уласных назвах: *Матэвуш, Матэвушаў, Навум, Навуменка, Навумовіч, Навумчык, Навумаўка, Тадэвуш*.

7. Прыстаўная літара *в* не пішацца перад націскным [у]:

у словах іншамоўнага паходжання: *угра-фі́нскі, у́льтра, ультрафіяле́тавы, у́нтэр, у́нікум, у́нія, у́рна*; але: *ву́стрыца*;

перад пачатковым [у] ва ўласных назвах: *Ульяна, Ула, Умань, Уздзенскі раён, Узда, Урал, Узбекістан, Украіна, Ухань, Уэльс* і інш.

8. Прыстаўная літара *г* пішацца ў займенніках *гэты, гэтакі, гэтулькі* і ў прыслоўях *гэтак, гэтаксама, дагэтуль, адгэтуль.*

З прыстаўной літарай *г* могуць пісацца выклічнікі: *гэй! го! га!* У словах іншамоўнага паходжання перад пачатковым *і* прыстаўное *г* не пішацца: *іронія, істэрыя, Іспанія.*

### § 14. Нескладовае *ў* і *у* складовае

1. Нескладовае *ў* пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем пасля галосных.

Пры чаргаванні [у] з [ў]:

на пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *на ўвесь дзень* (*ад усіх*), *моцны ўдар* (*ад удару*), *хацела ўзяць* (*хацеў узяць*), *сонца ўзімку* (*месяц узімку*), *крыкі «ўра»* (*крык «ура»*), *для ўніята* (*з уніятам*), *ва ўніверсітэце* (*перад універсітэтам*), *на ўзвей-вецер* (*сцяг узвіўся*), *ледзьве ўчуў* (*раптам учуў*);

на канцы склада: *паў-за, маў-зер, каў-чук, аў-дыенцыя, аў-дыякасета, аў-ра*;

пры чаргаванні [л] з [ў]: *даў, мыў, казаў, змоўклі, воўк, шоўк, шчоўк, поўны, коўзкі, маўляў, моўчкі, паўметра, боўтаць*; але: *кол, вол, анёл, выстрал, скандал, вэрхал, палка, памылка, сеялка, алкаголь, Алдан, Алжыр, Албанія, Волга, Валдай, Балгарыя*;

пры чаргаванні [в] з [ў]: *лаўка* (*лава*), *крыўда* (*крывы*), *зноўку* (*новы*), *аўса* (*авёс*), *бацькаў* (*бацькавы*), *кроў* (*крыві*), *любоў* (*любові*), *кароў* (*карова*), *гатоў* (*гатовы*), *аўчына, аўторак, каўбой, аўгур, Саўмін, Аўстрыя, Аўдоцця, Аўрора, Каўказ, Боўш, Роўда, аўгіевы стайні*; але: *краіна Влахія, краіна В'етнам, рака Влтава, армія В'етконга, змаганне за В'енцьян*.

2. Гук [у] пад націскам не чаргуецца з [ў]: *да у́рны, Брэсцкая у́нія, піва у́жгарадскае, жанчыны у́льчы, групоўка у́льтра, норма і у́зус, насілі у́нты, чулася у́ханне, ау́л, бау́л, ау́каць*, выклічнікі *у* (*у, нягоднікі!*), *ух* (*ух ты!*), *уй* (*уй, які смешны!*).

3. Гук [у] не чаргуецца з [ў] у запазычаных словах, якія заканчваюцца на *-ум, -ус*: *прэзідыум, кансіліум, радыус, страус, соус* і вытворных ад іх.

4. Гук [у] на пачатку ўласных назваў заўсёды перадаецца вялікай літарай *У* складовае без надрадковага значка: *ва Узбекістан* (*для ўзбекаў*), *на Уральскіх гарах* (*на ўральскіх дарогах*), *ва Украіне* (*за ўкраінцаў*), *пасля Указа Прэзідэнта* (*падпісаны ўказы*), *за Уладзіміра, каля Уладзіслава, да Усяслава.*

### § 15. Нескладовае *й*

1. Гук [і] пасля прыставак на галосны чаргуецца з [й] і перадаецца на пісьме літарай *й*:

у словах з коранем * іс-ці, ігр-аць, ім-я, інач-ай* на месцы ненаціскнога пачатковага каранёвага [і]: *зайсці, знайсці, прыйсці, пайшоў, выйду, увайсці, выйшаў, прыйшоў, выйграць, зайграць, перайграць, выйгрыш, перайменаваць, найменне, займенны, займеннік, пайменны, перайначыць, перайначванне*;

у словах *займаць, наймаць, пераймаць, перайманне, праймаць*.

У астатніх выпадках пачатковы каранёвы [і] захоўваецца пасля прыставак на галосны: *заіскрыцца, заікацца, заінець, праіснаваць, заінтрыгаваць, праілюстраваць, праінфармаваць, неістотны*; *Прыіртышша, Заішым'е, Заілійскі, праіранскі*.

2. У словах, вытворных ад дзеясловаў *ісці, іграць* з прыстаўкамі на зычны (*аб-, ад-, над-, раз-, уз-* і інш.), [і] чаргуецца з [ы]: *абышоў, узышоў, абысці, надысці, падысці, разысціся, падыграць, абыграць* і інш.

3. У сярэдзіне запазычаных слоў, у тым ліку ва ўласных назвах, літара *й* пішацца толькі перад зычнымі: *дызайн, Кландайк, Драйзер, Айні, лайнер, камбайн*; але: *фае, Мая*.

Гукавое спалучэнне [й] + галосны ў словах іншамоўнага паходжання перадаецца ётаванымі галоснымі, як і ў словах уласнабеларускіх:

на пачатку слова: *Ерусалім, Ёфе, Ёська, Яганесбург, Якагама, Емен, еменец, ёркшырскі, Ёжэф, Нью-Ёрк;*

пасля галоснага ў сярэдзіне слова: *маёр, маярат, маянэз, раён, Аюнскі;*

пасля галоснага на канцы слова: *фае, Мая, секвоя, параноя, Папая.*

### § 16. Падоўжаныя і падвоеныя зычныя

1. На пісьме падоўжаныя зычныя *ж, з, л, н, с, ц, ч, ш*, якія стаяць паміж галоснымі, абазначаюцца падвоеным напісаннем адпаведных літар: *замужжа, Залужжа, раздарожжа, маззю, колле, наваколле, карэнне, вараннё, двукоссе, калоссе, суквецце, ноччу, зацішша, узвышша, мышшу, ружжо, рыззё, насенне, вяселле, жыццё, ламачча, піццё, мыццё, забыццё, адкрыццё, свацця, куцця, Уручча, пяццю, дзесяццю, пяццюдзесяццю, пятнаццаццю*.

Падоўжаны гук [дз'] перадаецца спалучэннем літар *ддз*: *суддзя, разводдзе, ладдзя, пападдзя*.

2. У словах іншамоўнага паходжання, у тым ліку і ўласных назвах, і вытворных ад іх падвоеныя літары звычайна не пішуцца: *граматыка*, *група*, *калектыў*, *калекцыя*, *сума*, *карэспандэнт*, *каса*, *касір*, *тэрыторыя*; *піца, саміт; Ала*, *Васа*, *Генадзь*, *Іна*, *Нона*, *Іпаліт*, *Кірыл*, *Адэса*, *Калькута*, *Марока*, *Ніца*; але: *бонна*, *донна*, *дурра* (расліна), *манна*, *панна*, *ванна, мадонна*; *Ганна*, *Жанна*, *Мекка* і інш. Напісанне такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

3. Ва ўласных назвах падоўжанае вымаўленне зычных адлюстроўваецца на пісьме: *Аўгіння*, *Аксіння*, *Анісся*, *Аўдоцця*, *Наталля*, *Таццяна*, *Усціння*, *Фядосся*, *Траццякоўка*; *Краснаполле*, *Залессе*, *Закарпацце* і інш.; але: *Ілья*, *Емяльян*, *Касьян*, *Ульян*, *Ульяна*, *Юльян*, *Юльяна*, *Традзьякоўскі* і ўсе вытворныя ад іх: *Ільін*, *Ільіч*, *Ільінскі*, *Ільічоўка*, *Ульянаў*, *Ульянаўск*, *ульянаўскі* і інш.

## ГЛАВА 3
## ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА

### § 17. Змякчальны мяккі знак

1. Мяккі знак пішацца пасля зычных *з, л, н, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* (з мяккага *д*):

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага на канцы слова: *мядзведзь, дзень, соль, вось, чытаць, пісаць, стань, кінь, лезь, шэсць, дзесяць, штось, дзесь, кудысь, чагось, вішань, кухань, соцень, песень*;

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым зычным: *дзядзька, бацька, касьба, барацьба, пісьмо, Вязьма, Кузьма, восьмы, цьма*;

для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад наступным мяккім зычным тады, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго іншым словам таго ж кораня) гэты мяккі зычны становіцца цвёрдым, а папярэдні зычны захоўвае сваю мяккасць: *барацьбе, барацьбіт* (барацьба), *пісьменнік* (пісьмо), *васьмі, васьмю* (восьмы), *цьмяны* (цьма). Калі ж пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго іншым словам таго ж кораня) мяккасць папярэдняга зычнага не захоўваецца, то мяккасць гэтага зычнага мяккім знакам на пісьме не абазначаецца: *дзве – два, шэсць – шосты, звінець – звон*.

2. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у дзеясловах загаднага ладу:

перад канчаткам першай асобы множнага ліку *-ма*: *кіньма, сядзьма, станьма*;

перад канчаткам другой асобы множнага ліку *-це*: *будзьце, кіньце, сядзьце, станьце, намыльце*;

перад зваротнай часціцай *-ся*: *кінься, звесься.*

3. Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных у назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку *-мі*: *коньмі, людзьмі, грудзьмі, дзецьмі.*

4. Мяккі знак пішацца:

у складаных лічэбніках: *пяцьдзясят, шэсцьдзясят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот*;

у часціцы *-сьці*, якая ўваходзіць у склад слова: *штосьці, чагосьці, кудысьці, дзесьці, чамусьці, якісьці*;

у слове *ледзьве.*

5. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці [л] перад зычнымі: *пальцы, кольцы, відэльцы, сальца, вальцы, колькі, толькі, гульні, вельмі, Альф’еры, бразільскі* (Бразілія), *венесуэльскі* (Венесуэла), *дар’яльскі* (Дар’ял), *лепельскі* (Лепель), *лільскі* (Ліль), *Мангальф’е*.

6. Мяккі знак пішацца для абазначэння на пісьме мяккасці [н]:

перад суфіксам *-к-*, а таксама перад суфіксам *-чык-* (калі слова без суфікса *-чык-* заканчваецца мяккім знакам): *песенька, вішанька, нянька* (і *няньчыць*); *каменьчык* (камень), *праменьчык* (прамень), *карэньчык* (корань), *агеньчык* (агонь);

перад суфіксам *-ск-* у прыметніках і ва ўласных назвах, утвораных ад назваў месяцаў, якія заканчваюцца мяккім *н*: *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, снежаньскі*; а таксама *Чэрвеньскі раён, Ліпеньская школа*;

у суфіксе *-еньк-* (*-эньк-, -аньк-*): *маленькі, даражэнькі, прыгожанькі.*

7. Мяккі знак не пішацца:

пасля шыпячых (*ж, дж, ч, ш*), *р, ц* (не з *т* мяккага) і *д, т*, а таксама пасля губных *б, п, м, в, ф*: *дождж, ноч, мыш, цар, купец, д’ябал, голуб, п’едэстал, сям’я, В’етнам, верф*;

пасля *з, с, ц, дз* перад мяккімі зычнымі, калі пры змене формы таго ж слова або пры замене яго іншым словам таго ж кораня нельга паставіць гэтыя *з, с, ц, дз* перад цвёрдым зычным: *песня – песні – песнямі, звер – зверам – звяроў, свет – свяціць – асвятленне, дзверы – дзвярэй, чацвер – чацвяргом, чацвёрты – чацвярціна – чацверыком, цвёрды – сцвярджаць; схіліцца, скінуць, ёсць, Дзвіна, Дзмітрый*; але: *носьбіт*;

пры падаўжэнні зычных: *насенне, ралля, галлё, калоссе,* а таксама *ззяць*;

у прыметніках з суфіксам *-ск-*, утвораных ад назоўнікаў на *-нь: конскі* (конь), *астраханскі* (Астрахань), *любанскі* (Любань), *плзенскі* (Плзень), *чаньчунскі* (Чань-Чунь), *цяньшанскі* (Цянь-Шань).

### § 18. Раздзяляльны мяккі знак і апостраф

1. Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля зычных *л, с, ц* (з мяккага *т*), *дз* і непрыставачных *н* і *з* перад *е, ё, і, ю, я* ў словах іншамоўнага паходжання: *вальера, рэльеф, калье, мільён, медальён, павільён, більярд, дасье, пасьянс, разьянскі, Лавуазье, парцье, парцьера, ранцье, Фацьян, Тэнардзье, мадзьяры, кастаньеты, Тэньер, каньён, каньяк, павільён, Нью-Йорк, Тасіны, Авіны, Сены, канферансье, манпансье, Дзьюі, Карбюзье.*

2. Ва ўласных назвах, утвораных ад імён на *-ій* (*-ый*), пасля зычных *л, с, ц, дз, н, з* перад суфіксальным *-еў-* (*-ев-*) пішацца мяккі знак: *Васільеў, Васільевіч, Васільеўка, Васільеўскі востраў, Арсеньеў, Арсеньевіч, Афанасьевіч, Кандрацьеў, Кандрацьевіч, Аркадзьеў, Аркадзьевіч.*

3. Пасля *г, к, х* і збегу зычных, акрамя *нц*, перад суфіксальным *-еў-* (*-ев-*) пішацца *і* (*ы*): *Георгіеў, Георгіевіч, Акакіевіч, Яўціхіеў, Яўціхіевіч, Іракліевіч, Яўлампіевіч, Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Ануфрыеўка, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч*; але: *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьевіч* і інш.

4. Апостраф пішацца пры раздзельным вымаўленні зычных з наступным галосным:

пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную, перад *е, ё, ю, я* і націскным *і*: *ад'е́зд, аб'ём, аб'я́ва, аб'ядна́цца, пад'ёмны, раз'ю́шыцца, між'я́русны, аб'і́нець, уз'ядна́нне, ад'юта́нт, ін'е́кцыя, кан'юнкту́ра*;

у сярэдзіне слова пасля губных *б, в, м, п, ф,* заднеязычных *г, к, х,* шыпячых *ж, дж, ч, ш,* зубных *д, т* і *р* перад літарамі *е, ё, і, ю, я*: *б'ецца, куп'ё, п'юць, сям'я, Дзям'ян, вераб'і, В'етнам, саф'ян, Лук'ян, К'ёга, Мантэг'ю, Х'юстан, Буш'е, Аж'е, Ч'япа, д'ябал, інтэрв'ю, куп'істы, Пракоф'еў, Пракоф'евіч, бар'ер, надвор'е, Мар'іна Горка, Грыгор'еў, Юр'еў, Д'еп, Камп'ен*.

5. Апостраф не пішацца пасля *ў* (нескладовага) перад літарамі *е, ё, і, ю, я*: *абаўецца, саўюць, салаўі*; у складаных словах, у тым ліку, калі іх часткі пішуцца праз злучок: *цэхячэйка, дзяржюрвыдавецтва, трэд-юніёны*.

## ГЛАВА 4
## ПРАВАПІС АБРЭВІЯТУР

### § 19. Правапіс абрэвіятур

1. У абрэвіятурах скарочаныя часткі пішуцца так, як у адпаведных поўных словах: *гарсавет* (*гарадскі*), *прафсаюз* (*прафесійны*), *дзяржцырк* (*дзяржаўны*), *прамкамбінат* (*прамысловы*), *нарсуд* (*народны*), *галоўурач* (*галоўны*), *генплан* (*генеральны*), *Еўрасаюз* (*еўрапейскі*), *заапарк* (*заалагічны*), *музвучылішча* (*музычнае*), *Белдзяржпраект* (*беларускі, дзяржаўны*), *Беллітфонд* (*беларускі, літаратурны*), *райбудкантора* (*раённая, будаўнічая*), *Галоўбудмехмантаж* (*галоўны, будаўнічы, механізаваны); педфак* (*педагагічны факультэт*), *камбат* (*камандзір, батальён*), *Белгалоўсельбуд* (*беларускі, галоўны, сельскі, будаўнічы*), *Белдзяржпраект* (*беларускі, дзяржаўны*), *Гомсельмаш* (*Гомельскі, сельскі, машынабудаванне*), *ваенкамат* (*ваенны камісарыят*), *эсмінец* (*эскадраны мінаносец*), *рацыя* (*радыё, станцыя*), *райана* (*раённы аддзел народнай адукацыі*), *Цэнтрвыбаркам* (*цэнтральная выбарчая камісія*), *прафкам* (*прафсаюзны камітэт*), *ваенкам* (*ваенны камітэт*), *гарвыканкам* (*гарадскі выканаўчы камітэт*), *селькар* (*сельскі карэспандэнт*), *юнкар* (*юны карэспандэнт*), *член-кар.* (*член-карэспандэнт*), *газпрам* (*газавая прамысловасць*), *лясгас* (*лясная гаспадарка*), *рыбгас* (*рыбная гаспадарка*), *Беларусбанк* (*беларускі банк*).

2. Літарныя, гукавыя і абрэвіятуры змешанага тыпу звычайна пішуцца вялікімі літарамі без кропак, злучкоў і апострафаў: *БДУ* (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), *ВНУ* (вышэйшая навучальная ўстанова), *ЗША* (Злучаныя Штаты Амерыкі), *РВУ* (рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова), *УА* (установа адукацыі), *ЖЭС* (жыллёва-эксплуатацыйная служба), *СНД* (Садружнасць Незалежных Дзяржаў), *НАН* (Нацыянальная акадэмія навук), *ЗАТ* (закрытае акцыянернае таварыства), *СМІ* (сродкі масавай інфармацыі), *МАЗ* (Мінскі аўтамабільны завод), *ЦУМ* (цэнтральны ўніверсальны магазін), *УП* (унітарнае прадпрыемства), *ГА* (грамадскае аб'яднанне), *ТАА* (таварыства з абмежаванай адказнасцю), *ЗАГС* (запіс актаў грамадзянскага стану), *МТЗ* (Мінскі трактарны завод).

Калі да абрэвіятуры дадаецца лічба, то яна пішацца праз злучок: *ВАЗ-21, МАЗ-200, МТЗ-82*.

Калі абрэвіятура скланяецца, канчаткі пішуцца разам малымі літарамі: *у нашым ЖЭСе, працаваў на МАЗе, рамонт ЦУМа, дысертацыя ў ВАКу, вынікі НЭПа, даведка з ЗАГСа.*.

Дапускаецца напісанне малымі літарамі агульнавядомых абрэвіятур, калі слова ўспрымаецца як простае: *павёў у загс, заканчэнне нэпа, схадзіў у жэс, схаваліся ў дзот* і інш.

Малыя літары могуць уваходзіць у камбінаваныя абрэвіятуры: *ЛіМ, БелЭкспа, УП "Белкніга", БелНДВІ* (Беларускі навукова-даследчы ветэрынарны інстытут).

3. Напісанне няўласнабеларускіх (запазычаных) абрэвіятур вызначаецца слоўнікам; поўны сэнсавы беларускі адпаведнік перадае значэнне такіх запазычанняў, а не расшыфроўвае іх: *МХАТ* (Маскоўскі мастацкі акадэмічны тэатр), *заўгас* (загадчык гаспадаркі), *завуч* (намеснік дырэктара па навучальнай рабоце), *спецназ* (атрад спецыяльнага прызначэння), *АСУ* (аўтаматычная сістэма кіравання), *ГУМ* (Дзяржаўны ўніверсальны магазін), *ЮНЕСКА* (Камісія Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры), *РГІК* (Расійскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі).

4. У некаторых абрэвіятурах напісанне можа не адлюстроўваць натуральнае вымаўленне: *ТЮГ* – Тэатр юнага гледача (вымаўляецца [ц'ух]), *РІВШ* – Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы (вымаўляецца [рыўш]), *БелДІПК* – Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры (вымаўляецца [белдзіпк]).

5. Літарныя абрэвіятуры не трэба блытаць з умоўнымі графічнымі скарачэннямі, якія ўжываюцца на пісьме, але заўсёды чытаюцца поўнасцю.

Скарачэнне слоў рэгламентуецца наступнымі правіламі:

нельга скарачаць на галосную літару і на *ь*, на *й* і на *ў*;

пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай: *насен. фонд*;

пры збегу дзвюх або некалькіх зычных скарачэнне робіцца на апошнюю зычную: *народн. творчасць*;

калі імя або імя па бацьку пачынаюцца з дыграфа *Дз*, то ў якасці ініцыяла выступае толькі літара *Д*: *Дзмітрый Дзмітрыевіч – Д.Д*.

Пры графічных скарачэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя ж знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы поўнаму напісанню: *В.-Д. к.* (*Волга-Данскі канал*), *с.-д. партыя* (*сацыял-дэмакратычная партыя*), *чл.-кар.* (*член-карэспандэнт*).

6. Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак: *га* (*гектар*), *см* (*сантыметр*), *кг* (*кілаграм*), *км* (*кіламетр*) і інш.

Ніжэй прыводзяцца агульнапрынятыя скарачэнні, якія не патрабуюць спецыяльнага тлумачэння.

Напрыклад:
*акад. – акадэмік*;
*б. – былы*;
*бухг. – бухгалтэрыя*;
*в. – вёска*;
*в-аў – востраў*;
*п-аў – паўвостраў*;
*в.а. – выконваючы абавязкі*;
*вобл. – вобласць*;
*воз. – возера*;
*г. – год*;
*гг. – гады*;
*ст. – стагоддзе*;
*стст. – стагоддзі*;
*г.зн. – гэта значыць*;
*і г.д. – і гэтак далей*;

*і да т.п. – і да таго падобнае*;
*і інш. – і іншае*;
*і пад. – і падобнае*;
*гл. – глядзі*;
*параўн. – параўнай*;
*напр. – напрыклад*;
*т. – том*;
*тт. – тамы*;
*с. – старонка*;
*сс. – старонкі*;
*г. – горад*;
*гр. – грамадзянін*;
*дац. – дацэнт*;
*заг. – загадчык*;
*зб. – зборнік*;
*нам. – намеснік*;
*н.ст. – новы стыль*;
*н.э. – нашай эры*;
*праф. – прафесар;*
*р. – рака*;
*р-н – раён*;
*руб. – рубель*;
*с.-г. – сельскагаспадарчы*;
*с/с – сельскі савет*;
*ст.ст. – стары стыль*;
*тав. – таварыш*;
*т-ва – таварыства*;
*т.зв. – так званы*.

## ГЛАВА 5
## ПРАВАПІС НЕКАТОРЫХ МАРФЕМ

### § 20. Аднамарфемныя прыназоўнікі

1. Прыназоўнікі *аб, над, пад, перад* пры спалучэнні з формамі асабовага займенніка *я*, што пачынаюцца збегам зычных, пішуцца з дадатковым *а*: *аба мне, нада мной, перада мной*. Прыназоўнік *з* замяняецца ў падобных выпадках на *са: са мной* (але: *з мяне*). Прыназоўнік *у* набывае форму *ва* ў спалучэннях са словамі з пачатковым *у: ва ўніверсітэце, ва ўрачыстасцях, ва ўрочышчы.*

2. Варыянт *са* прыназоўніка *з* згодна з вымаўленнем пішацца перад збегам зычных, калі першы з іх – шыпячы або свісцячы: *са школы, са шкіперам, са сваякамі, са смеху, са зброяй, са старых часоў, са сваімі сябрамі, са звонам, са здымка, велічынёй са шраціну, са знічкай* (але: *з братам, з праўдай, з пляча, з грукатам, з цвіком, адно з двух*).

### § 21. Прыстаўкі

1. Да прыставак *аб-, ад-, над-, пад-, раз-*(*рас-*), *с-*(*з-*), *уз-*(*ус-*) пры спалучэнні з наступнымі марфемамі, што пачынаюцца збегам зычных, далучаецца дадатковае *а*: *абарваць* (*абрываць*), *абагнаць* (*абганяць*), *адаспаць* (*адсыпацца*), *адапхнуць* (*адпіхваць*), *абамшэлы* (*мох*), *сабраць* (*збяру*), *сарваць* (*зрываць*), *надагнуць* (*надгінаць*), *падаспець, сатлелы, абамлець*. Дапускаецца напісанне ўстаўнога *а* (*абапіць, абабіць, абабягаць, абаперцыя*) для раздзялення двух губных гукаў.

2. Прыстаўка *су-* пішацца ў назоўніках:

дзе *су-* вылучаецца толькі гістарычна: *сусед, сувой, сувязь, супын, супынак, сутаргі, сумятня, супастат, супоня, суткі, сутокі, суцяга, сумёт, сустаў*;

як правіла, у новых утварэннях, калі ёсць слова і без *су-: суграмадзянін, супалімер, сукрэдытор, сукіраўнік, супастаўшчык, сучлен, суапякун, супрацоўнік, суродзіч, сунаймальнік, суспадчыннік, суадказчык, сузабудоўшчык, сувыканаўца* і інш.;

у словах, якія без *су-* не ўжываюцца: *суквецце, сузор'е, суладдзе, сугучча, суглінак, супесак, сукравіца, сузіральнік, сумежжа*.

3. Прыстаўка *су-* пішацца:

у дзеясловах: *суадносіць, супадпарадкоўваць, сумяшчаць, суіснаваць, сустракаць, сутыкацца, супярэчыць, супастаўляць, суадпавядаць, супадаць*;

у прыметніках: *сумежны, сувымерны, сувосевы, сукупны, суладны, сугучны, сучасны, сувымяральны, супольны, сумесны, суцэльны*;

у прыслоўях: *супраць* (*супроць*).

4. Прыстаўка *су-* захоўваецца ў лексемах, словаўтваральна звязаных са словамі, што маюць прыстаўку *су-*: *сутачны* (*суткі*), *суцяжнічаць* (*суцяга*), *сурэдактарстваваць* (*сурэдактар*), *суапякунства* (*суапякун*), *сузіранне* (*сузіраць*), *сумяшчальнік* (*сумяшчаць*), *сустрэчны* (*сустрэча*), *супярэчлівасць* (*супярэчлівы*), *сумежнасць* (*сумежны*), *супольнасць* (*супольны*), *сумесна* (*сумесны*), *насуперак* (*супраць*) і інш.

5. Прыстаўка *са-* пішацца:

у некаторых назоўніках, дзе прыстаўка выдзяляецца толькі гістарычна: *сасуд, савет, сабор, саюз, саслоўе*;

у запазычаннях і кальках (пераважна з рускай мовы): *саіскальнік, сакурснік, садружнасць, сатрапезнік, сачыненне, састаў, саслужывец* і інш.

6. Прыстаўка *са-* захоўваецца:

у лексемах, словаўтваральна звязаных са словамі з прыстаўкай *са-: саўдзел* (*саўдзельнік*), *саслоўны* (*саслоўе*), *састыкоўванне* (*састыкаваць*), *састаўляць* (*састаў*), *сашчэпка* (*сашчапіць*), *сапраўды* (*сапраўдны*) і інш.;

у дзеясловах, калі *са-* з'яўляецца варыянтам *с-* (перад збегам зычных): *садраць* (параўн.: *здзяру*), *сагнаць* (параўн.: *зганю*), *саскочыць, сажмурыць, сасмажыць, саслабець, сасватаць, састроіць, сашмаргнуць, сашпіліць, саштурхнуць, сасмягнуць, сагнуць, саграшыць, сашчыкнуць, сашчапіць* і інш.;

у прыметніку *сапраўдны* і вытворных ад яго.

Спрэчныя выпадкі напісання прыставак *су-* і *са-* вызначаюцца па слоўніку.

7. Калі апошняя зычная літара прыстаўкі і першая літара кораня супадаюць, то пішуцца абедзве літары: *аддача, аддалены, Наддзвінне, наддаць, бяззорны, ззаду, ззелянелы, ссадзіць, ссівелы, бессардэчны, паддаўкі, паддопытны, рассыпаць, раззлавацца, рассаднік* 'тое, што з'яўляецца крыніцай чаго-небудзь', *уссаджваць, контрразведка, звышштатны, транссібірскі.*

Словы-тэрміны іншамоўнага паходжання часткова падпарадкоў-ваюцца гэтаму ж правілу (асабліва тады, калі ёсць адпаведнае слова без прыстаўкі, а прыстаўка далучаецца і да іншых каранёў): *сюррэалізм, аддукцыя* (параўн.: *рэалізм, індукцыя*).

У значнай колькасці выпадкаў літары не падвойваюцца, бо слова ўспрымаецца як невытворнае ў беларускай мове: *інавацыя, ірыгацыя, ірэальны, іміграцыя, акамадацыя, карэляцыя, аперцэпцыя, дысідэнт, імартэль, анігіляцыя, інервацыя, акорд, карэспандэнт*. Напісанне такіх слоў-тэрмінаў вызначаецца па слоўніку.

У словах *расол, расольнік, расада, расаднік* ‘месца, скрынка для вырошчвання расады’ адбылося сцяжэнне гукаў, і таму яны пішуцца з адным *с*.

8. Да прыставак на *з-* адносяцца: *з-, із-, уз-, раз-, без-, небез-, абез-, праз-, цераз-*, а таксама *дыз-* і *дэз-*. У пэўных пазіцыях літара *з* замяняецца літарай *с.*

У прыстаўках *з-, із-, уз-, раз-, без-, небез-, абез-, праз-, цераз-* літара *з* пішацца перад звонкімі, санорнымі зычнымі і ётаванымі галоснымі (перад апострафам): *збіць, здаць, знесці, ізноў, узняць, узбіцца, розгалас, бязмежны, небеззаганны, небязгрэшны, абезгалосець, абязгрошыць, празмерны, цераззерніца* і пад.; *раз'есці, раз'езд, абяз'ёдаваны, з'інець, раз'юшаны, без'языкі, бяз'ядзерны, з'ялчэць, з'явішча, уз'юрыцца*. У слове *разявіць* і вытворных ад яго, а таксама ў словах *узлаваць* і *ўзлавацца* адбылося сцяжэнне [з] – прыстаўкі і [з] – кораня.

У гэтых жа прыстаўках замест літары *з* пішацца літара *с* перад глухімі зычнымі: *скінуць, схапіць, іспыты, усхваляць, раскідаць, роспіс, беспадстаўны, небескарысны, абяскровіць, абясшкодзіць, цераспалосіца, росшукі, росчырк*.

9. Калі пасля прыстаўкі *з-* ідзе няётаваная галосная, то напісанне *з* ці *с* вызначаецца па слоўніку: *зараць, зарыентавацць, зыначыць, зымправізаваць, зэканоміць, зэканомлены, сахвоціцца, сыграць*.

10. У словах, утвораных ад дзеясловаў *ісці, хадзіць*, прыстаўкі на *з-* пішуцца ў залежнасці ад лексічнага значэння (па слоўніку): *зысці – сысці, зысціся – сысціся, зыходзіць – сыходзіць, зыходзячы – сыходзячы, зыходны – сходны, сыходны, зыход – сход.*

11. У прыстаўцы *дыз-* пішацца *з* перад галоснымі (у тым ліку ётаванымі) і *с* – перад зычнымі: *дызасацыяцыя, дызартрыя, дыз'юнкцыя, дысгармонія, дыспрапорцыя, дыскваліфікаваць, дысфункцыя, дыскрэдытаваць, дыскамфорт.*

12. Прыстаўка *дэз-* пішацца нязменна: *дэзадарант, дэзактывацыя, дэзарыентацыя, дэзынфекцыя, дэзынтэграцыя, дэзурбанізацыя.*

13. Спалучэнні літар *сч, сш, сшч, зж, здж* на стыку прыстаўкі і кораня перадаюцца нязменна (не па вымаўленні): *расчахляць, расчэсваць, расчыніць, счысціць, счапіць, счэп, усчаць, счакацца, бесчалавечны, бясчулы*; *расчапіць* ‘раз'яднаць’, *усчапіць* ‘павесіць’, *расшчапіць* ‘раскалоць’, *расшчапленне* ‘расколванне’, *расшчэп* ‘раскол’, (не блытаць *счапіць* і *шчапаць*) *расшчаміць* ‘разняць’, *расшчодрыцца, расшчоўкацца*; *расшыць, расшырэнне, сшытак, сшарэлы, расшумецца, расшпілены, бясшкодны, бясшлюбны*; *зжыцца, разжаць, разжаліць, разжаніць, разжыва, безжурботна, безжыццёвы*; *зджаліць*.

Выключэнні: *рашчыніць* ‘паставіць цеста’, *ушчуваць, нішчымны,* а таксама вытворныя ад іх: *рошчына, ушчуванне, ушчунак, нішчымніца*.

14. Пры спалучэнні прыставак (*аб-, ад-, раз-, над-, пад-, з-*(*с*-), *уз-, перад-, дэз-, суб-*), прэфіксоідаў (*звыш-, між-, сярод-, пан-, супер-, транс-, кантр-*), частак слова ў складаных словах (*паліт-, пед-, дзярж-* і пад.), што заканчваюцца на цвёрды зычны, з коранем або іншай прыстаўкай, якія пачынаюцца на *і* згодна з вымаўленнем замест *і* пішацца *ы*: *абыграць, абымшэлы, абынтэлігенцыцца, зымправізаваць, зыначаны, зысці, сысці, адыграць, адыменны, адыходзіць, сыграцца, сышчык, узыход, спадыспаду* (*спадысподу*), *падыспытны, падынтэграваць, падыход, разысціся, перадымперскі, перадыспытны, спадылба, субынспектар, дэзынтэгратар, дэзынфармацыя, дэзынфіцыраваць*; *звышымклівы, звышындустрыяльны, звыш-ынфляцыя, міжырыгацыйны, міжынстытуцкі, панысламізм, кантрыдэя, кантрыгра, суперынтэлект, трансындыйскі, педынстытут, дзяржынспектар, палітынфармацыя, санынструк-тар, цяжындустрыя, медынструменты, спецынструктаж, гарынспекцыя, гасынвентар*.

Прэфіксоід *экс-* пішацца праз злучок, і *і* не пераходзіць у *ы*: *экс-інжынер, экс-імператар*.

Некаторыя словы з коранем *-ход-* маюць варыянтныя формы: *адыходлівы – адходлівы, адыходнае – адходнае, адыход – адходы, адыходнік – адходнік*.

## § 22. Суфіксы

1. Пераважная большасць запазычаных дзеясловаў ужываецца з суфіксам *-ава-* (*-ява-*): *дэградаваць, фальсіфікаваць, арыентаваць, прагназаваць, балансаваць, цытаваць, аналізаваць, іранізаваць, культываваць, кантактаваць, планаваць, групаваць, нацыяналізаваць, прыватызаваць, дэклараваць, ліквідаваць, акліматызаваць, перафразаваць, кваліфікаваць, інфармаваць, урбанізаваць, каталізаваць, функцыянаваць, ваенізаваць, кантраляваць, тыпізаваць, паразітаваць, фінансаваць, культываваць, тыражаваць, ігнараваць, рэагаваць, кансультаваць, прафіляваць, ангажаваць, нерваваць, абстрагаваць, імпартаваць, дэбатаваць, дэбютаваць, інспектаваць, экспартаваць, рэканструяваць, дыскутаваць, правакаваць, фінішаваць*.

2. Дзеяслоўны суфікс *-ірава-* (*-ырава-*) ужываецца:

калі без гэтага суфікса ўзнікае аманімія дзеясловаў з дзеясловамі з суфіксам *-ава-* (*-ява-*): *буксіраваць – буксаваць, парадзіраваць – парадаваць, візіраваць – візаваць, будзіраваць – будаваць, газіраваць – газаваць, камандзіраваць – камандаваць, пазіраваць – пазаваць, пасіра-ваць – пасаваць, тушыраваць – тушаваць, парырав аць – параваць, планіраваць – планаваць, паніраваць – панаваць, фарміраваць – фармаваць, апаніраваць – апанаваць*;

калі дзеяслоў без *-ір-* (*-ыр-*) губляе сваю фармальную і семантычную акрэсленасць: *шакіраваць, бісіраваць, бравіраваць, гарманіраваць, драпіраваць, лабіраваць, грасіраваць, курыраваць, лавіраваць, дэкарыраваць, сервіраваць, фантазіраваць, лакіраваць, штудзіраваць, мусіраваць, татуіраваць* і інш.;

калі дзеяслоў мае вузкатэрміналагічнае значэнне: *манціраваць, пасівіраваць, аксідзіраваць, зандзіраваць, дэкаціраваць, сталіраваць, дэмпфіраваць, юзіраваць, юсціраваць, парафіраваць, дыфундзіраваць*;

у некаторых выпадках паралельна ўжываюцца дзве формы: *дэмаскіраваць – дэмаскаваць, акупіраваць – акупаваць, курсіраваць – курсаваць, калькіраваць – калькаваць, базіраваць – базаваць*.

3. Суфікс *-ава-* (*-ява-*) пішацца ў неазначальнай форме і формах прошлага часу тых дзеясловаў, якія ў першай асобе адзіночнага ліку губляюць гэты суфікс і заканчваюцца на *-ую* (*-юю*): *галасую – галасаваць, галасаваў, галасавала, галасавалі, начую – начаваць, чаргую – чаргаваць, малюю – маляваць, камандую – камандаваць, пакутую – пакутаваць, даследую – даследаваць, будую – будаваць, рэкамендую – рэкамендаваць, характарызую – характарызаваць*.

4. Суфікс *-іва-* (*-ыва-*) пішацца ў неазначальнай, асабовых формах дзеяслова і ў формах прошлага часу

незакончанага трывання пасля збегу зычных, апошні з якіх *л, р* або *н*: *падкрэсліваць, падкрэсліваю, падкрэсліваў, падкрэслівалі*; *падтрымліваць, адыгрываць, выветрываць, запэўніваць*.

5. Суфікс *-ва-* пішацца ў астатніх выпадках: *выконваць, выконваю, выконваў, выконвалі; адказваць, вымешваць, адмерваць, заканчваць, загадваць, адорваць, разбэшчваць, падстрэльваць, раздумваць, заваёўваць, зацярушваць, дагульваць, размяркоўваць, забінтоўваць, распілоўваць*.

У дзеясловах *выйграваць* і *прайграваць* пішацца суфікс *-ава-*.

6. Калі неазначальная форма дзеяслова закончанага трывання заканчваецца на *-іць* або *-яць* з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам *-ва-* пішацца *й*: *утаіць – утойваць, супакоіць – супакойваць, засвоіць – засвойваць, узброіць – узбройваць, напаіць – напойваць, склеіць – склейваць, абнадзеіць – абнадзейваць*; *засеяць – засейваць, абсмяяць – абсмейваць, запаяць – запайваць, настаяць – настойваць*.

7. Трэба адрозніваць суфікс дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу *-ен-* і спалучэнне галоснай *я* дзеяслоўнай асновы з суфіксам дзеепрыметнікаў *-н-*. Суфікс *-ен-* пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў на *-іць, -ці*: *адчынены, выбелены, згублены, супакоены, споены, накормлены, куплены, спаганены, скрыўлены, запылены, дазволены, зроблены, пазнаёмлены, асілены, заклеены, спалены, схілены, разяўлены, прастрэлены,* а таксама *звезены, прынесены, растрэсены, заведзены, спрадзены, пакрадзены, аплецены, мецены*.

8. Пры чаргаванні ў аснове дзеяслова [с'] – [ш], [з'] – [ж], [ц'] – [ч ], [дз'] **–** [дж] пішацца суфікс *-ан-*: *насіць – ношаны, запрасіць – запрошаны, апярэдзіць – апярэджаны, круціць – кручаны, уразіць – уражаны.*

9. Спалучэнне галоснай *я* дзеяслоўнай асновы з суфіксам дзеепрыметнікаў *-н-* пішацца ў тых дзеепрыметніках, якія ўтвораны ад дзеясловаў на *-яць-*: *пасеяны, разveяны, змуляны, аблаяны, абсмяяны* (не пад націскам) і *спаяны, абстраляны, павыдумляны, абмяняны* (ад *абмяняць*).

10. Суфікс *-ец-* (*-ац-*) пішацца ў назоўніках мужчынскага роду. Пры змяненні слова галосны выпадае: *акраец, індыец, разец, ісцец* (родны склон *істца*), *плывец, мсцівец, вясковец, кармілец, удалец, баец, бельгіец, незнаёмец*; *канькабежац, аварац, запарожац*.

11. Суфікс *-іц-* (*-ыц-*) пішацца ў назоўніках жаночага роду і беглага галоснага не мае: *ваколіца, патыліца, спадарожніца*, *мсцівіца, карміліца, розніца, кірыліца, кніжыца*.

12. Памяншальна-ласкальны суфіксальны комплекс *-ічк-* (*-ычк-*) пішацца ў назоўніках жаночага роду, якія ўтварыліся ад слоў з фіналлю *-іц-* (*-ыц-*): *лесвічка, крынічка, сунічка, завушнічка, запальнічка, палічка* (ад *паліца*).

У астатніх выпадках пішацца памяншальна-ласкальны суфіксальны комплекс *-ечк-* (*-ачк-*): *дзядзечка, бутэлечка, лялечка*; *цётачка, галовачка, булачка, палачка* (ад *палка*), *рэчачка, курачка* (ад *курка*), *качачка, божачка, вушачка*; *Сонечка, Волечка, Ванечка, Жэнечка, Сцёпачка, Наташачка, Ганначка*.

13. Суфікс *-ак-* (*-ек-*) пішацца не пад націскам у назоўніках, якія ва ўскосных склонах губляюць суфіксальнае *а* ці *е*: *сшытак – сшытка, пасынак – пасынка, каласочак – каласочка, дожджычак – дожджычку, прыцемак – прыцемку, аловак – алоўка, перашыек – перашыйка*.

14. Суфіксы *-ік-* (*-ык-*), *-нік-, -чык-* пішуцца нязменна ва ўсіх формах слоў: *конік – коніка, столік – століка, хлопчык – хлопчыка, дожджык – дожджыку, вожык – вожыка, тэарэтык, спадарожнік, каморнік, пернік, пеўнік, вагончык, любімчык, дарадчык*.

15. Суфікс *-ень-* (*-ань-*) ва ўскосных склонах у адных назоўніках губляе галосны, у іншых галосны захоўваецца: *чэрвень – чэрвеня, ліпень – ліпеня, кісцень – кісцяня, вусень – вусеня, студзень – студзеня*, але *жнівень – жніўня, верасень – верасня, снежань – снежня, вучань – вучня, шчэбень – шчэбню, валасень – валасня*. Часам дапускаюцца абедзве формы: *кіпень – кіпеню* і *кіпню, промень – промені* і *промні*.

16. Суфіксы *-чык-* (*-чыц-*) і *-шчык-* (*-шчыц-*) ужываюцца пры ўтварэнні назоўнікаў, што называюць людзей паводле заняткаў.

Суфікс *-чык-* (*-чыц-*) пішацца:

калі ўтваральная аснова заканчваецца на пярэднеязычныя *д, т, з, с*: *аб'ездчык, дакладчык, дарадчыца, наладчык; ракетчык, пераплётчыца, лётчык*; *грузчык, возчык, рэзчык; перапісчык, перапісчыца* (а таксама ў адпаведных прыметніках: *дарадчыцкі, перапісчыцкі* і пад.);

калі ў канцы ўтваральнай асновы адбываецца чаргаванне *г – ж*: *перабягаць – перабежчык, перабежчыца, перабежчыцкі, нябога – ня- божчык, абцягваць – абцяжчыца*.

17. Суфікс *-шчык-* (*-шчыц-*) пішацца:

калі аснова заканчваецца на санорныя *р, л, м, н, й*: *зваршчык, наборшчыца, вугальшчык, мадэльшчык, прыбіральшчыца, атамшчык, паромшчык, бетоншчыца, згоншчык, мыйшчык, пайшчык, пайшчыца, забойшчык* (а таксама ў адпаведных прыметніках: *наборшчыцкі, пайшчыцкі* і пад.);

пасля спалучэнняў тых жа санорных з наступнымі *т, г* утваральнай асновы: *працэнт – працэнтшчыца, аліменты – аліментшчык, аліментшчыца, кобальт – кобальтшчык, цюбінг – цюбінгшчык*;

калі ўтваральная аснова заканчваецца на губныя зычныя *б, п, м, ф, ў (в)*: *рубшчык, гардэробшчыца, апалубшчык, падкопшчык, скупшчык, скупшчыца, літаграфшчык, бунтаўшчык, нарыхтоўшчык, палясоўшчык, забудоўшчык, паромшчык*.

18. З дапамогай суфіксаў *-чын-* і *-шчын-* утвараюцца дзве семантычна адрозныя групы імён: назоўнікі са значэннем пэўнай грамадскай з'явы і назоўнікі са значэннем рэгіёна, абшару. Суфікс *-чын-* пішацца пасля ўтваральных асноў, што заканчваюцца на *д – т , з – с , ж – ш , дж – ч*: *складчына* (*склад-*), *спадчына* (*спад-*), *азіятчына* (*азіят-*), *салдатчына* (*салдат-*), *братчына* (*брат-*), *старасветчына* (*-свет-*), *казаччына* (*казак-/казач-*), *рэкрутчына* (*рэкрут-*); *Валагодчына* (*валагод-*), *Брэстчына* (*брэст-*), *Навагрудчына* (*навагруд-*), *Ноўгарадчына* (*ноўгарад-*), *Суражчына* (*сураж-*), *Добрушчына* (*добруш-*), *нямеччына* (*нямец-/нямеч-*), *турэччына* (*турэц-/турэч-*), *Дабружчына* (*дабруж-*), *Глушчына* (*Глуск: глух-/глуш-*), *Грэшчына* (*Грэск: грэс-/грэш-*), *Полаччына* (*Полацк: полат-/полац-/полач-*), *Случчына* (*Слуцк: слуц-/случ-*).

19. Суфікс *-шчын-* пішацца пасля ўтваральных асноў, што заканчваюцца на губныя *б, п, ф, в, м* або санорныя *н, р, л, й*, а таксама *ў* (з *в* або *л*): *скупшчына* (*скуп-*), *здзельшчына* (*здзель-*), *нелегальшчына* (*нелегаль-*), *партызаншчына* (*партызан-*), *мінуўшчына* (*мінул-/мінуў-*), *манілаўшчына*

(*манілав-/манілаў-*), *суб'ектыўшчына* (*суб'ектыв-/суб'ектыў-*), *абломаўшчына* (*абломав-/абломаў-*), *літаратуршчына* (*літаратур-*), *ваеншчына* (*ваен-*), *кампанейшчына* (*кампаней-*), *тарабаршчына* (*тарабар-*), *татаршчына* (*татар-*), *канцыляршчына* (*канцыляр-*), *папоўшчына* (*папов-/папоў-*), *хаваншчына* (*хаван-*), *мітынгоўшчына* (*мітынгов-/мітынгоў-*), *цыганшчына* (*цыган-*); *Браслаўшчына* (*браслаў-*), *Гомельшчына* (*гомель-*), *Гуцульшчына* (*гуцуль-*), *Гродзеншчына* (*гродзен-*), *Смаленшчына* (*смален-*), *Міншчына* (*мін-*), *Бабруйшчына* (*бабруй-*), *Зэльвеншчына* (*зэльвен-*), *Магілёўшчына* (*магілёў-*), *Віцебшчына* (*віцеб-*).

Суфікс *-шчын-* пішацца і тады, калі ўтваральная аснова заканчваецца зычным з папярэднім санорным: *інтэлігентшчына* (*інтэлігент-*), *эмігрантшчына* (*эмігрант-*), *Самаркандшчына* (*самарканд-*).

20. У прыметніках і прыслоўях з ласкальным значэннем:

пасля мяккіх зычных незалежна ад месца націску пішацца суфікс *-еньк-*: *круценькі, маленькі, ціхенькі, нізенькі, ціхенька*; *паўнюсенькі, утульненькі, беленькі, борздзенькі, паўнюсенька, хуценька*;

пасля цвёрдых зычных пад націскам пішацца суфікс *-эньк-*, а не пад націскам *-аньк-*: *даражэнькі, старэнькі, харошанькі, свежанькі, добранькі, гарачанькі.*

21. Падвоенае *н* пішацца ў суфіксальнай марфеме *-энн-* (*-енн-*) у прыметніках з павелічальным значэннем (*страшэнны, здаравенны, таўсценны, худзенны, высачэнны*), у прыметніках з якасна-адносным значэннем (*дратвенны, брытвенны, дарэформенны, абедзенны, свяшчэнны, вогненны*).

22. Падвоенае *нн* пішацца на стыку ўтваральнай асновы і суфікса паміж галоснымі:

калі ўтваральная аснова заканчваецца на *н*, а суфікс пачынаецца з гэтай жа літары: *дзённік, імяніннік, сяннік, маліннік, выгнаннік, дзянніца, абранніца, падаконнік, коннік, сасоннік*; *карцінны, дывізіённы, гартанны, конны, глыбінны, вінны, летуценны, паддонны, ваенны, вясенні, няспынны, бяссонны, айчынны, бязвінны, незаменны, прасцінны, дрэнны, дабрачынны, параённы*;

калі аснова слова заканчваецца на *нн*, а суфікс пачынаецца на *н*: *ванны* (набор), *манныя* (крупы);

у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на *-мя*: *іменны, імянны, пайменны, племянны, страмянны, цемянны.*

Выключэнне: *палымяны.*

23. Суфіксы *-ск-* і *-ств-* пішуцца:

калі ўтваральная аснова заканчваецца на *с*, то на пісьме спалучэнне *сс* передаецца адной літарай: *матроскі, рускі, беларускі, хакаскі, папуаскі, тунгускі, лаоскі, гандураскі, уэльскі, адэскі, арзамаскі, вільнюскі, чавускі, копыскі, палескі, залескі, прускі, тбіліскі, кутаіскі, туніскі, эскімоскі, індускі, пелапанескі*;

калі ўтваральная аснова заканчваецца на *д, з*, то спалучэнне іх з суфіксальным *с* падаецца як *дс, зс*: *горад – гарадскі, люд – людскі, грамада – грамадства, сусед – суседскі, параход – параходства, бяда – бедства, Бесядзь – бесядскі*; *француз – французскі, Каўказ – каўказскі, Сілезія – сілезскі*;

у словах, вытворных ад асноў славянскага паходжання на *к*, спалучэнне *к* і суфіксальнага *с* на пісьме передаецца як *ц*: *лясніцтва, мастацтва, сваяцтва, спаборніцтва, гарняцкі, казацкі, крыжацкі, сакавіцкі, асветніцкі, наглядальніцкі, славацкі, гарадоцкі, беластоцкі, уладзівастоцкі, чашніцкі, па-славацку*;

у словах, утвораных ад асноў на *к* неславянскага паходжання, захоўваецца на пісьме спалучэнне *кс*: *арынокскі, нью-ёркскі, бангкокскі, бузулукскі, цюркскі, каракскі, каракалпакскі, квебекскі, таджыкскі, узбекскі*;

у прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў на *-ка, -кі*, зычны *к* у канцы слова перад суфіксам *-ск-* знікае, калі перад *к* ёсць іншы зычны: *крупскі* (*Крупкі*), *дудзінскі* (*Дудзінка*), *церахоўскі* (*Церахоўка*), *ямайскі* (*Ямайка*), *вяцкі* (*Вятка*); але: *касабланкскі*;

калі ўтваральны назоўнік заканчваецца на літары *-ск*, то суфікс *-ск-* зліваецца з імі: *Пінск – пінскі, Глуск – глускі, Новасібірск – новасібірскі, Дамаск – дамаскі, этруск – этрускі*; але: *баск – баскскі*;

калі ўтваральная аснова слова заканчваецца на *т, ц, ч*, а суфікс пачынаецца зычным *с*, то спалучэнні *тс, цс, чс* на пісьме передаюцца праз *ц* згодна з вымаўленнем: *агенцтва, балцкі, брацкі, адвакацкі, салдацкі, лабаранцкі, парламенцкі, брэсцкі, бейруцкі, па-фармалісцку, па-інтэлігенцку*, *выдавецтва, кравецкі, івянецкі, прыпяцкі, суэцкі, па-спажывецку*, *па-купецку*, *ткацкі, баранавіцкі, парыцкі, грэцкі* (арэх, мука, крупы), *скрыпацкі, чытацкі, па-дзявоцку*;

калі ўтваральная аснова слова заканчваецца на *ж, ш, х* (у тым ліку і пры чаргаванні [г] – [ж], [х] – [ш]), а суфікс пачынаецца зычным *с*, то спалучэнні *жс, шс* у агульных назвах передаюцца толькі адным *с*: *прыгожы – прыгоства, таварыш – таварыства, харошы – хараство, мног/множ – мноства, убог/убож – убоства, бог/бож – боскі, птах/пташ – птаства, наш – наскі*, а таксама *княжыць – княства.* У некаторых выпадках, якія вызначаюцца па слоўніку, чаргаванне [г] – [ж], [х] – [ш] адсутнічае: *Буг – бугскі, Гаага – гаагскі, Катанга – катангскі, казах – казахскі, Цюрых – цюрыхскі, Карабах – карабахскі, фелах – фелахскі, шах – шахскі, ніўх – ніўхскі, Пецярбург – пецярбургскі*;

у прыметніках, утвораных ад уласных назваў і назваў народаў, спалучэнні *жс, шс* передаюцца нязменна: *Нясвіж – нясвіжскі, Сураж – суражскі, Парыж – парыжскі, Балхаш – балхашскі, латыш – латышскі, чуваш – чувашскі, Волг/Волж – волжскі, чэх/чэш – чэшскі, Праг/Праж – пражскі, вараг/варaж – варажскі*.

24. Падвоенае *цц* пішацца:

у інфінітыве зваротных дзеясловаў: *змагацца, брацца, купацца, вучыцца, прасіцца, імчацца*;

у трэцяй асобе адзіночнага і множнага ліку зваротных дзеясловаў: *змагаецца, змагаюцца, бярэцца, бяруцца, купаецца, купаюцца, вучыцца, вучацца, просіцца, просяцца, імчыцца, імчацца*;

у лічэбніках *адзінаццаць – дваццаць, трыццаць* і вытворных ад іх: *адзінаццаты, дваццатка, пятнаццацігадовы*.

## ГЛАВА 6
## ПРАВАПІС ВЯЛІКАЙ І МАЛОЙ ЛІТАР

### § 23. Агульныя правілы правапісу вялікай і малой літар

1. З вялікай літары пішацца:

першае слова ў сказе: *Былі пагодныя дні. З сонцам ад рання да вечара, з сінім небам* (І. Мележ). *Уцякай, мароз-дзядуля! Чуеш ты, стары, ці не?* (Я. Колас). *Усю дарогу праз лес мяне суправаджала нябачная птушка тоненькім жалобным плачам. Што яна страціла? Па чым плакала?* (І. Шамякін). *Найсмачнейшыя цяпер брусніцы – як вінныя яблыкі... Яны на пасецы растуць шышкамі. Як бабок на балоце* (І. Пташнікаў);

першае слова пасля клічніка, якім выдзяляецца зваротак, а таксама выклічнік у пачатку сказа: *Зямля Беларусі! Табой мы сагрэты, ніколі не сходзіш ты з нашых вачэй* (П. Броўка). *А-я-яй! Хто ж бы гэта мог падумаць! Гэтакі, здаецца, чалавек!..* ( К. Крапіва);

першае слова ва ўстаўных сказах-рэмарках, якія падаюцца ў дужках у пачатку тэксту і пасля кропкі, клічніка, пытальніка і шматкроп'я ў канцы сказа: Г а р л а х в а ц к і. *Н е толькі сакрэт, а дзяржаўная тайна.* (Ідзе ў свой кабінет.) (К. Крапіва). *Я размяк.* (Душа ў паэта чулая.) (П. Панчанка). С ы м о н. *Калі пытаюся, то няхай кажа!* (Да Данілкі.) *Ну! Чуеш ці не?* (Я. Купала). С ы м о н. *А хто будаваў гэтай вось сякерай?* (Трасе сякерай.) (Я. Купала). Д а н і л к а. *Я ж табе, мама, казаў! Зоська пайшла…* (Глянуўшы на матку, не дагаворвае.) (Я. Купала).

2. Па традыцыі з вялікай літары пачынаецца кожны новы радок (першае слова) у вершаваных тэкстах:

*Дагарэў за брамай небакрай,*
*Месяц паміж воблачкаў*
*плыве,*
*Выйду зноў, як у мінулы май,*
*Басанож прайдуся па траве.*
(У. Караткевіч).

3. З вялікай літары пішацца першае слова пасля двукроп'я:

у пачатку простай мовы: *Ён падумаў: «Ніхто цябе не бачыць, ніхто не ведае, якая ты слаўная і мілая, – і дадаў: – Дурні яны!»* (Я. Колас). *Уладзімір Святаслававіч паслаў да полацкага князя Рагвалода сказаць: «Хачу дачку тваю ўзяць за жонку». Рагвалод спытаў у дачкі: «Ці хочаш ісці за Уладзіміра?» Яна адказала: «Не хачу разуць сына рабыні, а хачу за Яраполка»* (М. Ермаловіч);

у пачатку цытаты, якая з'яўляецца самастойным сказам: *П. Глебка з поўнай падставай пісаў: «Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў»* («ЛіМ»);

у сцвярджальнай частцы рашэння, пастановы, рэзалюцыі, пратакола, акта, выпіскі з дакумента і інш.

Напрыклад:

*Пастанавілі:*

*Зацвердзіць справаздачу рэвізійнай камісіі аб фінансавай дзейнасці прафкама*

(з пратакола
прафсаюзнага сходу).

*З арыгіналам згодна:*
*Сакратар выканкама*
(подпіс)
(з копіі дакумента).

4. Калі цытата ўключаецца ў просты ці складаны сказ у якасці яго граматычнай часткі, тады яна пачынаецца з малой літары: *Якуб Колас справядліва ўказваў, што «родная мова – гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет»* («ЛіМ»). *Паводле глыбокага пераканання Дубоўкі, моўныя скарбы – у народзе, «настаўнікаў, мудрэйшых, чым народ, не бывае»* («Беларуская мова. Энцыклапедыя»).

5. Пішацца з малой літары:

першае слова пасля шматкроп'я, калі яно стаіць у сярэдзіне сказа і абазначае прыпыненне ў маўленні: *Зямля... зямля... туды, туды, брат, будуй яе... ты дай ёй выгляд...* (Я. Колас). Т у л я г а. *Толькі я хацеў запытацца ў вас, ці не будзе гэта… подласцю?* (К. Крапіва). *А што вы скажаце на крытыка, Іван Ант.., выбачайце, Мацвеевіч?* (З. Бядуля);

першае слова ў сярэдзіне сказа пасля шматкроп'я, якое абазначае, што частка гэтага сказа апушчана: *З невялікай і чыстай крыніцы лірычнага пачуцця... пачынаецца раман-паэма аб жыцці беларускага простага люду* (А. Адамовіч);

першае слова пасля клічніка, калі ён стаіць у сярэдзіне сказа: *І кожны, хто мяне спытае, пачуе толькі адзін крык: што хоць мной кожны пагарджае, я буду жыць! – бо я мужык!* (Я. Купала);

першае слова ў словах аўтара, якія ідуць пасля простай мовы з клічнікам, пытальнікам або шматкроп'ем: *«Надзя! Надзейка!..» – кліча жалейка* (П. Броўка). – *У школу я больш не пайду!.. – Як гэта – не пайду? А куды ты пойдзеш? – абурыўся Сяргей* (І. Шамякін);

першае слова ў рэмарках да слоў дзейнай асобы, калі рэмарцы не папярэднічае кропка, клічнік, пытальнік ці шматкроп'е пасля гэтых слоў: Г а р л а х в а ц к і. *А можа, і праўда бландзінка. Значыць, яна гэтае самае* (круціць рукой каля валасоў) *пабландзінілася, а я і не заўважыў* (К. Крапіва).

### § 24. Вялікая і малая літары ў асабовых назвах

1. З вялікай літары пішуцца:

імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, мянушкі, а таксама дадатковыя азначэнні пры гэтых назвах: *Іван, Янка, Ясь, Яська, Ваня; Ганна, Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч* (*Якуб Колас*), *Іван Дамінікавіч Луцэвіч* (*Янка Купала*), *Алаіза Пашкевіч* (*Цётка*), *Сымон Якаўлевіч Баранаў* (*Сымон Баранавых*); *Алесь Булавешка, Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька, Казімір Чацвёрты Ягелончык, Іаан Багаслоў, Кірыла Тураўскі*; *Віктор Гюго, Джэк Лондан, Вольфганг Моцарт*; *Дон Кіхот, Дон Жуан, Сімяон Полацкі, Нестар Летапісец*;

кожнае імя ў састаўных імёнах і прозвішчах, калі яны пішуцца асобна або праз злучок: *Эрых Марыя Рэмарк, Іаган Себасцьян Бах, Джон Ноэль, Ханс Крысціян Андэрсен, Джавані Джакома Казанова, Жак Іў Кусто, Марыя-Луіза-Жазэфіна* (каралева Этрурыі); *Вікенцій Дунін-Марцінкевіч, Марыя Складоўская-Кюры*;

прозвішчы, а таксама імёны ў множным ліку, калі яны выступаюць як назва роду, групы асоб ці ўжываюцца ў значэнні агульнай назвы: *Міцкевічы, браты Гарэцкія, маёнтак Тышкевічаў, род Радзівілаў, абодва Жукі, бязродныя Іваны; Гагарыны, Заслонавы*;

часткі састаўных асабовых імёнаў кітайцаў, карэйцаў, в'етнамцаў, бірманцаў, інданезійцаў, тайландцаў, цэйлонцаў, японцаў: *Ань Лушань, Ван Янмінь, Сунь Ятсен, Тао Юаньмінь, Цзян Гуанцы* (Кітай); *Ан Чхан Хо, Чхве Чхі Вон, Пак Ін Но* (Карэя); *Нгуен Фук Ань, Нгуен Чай* (В'етнам); *Пі Маў Нін, Такін Кода Хмайн* (Бірма); *Сутан Такдыр Алішахбана, Прамудзья Ананта Тур, Утуі Тутанг Сантані* (Інданезія); *Кулаб Сайпрадыт, П'я Тасін* (Тайланд); *Карахара Карахіта* (Японія);

пачатковыя часткі *Ібн, Бен, Шах-, Мак-, Сан-, Сант-, Сент-, Сен-, Тэр-* у іншамоўных асабовых імёнах, якія пішуцца асобна, разам або далучаюцца да іх праз злучок, а таксама пачатковыя *О', Д'*, якія пішуцца праз апостраф: *Ібн Сіна, Бен Алі, Шах-Джахак, Мак-Доўэл, Мак-Кінлі, Сан-Мартын, Сант-Эліё, Сент-Эцьен, Сен-Жуст, Тэр-Петрасян, О'Генры, Д'Аламбер, Д'Артаньян*;

мянушкі жывёл, птушак і іншых істот: конь *Варанок*, карова *Красуля*, сабака *Рэкс*, кот *Кузя*, курыца *Рабка*, папугай *Гоша*;

прыналежныя прыметнікі, утвораныя ад асабовых імён і мянушак розных істот пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -оў* (*-ав-, -аў*), *-ёв-, -ёў* (*-ев-, -еў*), *-ын-, -ін-: Кузьмоў* сусед, *Скарынава* біблія, *Багдановічаў* верш, *Міхасёвы* прыгоды, *Васілёў* голас, *Зосьчыны* бацькі, *Рагуліна* малако;

адносныя прыметнікі, утвораныя ад імён і прозвішчаў, псеўданімаў, калі такія прыметнікі ўваходзяць у склад састаўных уласных назваў у якасці пачатковага слова: *Купалаўская прэмія* (прэмія імя Янкі Купалы), *Нобелеўская прэмія, Коласаўская стыпендыя* (стыпендыя імя Якуба Коласа), *Гарэцкія чытанні* (чытанні, прысвечаныя Максіму Гарэцкаму), *Варфаламееўская ноч* (вядомая гістарычная падзея ў Парыжы ў ноч святога Варфаламея), *Маркаўскія рады* (тэрміналагічная назва ў матэматыцы).

2. Пішуцца з малой літары:

агульныя назвы людзей, прадметаў, рэчываў і хімічных элементаў, адзінак вымярэння, якія ўтварыліся на аснове асабовых і_геаграфічных назваў: *донжуан* (*быў донжуанам*), *донкіхот* (*такі донкіхот*), *эскулап*; *бефстроганаў, браўнінг, дызель, кацюша, маўзер, маргарытка, наган, такай, форд, фрэнч, шавіёт*; *морфій, амерыцый, палоній, уран, фермій; ампер, вольт, джоўль, ом, рэнтген, фарада*;

асабовыя назвы (прозвішчы, імёны і інш.) у форме множнага ліку, калі іх ужыванне выяўляе пагардлівыя, зневажальныя адносіны: *гарлахвацкія, заблоцкія, кручковы, пісулькіны, тулягі*;

назвы чалавека, утвораныя ад асабовых імёнаў, што паказваюць яго прыналежнасць або прыхільнасць да каго-, чаго-небудзь: *гегельянец, купалавец, магаметанін, махновец, талстовец*;

прыметнікі, утвораныя ад асабовых назваў, якія ўжываюцца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў з назоўнікамі (фразеалагізмаў) або ў складзе састаўных агульных назваў са значэннем адпаведнай адноснай прыкметы: *эзопаўская* (*эзопава*) *мова, пірава перамога, ахілесава пята, танталавы мукі, шамякаў суд, бальзакаўскі ўзрост, броўнаўскі рух, гегелеўская дыялектыка, купалаўскі верш, напалеонаўскія планы, гітлераўская ідэалогія, дэголеўская Францыя, рэнтгенаўскі здымак, сідарава каза*;

часткі *ван, да, дзі, дзю, дон* (*донна*), *дэ, дэр, ле, ло, фон, эль* і некаторыя іншыя ў іншамоўных асабовых назвах: *Людвіг ван Бетховен, Леанарда да Вінчы, Кола дзі Рыёнца, дзю Гар, дон Фердынанд, Лопэ дэ Вега, ле Карбюзье, Ота фон Шанхаўзен* (*Бісмарк*); але ў асабовых назвах літаратурных герояў (*Дон Кіхот, Дон Хуан*), а таксама ў некаторых выпадках у прозвішчах і імёнах пішуцца з вялікай літары: *Дзі Віторыё, Дэ Лонг, Ван Гог, Эль Грэка, Ла Баэсі*;

часткі *ага, ад, ал, ас, ар, аш, бей, бек, задэ, аглы, уль, зуль, кызы, аль, паша, хан, шах, эд, эль* і некаторыя іншыя ў іншамоўных асабовых назвах, якія падаюцца звычайна пасля назвы або перад ёй і пішуцца праз злучок: *Ібрагім-ага, Амар аш-Шарыф, Ібрагім-бей, Амад-задэ, Турсун-задэ, Кёр-аглы, Мамед-аглы, Сейф уль-Іслам, Зульфія-кызы Амад эд-Дзін, Седах зуль-Факар, Сулейман-паша, Махамед эль-Куні* і інш.

### § 25. Вялікая і малая літары ў назвах асоб, звязаных з рэлігіямі, назвах міфалагічных і казачных герояў

1. З вялікай літары пішуцца:

асабовыя назвы вышэйшых божастваў (бостваў) у рэлігійных культах, а таксама ўсе словы ў спалучэннях, якія змяшчаюць гэтыя назвы: *Бог, Саваоф, Алах, Яхве, Шыва, Вішну; Госпад* (*Гасподзь*), *Усявышні, Уладыка Нябесны, Усемагутны Бог, Святая Тройца, Бог Айцец, Бог Сын, Божы* (*Боскі*) *Сын, Бог Дух Святы, Святы Дух, Прасвятая Тройца, Божая* (*Боская*) *Маці, Прачыстая Уладычыца Нябесная, Прасвятая Дзева Марыя, Царыца Нябесная, Месія*;

прыметнікі, утвораныя ад слова *Бог*: *Божы* (*Боскі*) *суд, Божы* (*Боскі*) *храм, Божая* (*Боская*) *міласць*;

асабовыя імёны (і ўсе словы ў састаўных асабовых назвах, акрамя агульных назваў) заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, а таксама біблейскіх асоб (апосталаў, прарокаў, святых і інш.): *Ісус Хрыстос, Буда, Брахма; Іаан Хрысціцель, Святы Павел* (апостал);

імёны легендарных і міфічных асоб, язычніцкіх багоў: *Антэй, Зеўс, Тытан, Венера, Фурыя, Дажбог, Жыжаль, Пярун, Іуда* (*Юда*), *Каін, Цмок*, але як агульныя назвы: *пярун* – удар грому, *іуда* (*юда*) – здраднік, *цмок* – змей, *тытан* – волат, *фурыя* – злосная істота;

уласныя назвы ўяўных і казачных істот, герояў літаратурных твораў: *Папялушка, Чырвоная Шапачка, Калабок, Снягурачка, Дзед Мароз, Баба-яга, Пегас, Буцэфал, Атлант*, але як агульныя назвы: *дзед-мароз* – ёлачнае ўпрыгожанне, *баба-яга* – агідная старая, *буцэфал* – стары конь, *атлант* – у архітэктуры;

агульныя назвы істот, а таксама з'яў і прадметаў, калі яны персаніфікуюцца, выступаюць у ролі імёнаў герояў літаратурных твораў (у казках, байках і інш.): *Мядзведзь, Воўк, Ліса* (*Ліска*), *Заяц* (*Зайка*), *Асёл, Каза-дзераза, Коцік-варкоцік, Варона, Сарока-белабока, Воран, Певень, Бусел-клекатун, Карась-лежабок, Сонца, Праўда, Крыўда, Смерць* і інш.

2. З малой літары пішуцца:

слова *бог* (*гасподзь*) ва ўстойлівых выразах, звязаных з выказваннем розных пачуццяў у прастамоўі, а не са зваротам да Бога паводле рэлігійнай абраднасці і ўяўленняў: *бог яго ведае* (не маю ўяўлення), *божа* (*божачка*) *ты мой* (вялікае здзіўленне), *божа збаў* (ні ў якім разе), *дай божа* (няхай), *крый бог* (*божа*), *не давядзі бог* (*божа, госпадзі*), *ратуй божа, дзякаваць* (*дзякуй*) *богу* (*табе, госпадзі*), *бог з табой* (*з ім, з вамі*), *алах з ім*;

слова *бог* з агульным значэннем боства ў спалучэнні з асабовай назвай або з назоўнікам з агульным значэннем у родным склоне: *старажытны славянскі бог Пярун, бог сонца Дажбог, Сварог – бог неба*;

агульныя назвы ўяўных істот: *архангел, анёл, херувім, фея, муза, чорт, д'ябал, нячысцік, дамавік, лясун, русалка, гном, троль, здань, ірад* і інш.

### § 26. Вялікая і малая літары ў геаграфічных і астранамічных назвах

1. З вялікай літары пішуцца:

уласныя назвы прыродных геаграфічных аб'ектаў: кантынентаў, гор, рэк, азёраў, лясоў, балот і інш.: *Еўразія, Антарктыда, Аўстралія; Альпы, Кардыльеры; Манблан, Арарат; Везувій, Фудзіяма; Дняпро* (*Днепр*), *Нёман, Прыпяць; Вікторыя, Ківач; Нарач, Свіцязь; Гібралтар, Басфор; Тайвань, Готланд; Сахалін, Таймыр; Сахара, Гобі; Акіянія, Адрыятыка; Палессе, Панямонне, Задняпроўе; Струціна, Бель* (балоты); *Вялле, Ельня, Налібокі* (лясы); *Кручок* (вір), *Альховец* (роў);

уласныя назвы краін, іх аб'яднанняў і частак, паселішчаў і іх частак, урочышчаў: *Беларусь, Кітай; Бенілюкс, Антанта; Палессе, Запарожжа, Сібір; Міншчына, Лепельшчына, Случчына, Навагрудчына; Мінск, Токіа, Мазыр, Орша; Вязынка, Мікалаеўшчына, Слабада; Вал, Падол, Зарэчча, Цэнтр* (часткі паселішчаў); *Усход, Вяснянка* (мікрараёны); *Ляды, Паддуб'е, Шырокія* (урочышчы); *Цагельня, Царковішча, Кальварыя* (мясціны); *Ніўкі, Камяніца, Папоўшчына*;

уласныя назвы астранамічных аб'ектаў: *Андрамеда* (галактыка); *Стажары, Валапас* (сузор'і); *Сонца, Вега* (зоркі); *Зямля, Юпітэр* (планеты); *Месяц, Фобас* (спадарожнікі планет);

назвы напрамкаў свету ў пераносным значэнні назваў адпаведнай групы краін або тэрыторыі: *Захад* (краіны заходняй часткі Еўропы разам з ЗША), *Усход* (азіяцкія краіны), *народы Поўначы*;

пачатковая службовая частка ў іншамоўных уласных геаграфічных назвах, якая пішацца з імі праз злучок: *Дан-Лэры* (горад), *Дэ-Кастры* (горад), *Ла-Пампа* (правінцыя), *Ла-Манш* (праліў), *Лос-Анджэлес* (горад);

іншамоўныя родавыя агульныя назвы ў складаных уласных геаграфічных назвах: *Рыа-Грандэ* (*рыа* – рака), *Лоб-Нор* (*нор* – возера), *Ісык-Куль* (*куль* – возера), *Пуэрта-Рыка* (*пуэрта* – порт);

часткі складаных уласных геаграфічных назваў, што пішуцца праз злучок (назоўнікі, прыметнікі): *Аўстра-Венгрыя, Эльзас-Латарынгія, Давыд-Гарадок, Брэст-Літоўскі, Буда-Кашалёва, Мінск-Мазавецкі, Бельск-Падляшск*;

пачатковае слова ў састаўных уласных геаграфічных і астранамічных назвах: *Сусветны акіян, Ціхі акіян, Паўночны полюс, Палярная зорка, Балтыйскае мора, Мінскае мора, Берынгаў праліў, Белае возера, Асіповіцкае вадасховішча, Слаўнае балота, Лысая гара, Хатынскі лес, Бярэзінскі біясферны запаведнік, Цэнтральны батанічны сад, Замкавая вуліца, Другая лінія*;

усе часткі пачатковага складанага прыметніка ў састаўных уласных назвах, калі такія часткі пішуцца праз злучок: *Азіяцка-Ціхаакіянскі рэгіён, Мінска-Маладзечанскае ўзвышша, Дняпроўска-Бугскі канал, Паўночна-Заходні край*;

усе знамянальныя словы ў афіцыйных уласных назвах дзяржаў і іх аб'яднанняў, буйных тэрыторый і рэгіёнаў: *Рэспубліка Беларусь, Садружнасць Незалежных Дзяржаў, Злучаныя Штаты Амерыкі, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Арабская Рэспубліка Егіпет, Кітайская Народная Рэспубліка, Дзяржава Кувейт, Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае*;

усе знамянальныя словы ў вобразных састаўных уласных геаграфічных і астранамічных назвах (акрамя агульных родавых назваў), калі гэтыя ўласныя назвы ўжываюцца без агульнай родавай назвы: *Стары Свет* (краіны Еўропы і Азіі), *Блізкі Усход, Чорная Афрыка, Крайняя Поўнач, Старыя Дарогі* (горад), *Мора Дажджоў* (на Месяцы), *Зямля Каралевы Мод, Дзікі Захад* (у ЗША); у назоўным і родным склонах у спалучэнні з агульнай родавай назвай: *туманнасць Конская Галава, бухта Залаты Рог, астравы Паўночная Зямля, праліў Матачкін Шар; мыс Добрай Надзеі, астравы Каралевы Шарлоты, заліў Святога Лаўрэнція*.

2. З малой літары пішуцца:

агульныя родавыя назвы геаграфічных, астранамічных і іншых падобных аб'ектаў у складзе ўласных назваў: *Афрыканскі кантынент, Атлантычны акіян, Уральскія горы, гара Казбек, рака Вілія, возера Свіцязь, Белае возера, пустыня Сахара, Асіповіцкае вадасховішча, Белавежская пушча, зорка Венера, Лагойскі тракт, вуліца Касманаўтаў, праспект Незалежнасці, плошча Перамогі, Князь-возера, Сапун-гара*;

службовыя часткі ў складзе састаўных уласных геаграфічных найменняў: *Франкфурт-на-Майне, Рыа-дэ-Жанэйра, Па-дэ-Кале, Булонь-сэр-Мэр, Сьера-дэ-лас-Мінас, Дар-эс-Салам, Салам-і-Гомес.*

### § 27. Вялікая і малая літары ў назвах органаў дзяржаўнай улады і арганізацый

1. З вялікай літары пішуцца:

першае слова ў састаўных найменнях органаў дзяржаўнай улады і арганізацый (іх аднаслоўныя адпаведнікі): *Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь* (*Мінэканомікі*), *Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Дзяржаўны музей Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь* (*Белтэлерадыёкампанія*), *Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт* (*Мінгарвыканкам*), *Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, Мінскі абласны* (*гарадскі, раённы*) *выканаўчы камітэт, Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча, Мінскі трактарны завод, Новалукомская дзяржаўная раённая электрастанцыя, Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь, Мірскі замак, Дом культуры* (*пісьменнікаў, афіцэраў, чыгуначнікаў*), *Палац прафсаюзаў* (*культуры, спорту*), *Мінскі кафедральны сабор, Мінскі касцёл і кляштар езуітаў, Еўрапейскі саюз* (*Еўрасаюз*), *Арганізацыя краін-экспарцёраў нафты, Сусветны паштовы саюз, Міжнародны алімпійскі камітэт, Міжнародная авіяцыйная федэрацыя*;

усе словы ў састаўных афіцыйных поўных уласных назвах вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, іншых краін і вышэйшых сусветных арганізацый: *Савет Міністраў* (*Урад*) *Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны Сход* (*Парламент*) *Рэспублікі Беларусь, Савет Рэспублікі Нацыянальнага Сходу* (*Парламент*) *Рэспублікі Беларусь, Палата Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу (Парламент) Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная Дума* (Расійская Федэрацыя), *Нацыянальны Кангрэс* (Злучаныя Штаты Амерыкі), *Усекітайскі Сход Народных Прадстаўнікоў, Сусветны Савет Міру*;

простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў органаў улады, арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў: *Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр балета Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны мемарыяльны музей Якуба Коласа, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы, Таварыства Чырвонага Крыжа, Савет Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый* (*ААН*), *Міжнародны суд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Арганізацыя Паўночнаатлантычнага дагавору* (*НАТА*).

2. З малой літары пішуцца назвы саветаў (вучоных, навуковых, па абароне дысертацый і інш.):

*вучоны савет філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*.

**§ 28. Вялікая і малая літары ў назвах асоб па пасадах, званнях, тытулах**

З вялікай літары пішуцца:

словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь, Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі, Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінска-Маладзечанскай мітраполіі і апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі, Апостальскі Візітатар, Кароль Іярданіі, Каралева Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, Імператар Японіі, Папа Рымскі, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, Далай-Лама.* У неафіцыйным ужыванні словы *прэзідэнт*, *міністр*, *старшыня* пішуцца з малой літары: *Выступае прэзідэнт суседняй краіны. На нарадзе прысутнічаў міністр*;

словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца назвамі асобы па вышэйшых дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь і іншых краін (акрамя слова *кавалер*): *Герой Беларусі, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, Георгіеўскі кавалер, кавалер ордэна Ганаровага Легіёна*;

у розных афіцыйных пасланнях, лістах з вялікай літары пішацца займеннік *Вы* як форма ветлівага звароту да адной асобы;

з вялікай літары ў асобным стылістычным ужыванні могуць пісацца такія агульныя назвы, як *Радзіма, Айчына, Чалавек* (у значэнні чалавецтва);

словы ў назвах бакоў у дагаворах, пагадненнях, кантрактах: *Высокія Дагаворныя Бакі, Аўтар і Выдавецтва, Заказчык і Выканаўца.*

**§ 29. Вялікая літара ў назвах дзяржаўных і нацыянальных сімвалаў, помнікаў, рэліквій, узнагарод, прэмій, ордэнаў, грамат, прызоў**

З вялікай літары пішуцца:

словы *Дзяржаўны, Сцяг, Герб, Гімн* і ўсе словы ў назве краіны ў складзе назваў дзяржаўных сімвалаў: *Дзяржаўны Сцяг Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны Герб Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны Гімн Рэспублікі Беларусь*;

усе словы (акрамя агульнай назвы) у назвах дзяржаўных і нацыянальных, ваенных і культурных рэліквій, помнікаў: *Сцяг Перамогі, Крыж Ефрасінні Полацкай, Курган Славы, Курган Бессмяротнасці, Востраў Слёз, Помнік Перамогі*;

першае слова ў назвах дзяржаўных узнагарод, дзяржаўных і міжнародных прэмій, грамат, кубкаў і інш.: *Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь, Ганаровая грамата Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міжнародная прэмія Міру, Нобелеўская прэмія, Кубак свету, Кубак федэрацыі* (*тэніс*), *Каралеўскі кубак*;

усе словы ў назвах ордэнаў (акрамя слоў *медаль, ордэн і ступень*): *медаль Залатая Зорка Героя Савецкага Саюза, Залатая Зорка Героя Сацыялістычнай Працы, Залатая Зорка Героя Беларусі, ордэн Айчыны I* (*II, III*) *ступені, ордэн Маці, ордэн Пашаны, ордэн Славы I* (*II, III*) *ступені, ордэн Францыска Скарыны, ордэн Ганаровага Легіёна* (Францыя), *Георгіеўскі Крыж*; але: *ордэн Дружбы народаў.*

**§ 30. Вялікая і малая літары ў назвах дакументаў, іх зводаў, унікальных прадметаў, твораў**

1. З вялікай літары пішуцца:
аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах важнейшых дзяржаўных і міжнародных дакументаў, устаноўчых пагадненняў, заканадаўчых актаў, іх зводаў: *Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, Жыллёвы кодэкс Рэспублікі Беларусь, Чырвоная кніга Беларусі, Закон Рэспублікі Беларусь, Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Статут Вялікага Княства Літоўскага, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Літоўская метрыка, Скарыніяна, Біблія, Стары Запавет, Каран, Талмуд*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадметаў мастацтва і іншых адзінкавых і ўнікальных прадметаў, іх зводаў: *Дзявятая сімфонія Бетховена, Венера Мілоская, Янтарны пакой, Алмазны фонд.*

2. З малой літары пішуцца агульныя назвы стыляў у мастацтве і архітэктуры: *барока, ракако, готыка, ампір, мадэрн.*

**§ 31. Вялікая і малая літары ў назвах памятных і знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох**

1. З вялікай літары пішуцца:

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах знамянальных эпох, перыядаў і падзей у гісторыі: *Варфаламееўская ноч*, *Адраджэнне*, *Рэфармацыя*, *Крыжовыя паходы*, *Лядовае пабоішча*, *Крычаўскае паўстанне*, *Супраціўленне*;

аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах дзяржаўных, традыцыйных і рэлігійных свят, знамянальных дат: *Дзень Канстытуцыі, Дзень Перамогі* (*9 Мая*), *Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь* (*Дзень Рэспублікі*), *Новы год, Дзень жанчын* (*8 Сакавіка*), *Свята працы* (*1 Мая*), *Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі* (*7 Лістапада*), *Нараджэнне Хрыстова, Дзень памяці, Дзень беларускай навукі, Дзень ведаў, Ушэсце Гасподняе, Уваскрэсенне Хрыстова, Вялікая субота, Таццянін дзень, Радаўніца, Вялікдзень, Каляды, Купалле, Дабравешчанне, Наўроз, Рамадан.*

2. З малой літары пішуцца назвы родаў і відаў гістарычных падзей і эпох, асобных гадоў, дзён і інш.: *імперыялістычная вайна, першая сусветная вайна, другая сусветная вайна, лютаўская рэвалюцыя, паўстанне Тадэвуша Касцюшкі*, *кайназойская эра, ледавіковы перыяд, неаліт, эпоха феадалізму, капіталістычная фармацыя, перыяд аднаўлення, залаты век, высакосны год, дзень адчыненых дзвярэй, санітарны дзень, месячнік дарожнай бяспекі, год спакойнага сонца*.

## § 32. Вялікая літара ў назвах з двукоссем

З вялікай літары пішуцца:

аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і інш.: *Мінскі гадзіннікавы завод «Прамень», аграгандлёвая фірма «Ждановічы», кінатэатр «Перамога», Полацкі завод «Праммашрамонт», канцэрн «Белнафтагаз», адкрытае акцыянернае таварыства «Матавела», калгас «Беларусь», гасцініца «Юбілейная», рэстаран «Журавінка», кафэ «Світанак», кандытарскі магазін «Ласунак», кнігарня «Слова», выдавецтва «Полымя», спарткомплекс «Раўбічы», санаторый «Крыніца», турбаза «Дняпро», медыцынская служба «Хуткая дапамога», Беларускі рэспубліканскі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне», студыя «Сябры», установа адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»*;

аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах перыядычных выданняў, кніг, атласаў, карт і інш.: *часопіс «Полымя», газета «Звязда», вілейская раённая газета «Шлях Перамогі», інфармацыйны бюлетэнь «Беларусіка», летапіс «Хроніка Быхаўца», даведнік «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», кніга «Літоўскі статут», перыядычнае даведачнае выданне «Летапіс друку», карта «Рэспубліка Беларусь»*;

аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах літаратурных, публіцыстычных, навуковых твораў, твораў розных галін мастацтва і інш.: *паэма Якуба Коласа «Новая зямля», камедыя Янкі Купалы «Паўлінка», верш М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі», песня «Ой, рэчанька», кінафільм Э. Клімава «Ідзі і глядзі», карціна В. К. Бялыніцкага-Бірулі «Зазелянелі беларускія бярозкі», габелен Г. Ю. Юзеевай-Шаблоўскай «Жанчыны Палесся», акварэль М. Л. Тарасікава «Букет бэзу», опера А. В. Багатырова «У пушчах Палесся», танец «Дарожка», казка «Сцяпан – вялікі пан»*;

аднаслоўныя назвы і першае слова ў састаўных назвах прадметаў побыту, прамысловых тавараў: *набор мэблі «Вязынка», люстра «Белая Русь», духі «Расінка», зубная паста «Фтарадэнт», пральны парашок «Ветразь»*;

назвы прадуктовых і іншых тавараў: *хлеб «Водар», сыр «Нарач», цукеркі «Крыжачок», адэкалон «Ландыш»*;

назвы машын, механізмаў, прылад, збудаванняў і інш.: *аўтамашына «Жыгулі», камбайн «Ніва», трактар «Беларус», тэлевізар «Гарызонт», іянізатар «Аніён-40Т», радыёпрыёмнік «Селена-403»*.

# ГЛАВА 7
# ПРАВІЛЫ НАПІСАННЯ РАЗАМ, ПРАЗ ЗЛУЧОК І АСОБНА

## § 33. Агульныя правілы напісання разам, праз злучок і асобна

1. Пішуцца разам:

складанаскарочаныя словы і вытворныя ад іх: *прадмаг, газпрам, журфак, прадмагаўскі, газпрамавец* і інш.;

складаныя словы і вытворныя з пачатковымі часткамі *авія-, агра-, астра-, аўдыя-, аўта-, аэра-, бія-, варыя-, вела-, відэа-, гама-, геа-, грам-, заа-, кіна-, макра-, мата-, медыя-, неа-, палеа-, радыё-, сацыя-, спарт-, стэрэа-, танц-, тэле-, фата-, электра-* і інш.: *авіябілет, аграхімія, аўтаматакрос, аўдыявізуальны, аэрафатаздымка, біяабарона, варыяфільм, веласпорт, відэафільм, геапалітычны, гамагенны, грамзапіс, заапарк, кінастужка, макрадэфармацыя, матабол, медыятэкст, неалітычны, палеаантраполаг, радыёхваля, спартбаза, стэрэакіно, танцклас, тэлебачанне, электракар* і інш.;

словы з пачатковай часткай *поў-* (*паў-*): *поўнач, поўдзень, паўгоддзе, паўлітра, паўсвету, паўлыжкі, паўста, паўсотня, паўчвэрткі, паўчвэртка, паўчвэрці, паўлімона, паўяблыка, паўтары, паўтара, паўсукно, паўпаліто, паўаршына* і інш. Калі скарочаная ці падобная да прыстаўкі частка слова далучаецца да ўласнай назвы, яна пішацца праз злучок: *паў-Слуцка, паў-Ратамкі*;

словы з прыстаўкамі і падобнымі да прыставак пачатковымі часткамі: *а-, анты-, арта-, архі-, гіпер-, дыс-, дэз-, звыш-, інтэр-, інфра-, квазі-, кантр-, мета-, між-, мілі-, пан-, паст-, псеўда-, пры-, сін-, супер-, транс-, ультра-, экс-, экстра-* і інш.: *алагізм, антыгуманны, архіважны, гіперправоднасць, дыстрафія, дэзактывацыя, звышгукавы, інтэрнацыянальны, інтраспектыўны, інфрачырвоны, квазізоркавы, кантрагент* (выключэнне: *контр-адмірал*), *метатэза, міжраённы, міліметр, панславізм, пангерманскі, пастфактум, пастпазіцыя, псеўданародны, сінгармонія, супермаркет, трансатлантычны, ультрамодны, экстэрытарыяльны, экстраардынарны* і інш.;

складаныя словы, першай часткай якіх з'яўляюцца лічэбнікі: *васьмітысячнік, двухбаковы, двухзначнасць, двухколка, двухмоўе, двухрогі, двухногі, двуххвостка, двухрадкоўе, трыццацідвухгадовы, двухтысячагоддзе, сямісотпяцідзесяцігоддзе, чатырохразовы, аднагодкі, адзінакроўны, дванаццаціпавярховы, дзесяціпрацэнтны,* а таксама *двукоссе, двукроп'е.*

2. Пішуцца праз злучок утварэнні, якія з'яўляюцца:

паўторам слова для ўзмацнення яго значэння: *сіні-сіні, ледзь-ледзь, горача-горача, хто-хто, ён-ён, хадзілі-хадзілі,* а таксама *ціп-ціп-ціп, го-го!, трэсь-трэсь*;

паўторам слова ў іншай лексіка-граматычнай форме: *мама-мамуся, братка-брацейка, сама-саменька, як-ніяк, хто-ніхто, што-нішто, дзе-нідзе, калі-нікалі, каму-нікаму, сам-насам, крыж-накрыж, раз-пораз*;

спалучэннем блізкіх або супрацьлеглых па значэнні слоў: *шум-гам, паіць-карміць, бацька-маці, хлеб-соль, рукі-ногі, шыта-крыта, больш-менш, сям-там, сяк-так, сёй-той, сюды-туды, сёння-заўтра, год-два, тры-чатыры, жыў-быў, бокам-скокам,* а таксама *пусці-павалюся, узвей-вецер.* Два аднакарэнныя назоўнікі, калі адзін стаіць у назоўным, а другі ў творным склоне, пішуцца асобна: *век вяком, пень пнём, сон сном*.

3. Пішуцца праз злучок складаныя словы, першай (або апошняй) часткай якіх з'яўляецца:

літара або літарная абрэвіятура любога алфавіта: *К-мезон* (*ка-мезон*), *$\alpha$-часцінка* (альфа-часцінка), *ЗВЧ-разрад, ДНК-залежны, Q-код* (кю-код), *π-падобны* (*пі-падобны*);

лічба любога злічэння: *50-годдзе, 12-павярховы, 50-гадовы, 3-працэнтны, XX-вяковы, алімпіяда-97, мода-XX*.

4. Пішуцца праз злучок літарныя скарачэнні складаных слоў: *с.-г. – сельскагаспадарчы, с.-д. – сацыял-дэмакратычны, ст.-сл. – стараславянскі, і.-е. – індаеўрапейскі.*

Дэфіс («вісячы дэфіс») ставіцца пасля першай часткі складаных слоў, калі другая частка апускаецца ў сувязі з наяўнасцю такой часткі ў наступным аднародным з ім складаным слове: *газа- і водалічыльнік, сацыяльна- і культурназначны, фосфар- і серазмяшчальны, адна-, двух- і трохвалентны, 5-, 10- і 12-павярховы, тэле-, радыёвяшчанне.*

### § 34. Складаныя назоўнікі

1. Пішуцца разам:
складаныя назоўнікі з дзвюх і больш асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальных галосных *о* (*а*), *е* (*я*): *конезавод, льнозавод, далягляд, землетрасенне, птушкагадоўля, чалавекалюбства, бульбакапалка, хлебапякарня, свінагадоўля, свінапас, белакроўе, старадрук, чарназём, гарналыжнік, самалёт, патолагаанатам, медыкапсіхолаг* і інш.;

складаныя назоўнікі, у якіх першай часткай з'яўляецца дзеяслоўная форма загаднага ладу на *-і* (*-ы*): *вярцішыйка, сарвігалава, вярнідуб, прайдзісвет, пакацігарошак*; але: *перакаці-поле*;

складаныя назоўнікі ад'ектыўнага тыпу скланення, калі яны з'яўляюцца навуковымі тэрмінамі: *галаваногія*, *бруханогія*;

складаныя ўласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай *нова-* (*нава-*), *стара-*, *верхне-* (*верхня-*), *ніжне-* (*ніжня-*), *сярэдне-* (*сярэдня-*) і інш.: *Наваполацк, Новалукомль, Навасады, Навагрудак, Старабарысаў, Старакожаўка, Верхнядзвінск, Ніжнявартаўск, Сярэдняборск, Краснаполле, Крутагор'е, Светлагорск, Новабарысаў*.

2. Пішуцца праз злучок складаныя назоўнікі:

у якіх скланяюцца ўсе словы: *жук-дрывасек-карняед, грыб-паразіт, заяц-бяляк, лён-даўгунец, мастак-пейзажыст, нявеста-красуня, член-карэспандэнт.* Пры адваротным становішчы назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца: *красуня дзяўчына*;

у якіх скланяецца толькі апошняе слова: *жар-птушка, сон-трава, стоп-сігнал, блок-пост, вакуум-насос, дызель-матор, генерал-маёр, прэм'ер-міністр, норд-ост* і інш.;

са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна, тона-кіламетр-гадзіна, самалёта-вылет, чалавека-дзень* (але: *працадзень*) і інш.;

якія называюць прадстаўнікоў палітычных і грамадскіх рухаў і плыняў, адпаведных грамадскіх суполак, палітычных партый: *ліберал-дэмакрат, нацыянал-патрыёт, сацыял-дэмакрат*;

з пачатковымі часткамі *віцэ-, лейб-, максі-, міні-, обер-, унтэр-, штаб-* (*штабс-*), *экс-*: *віцэ-прэм'ер, лейб-гвардыя, максі-прэс, міні-матч, обер-майстар, унтэр-афіцэр, штаб-ротмістр, штабс-капітан, экс-чэмпіён, экс-прэм'ер*.

3. Пішуцца праз злучок:

субстантываваныя спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца назвамі раслін: *брат-і-сястра*;

састаўныя прозвішчы, імёны і назвы геаграфічных аб'ектаў: *Бялыніцкі-Біруля, Дунін-Марцінкевіч, Жан-Жак Русо, Бурат-Манголія, Эльзас-Латарынгія, Аўстра-Венгрыя, Камянец-Падольскі, Буда-Кашалёва, Пераяслаў-Хмяльніцкі, Давыд-Гарадок, Мінск-Мазавецкі, Камень-Кашырскі*;

уласныя геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца спалучэннем назоўніка з назоўнікам у месным склоне і прыназоўнікам *на*, а таксама падобнымі іншамоўнымі спалучэннямі слоў з *дэ, сюр*: *Растоў-на-Доне, Франкфурт-на-Майне, Рыа-дэ-Жанейра, Па-дэ-Кале, Булонь-сюр-Мэр*;

іншамоўныя ўласныя імёны з канцавымі часткамі *-хан, -шах, -паша, -бей, -бай, -задэ, -аглы, -кызы, -бек* і інш.: *Ахмат-шах, Асман-паша, Ізмаіл-бей, Курман-бай, Турсун-задэ, Кёр-аглы, Зейнал-кызы, Асман-бек*;

іншамоўныя ўласныя назвы асоб і геаграфічных аб'ектаў з пачатковымі часткамі *Ван-*, *Мак-*, *Нью-*, *Сан-*, *Санкт-*, *Сен-*, *Сент-*: *Ван-Дэйк, Мак-Магон, Мак-Кінлі, Нью-Кастл, Сан-Себасцьян, Сан-Марына, Сан-Паўлу, Санкт-Пецярбург, Сен-Санс, Сент-Экзюперы*;

уласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай *Усць-, Верх-, Соль-*: *Усць-Каменагорск, Верх-Ірмень, Соль-Ілецк*.

4. Калі ў назве, якая складаецца з двух і больш назоўнікаў, першы абазначае родавае паняцце, а другі з'яўляецца ўласным іменем, яны пішуцца асобна: *рака Днепр, горад Мінск, вулкан Везувій, маёр Кравец, дзед Янка*.

5. Артыклі і часціцы (*да, дэ, ла, ле, ля* і інш.), а таксама словы *дон, фон, ван* у іншамоўных уласных назвах пішуцца асобна: *Леанарда да Вінчы, Шарль дэ Кастэр, Анарэ дэ Бальзак, ла Валета, ла Мот, ле Шапелье, ля Крэзо, Ван дэр Мейлен, фон дэр Гольц, дон Хуан, Людвіг ван Бетховен, дэ Кастры.*

6. Асобна пішуцца словы ў геаграфічных уласных назвах, якія з'яўляюцца спалучэннем поўнага прыметніка з назоўнікам ці парадкавага лічэбніка з назоўнікам: *Стары Свержань, Белы Мох, Карнаты Дуб, Вялікія Радванічы, Старыя Дарогі, Астрашыцкі Гарадок, Восьмая лінія* (*вуліца*), *Першая пасялковая* (*вуліца*), *Першы чыгуначны* (*завулак*).

### § 35. Складаныя прыметнікі

1. Пішуцца разам прыметнікі:

якія суадносяцца са складанымі назоўнікамі, што пішуцца разам: *чарназёмны* (*чарназём*), *водаправодны* (*водаправод*), *мастацтвазнаўчы* (*мастацтвазнаўства*), *іншаземны* (*іншаземец*), *радыёфізічны* (*радыёфізіка*), *жалезабетонны* (*жалезабетон*), *самаходны* (*самаход*), *хвалянодны* (*хвалявод*);

якія суадносяцца са словазлучэннямі з падпарадкавальнай сувяззю: *каменнавугальны* (*каменны вугаль*), *народнапаэтычны* (*народная паэзія*), *агульнаадукацыйны* (*агульная адукацыя*), *меднарудны, цэнтральнаеўрапейскі, уласнаручны, цвёрдапаліўны, круглагадовы, чырванабокі*;

якія суадносяцца са словазлучэннямі дзеясловаў з назоўнікамі: *дрэваапрацоўчы* (*апрацоўваць дрэва*), *масларобны* (*рабіць масла*), *мукамольны* (*малоць муку*), *касцярэзны, кветкаводчы, водазаборны, ільноцерабільны, лесанарыхтоўчы, лёсавызначальны*;

якія суадносяцца са словазлучэннямі назоўнікаў з лічэбнікамі і прыслоўямі адноснай меры колькасці, аб'ёму, прасторы і інш.: *двухразовы* (*два разы*), *трохколавы, двухтысячагадовы, сямісотпяцідзесяцігадовы, саракаградусны, пяцідзесяціпрацэнтны, саракатонны, шматразовы, мнагалюдны, усёмагутны*;

першай часткай якіх з'яўляюцца прыслоўі: *моцнадзеючы* (*моцна дзейнічаць*), *лёгкапаранены* (*лёгка параніць*), *цяжкаўспрымальны* (*цяжка ўспрымаць*),

*нізкарослы, высокаадукаваны, слабасалёны*, *добраўпарадкаваны, малапрыкметны*;

складаныя прыметнікі з дзвюх і больш лексічных частак, якія служаць для абазначэння навуковых і тэхнічных паняццяў: *старажытнаўсходнеславянскі, правабярэжназаходнебугскі, старабеларускамоўны, паравозавагонарамонтны, індаеўрапейскі*.

2. Складаныя прыметнікі, у састаў якіх уваходзяць прыслоўі, не трэба блытаць са словазлучэннямі, якія складаюцца з прыслоўяў і прыметнікаў: *дыяметральна процілеглы* (супрацьлеглы), *чыста беларускі, яскрава вызначаны, выключна дасканалы, асабліва адказны, колькасна акрэслены, рэзка адмоўны, кепска ўзараны, усенародна абраны, выпадкова сустрэты, своечасова прыняты, адносна спакойны, бясконца глыбокі, матэрыяльна зацікаўлены*.

3. Пішуцца праз злучок складаныя прыметнікі:

утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *вакуум-насосны, генерал-губернатарскі, унтэр-афіцэрскі, ліберал-дэмакратычны, давыд-гарадоцкі, санкт-пецярбургскі* і інш.;

часткі якіх абазначаюць разнародныя назвы адпаведнай прыметы: *прыродна-гаспадарчы, жыллёва-будаўнічы, аграрна-сыравінны, лячэбна-працэдурны, таварна-грашовы, электронна-вылічальны, навукова-тэхнічны, грамадска-палітычны, сусветна-гістарычны, народна-вызваленчы, сярэдне-верхні, прытарна-салодкі* і інш.;

часткі якіх абазначаюць раўнапраўныя паняцці: *рабоча-сялянскі, руска-беларускі*;

часткі якіх абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *кісла-салодкі, жоўта-зялёны, горка-салёны, гучна-пявучы* і інш.;

часткі якіх абазначаюць напрамкі свету ў іх спалучэнні: *паўночна-заходні, норд-остаўскі*;

якія ўваходзяць у склад геаграфічных назваў, пачатковай часткай якіх з'яўляецца *Усходне-*, *Заходне-*, *Паўднёва-*, *Паўночна-*, *Цэнтральна-* і інш.: *Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Заходне-Сібірская раўніна, Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён* і інш.;

пачатковай часткай якіх з'яўляецца лічба або літара любога алфавіта: *1000-гадовы, 5-павярховы*, *Т-падобны.*

4. Складаныя прыметнікі, утвораныя ад складаных уласных імёнаў са злучком, калі яны маюць прыстаўку, пішуцца разам: *заісыккульскі, перадцяньшанскі*.

5. Складаныя прыметнікі з пачатковай часткай *ваенна-* пішуцца разам: *ваеннапалонны, ваеннапалявы, ваеннаабавязаны*.

## § 36. Складаныя лічэбнікі

1. Пішуцца разам:

складаныя колькасныя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляецца *-дзясят, -сце, -ста, -сот*: *шэсцьдзясят, дзвесце, трыста, пяцьсот*;

складаныя парадкавыя лічэбнікі, апошняй часткай якіх з'яўляецца *-дзясяты, -соты, -тысячны, -мільённы* і інш.: *пяцідзясяты, трохсоты, двухтысячны, сямімільённы, пяцімільярдны, двухсотпяцідзесяцівасьмі-мільённы* і інш.

2. Асобна пішуцца састаўныя колькасныя, парадкавыя і дробавыя лічэбнікі: *сто дваццаць пяць, трыццаць тры, тысяча пяцьсот адзін, сто дваццаць пяты, трыццаць трэці, тысяча пяцьсот першы, два з паловай, пяць з чвэрткай, тры пятыя, пяць дзясятых, сем сотых.*

3. Пішуцца праз злучок:

парадкавыя лічэбнікі, напісаныя лічбамі, пры спалучэнні іх з канчаткамі, часткамі канчаткаў, састаўнымі часткамі ў выглядзе слоў: *25-ы*, на *10-м км, 31-га, 10-мільённы, 18-мільярдны*;

лічэбнікі, напісаныя словамі або лічбамі, якія абазначаюць прыблізны лік: *восем-дзесяць гадоў, дзве-тры гадзіны, сёмае-восьмае стагоддзе, 2-3 гады*. У лічэбніках прыблізнага ліку замест злучка ўжываецца працяжнік, калі гэта складаныя і састаўныя лічэбнікі: *праз трыццаць пяць – трыццаць сем год, 50 – 60-я гады.*

## § 37. Прыслоўі

1. Пішуцца разам:

прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў прыставачным спосабам: *назаўтра, назаўсёды, назаўжды, назусім, намнога, наколькі, настолькі, нашмат, напаверх, насупраць, заўчора, залетась, паслязаўтра, пазаўчора, пазалетась, замнога, задоўга* і інш. Ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія ўжываюцца ў значэнні дапаўнення. Назоўнікі з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *на смех* (*падняць*), *на заўтра* (*адкласці*), *за дзякуй* (*рабіць*), *да заўтра* (*скончыць*)*; ад цямна да відна, з цямна да цямна, да ранку, у адно, па двое, па трое* і інш.;

прыслоўі, якія ўтвораны са спалучэння прыназоўнікаў *у* і *на* з рознымі склонавымі формамі колькасных і зборных лічэбнікаў: *удвая, утрая, удваіх, утраіх, утрох, учатырох, усемярых, удвух, удзвюх, усямёх, надвое, натрое*;

прыслоўі, утвораныя ад прыметнікаў прыставачна-суфіксальным спосабам: *дабяла, дачыста, дасуха, дасыта, здалёку, звысоку, зрэдку, справа, сослепу, змоладу, змалку, злёгку, паблізу, папросту, паціху, падоўгу, пароўну, улева, управа, навечна, надоўга, насуха, зажыва, зацемна,* а таксама *заадно, наўдалую, ушчыльную, урассыпную, упустую, збольшага, нашто, навошта, нізашто, потым, надта, зусім, затым, прытым* і інш.

2. Пішуцца праз злучок словы *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і г.д., а таксама ўтвораныя ад прыметнікаў і займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з *па-* і заканчваюцца на *-ку, -і* (*-ы*), *-аму,* (*-яму*), *-ому* (*-ему, -йму*)*: па-гаспадарску, па-беларуску, па-латыні, па-бацькоўску, па-чалавечы, па-хлапечы, па-добраму, па-ранейшаму, па-даўняму, па-веснавому, па-мойму, па-свойму* і інш.

3. Трэба адрозніваць: прыслоўі *нашто, нізашто, зусім, затым* ад спалучэнняў займеннікаў з прыназоўнікамі: *на што, ні за што, з усім, за тым*: *нашто ты зрабіў?* (з якой мэтай) – *ён не разумеў, на што згадзіўся* (*на якое дзеянне*); *нізашто не скажа* (ні пры якой умове) – *працаваў ні за што* (без аплаты).

4. Пішуцца разам прыслоўі, якія ўтвораны ў выніку спалучэння:

прыназоўнікаў і склонавай формы назоўнікаў, якая не ўжываецца ў літаратурнай мове: *бесперастанку, дашчэнту, досыць, замуж, запанібрата, знячэўку, знянацку, навобмацак, наогул, напагатове, напавал, напалам, наперакор, наперарэз, напрост, напярэймы, нарасхват, нараспеў, насторч, насцеж, наўздагон, наўздзіў, наўпрост, наўскос, наўцёк, неўзабаве, неўпапад, неўспадзеўкі,*

*паасобку, паблізу, спакон, уваччу, удоўжкі* (*удоўж*), *упокат, употай, усутыч* і інш.;

прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў і іншых часцін мовы, калі да падобнай формы назоўніка не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам: *апоўдні, апоўначы, даволі, дадому, замужам, зроду, наадварот, наадрэз, накрыж, напаказ, напалавіну* (*напалову*), *напераменку, напракат, напралом, напрыклад, насілу, насмерць* (але: *не на жыццё, а на смерць*), *наўдачу, навек, паволі, падрад, падчас, пакрысе, увосень, уброд, уголас, удзень, углыб, упершыню, уранку, уранні, уразброд, усур'ёз* і інш.;

прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў *верх, ніз, перад, зад, бок, гара, высь, даль, век, пачатак, раз, ноч, вечар, раніца* і некаторых іншых пры адсутнасці пры іх азначэння або дапаўнення: *зверху, наверх, уверх, уверсе, данізу, знізу* (але: *з верху да нізу*), *наніз, унізе*; *наперад, уперад, уперадзе*; *ззаду, назад, узад*; *збоку, набок, убок, убаку*; *дагары, згары, угары, угару*; *увысь*; *удалеч*; *навек, навекі*; *спачатку, упачатку*; *адразу, ураз*; *уночы, паначы, звечара* (але: *з вечара да ранку*); *надвечар, увечары*; *зранку* (але: *з ранку да вечара*), *уранку*.

5. Пішуцца разам прыслоўі *таксама, гэтаксама, штодзень, штоноч* (*штоночы*), *штовечар* (*штовечара*), *штотыдзень* (*штотыдня*), *штомесяц, штогод* і інш.

6. Трэба адрозніваць ад прыслоўяў спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паяснянальнага слова: *на верх гары, на ніз ямы, у высь завоблачную, у даль палёў, на векі вечныя, у пачатку года, з пачатку вясны*.

7. Асобна пішуцца прыназоўнік *у* і склонавая форма поўнага прыметніка ў значэнні прыслоўя, калі яна пачынаецца з галоснай: *у адкрытую*.

8. Пішуцца асобна блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам:

калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць азначэнне: *у момант* (*у адзін момант*), *у тупік* (*папаў у такі тупік, што не выбрацца*), *да астатку* (*да самага астатку*);

калі назоўнік у пэўным (адным) значэнні захаваў хаця б некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі (за выключэннем назоўнікаў *верх, ніз, перад, зад, бок, гара, высь, далеч, век, пачатак, раз, ноч, вечар, ранак* і інш.): *пад паху, пад пахі, пад пахамі*; *па часе, да часу, з часам, у час*; *праз меру, у меру, па меры*; *на памяць, на памяці, па памяці*; *на руку, не з рукі*; *да душы, па душы*; *у пару, да пары, не ў пару*; *за мяжой, за мяжу, з-за мяжы*; *за граніцай, з-за граніцы*.

9. Пішуцца асобна наступныя блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі:

*без*: *без упынку, без аглядкі, без разбору, без развагі, без толку, без канца*; але: *бясконца, безупынна, безаглядна, безразважна, бесталкова*;

*да*: *да адвалу, да зарэзу, да ўпаду, да смерці*;

*на*: *на баку, на хаду, на ляту, на скаку, на віду, на відавоку, на смак, на слых, на вока, на грэх, на дзіва, на славу, на смех, на гвалт, на злосць, на жаль*;

*з*: *з налёту, з разбегу, з разгону, з размаху, з наскоку, з ходу, з гарачкі*.

10. Пішуцца асобна:

спалучэнні адмоўяў *не* і *ні* з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў меру, не ў пару, не ў лад, не пад сілу, не да смеху, не да спеху, не да смаку, не да твару, не на жарт, ні на ёту, ні за грош*;

спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца галоснай, з прыназоўнікам *у*: *у абхват, у абдымку, у абмен, у абрэз, у адзіночку, у абцяжку, у імгненне* і інш.;

выразы: *усё роўна, усё адно, як бачыш, як след, як мага* і інш.; але: *якраз.*

### § 38. Прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, выклічнікі

1. Пішуцца разам:

прыназоўнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з назоўнікам: *замест, наконт, накшталт, звыш*;

прыслоўі, якія ўжываюцца ў якасці прыназоўнікаў і якія з'яўляюцца вынікам зліцця склонавых форм назоўнікаў з прыназоўнікамі: *зверху, наперадзе, наперакор, насустрэчу* (*насустрач*), *уперад, уперадзе, услед* (*услед за цягніком*);

злучнікі, якія ўтварыліся ў выніку зліцця прыназоўніка з займеннікам ці словамі *колькі, столькі*: *затое, прычым, прытым, паколькі, настолькі*, у адрозненне ад словазлучэнняў прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікамі ці неазначальна-колькаснымі словамі: *паволі рабіў, затое грунтоўна*; але: *за што ўзяў, за тое і аддаў*; *паколькі абяцаў, трэба зрабіць*; але: *бяром па столькі, па колькі дамовіліся*;

злучнікі *ажно, альбо* (*або*), *нібы, нібыта, каб*;

злучнік *ды* з часціцай *і* (пераважна ў далучальным значэнні), утвараючы складаны злучнік *дый*: *зраблю дый годзе*. Складаны злучнік *дый*, які ўжываецца пераважна для далучэння сцвярджэння закончанасці, спынення дзеяння, неабходна адрозніваць ад састаўнога злучніка *ды* з часціцай *і* са значэннем далучэння: *ніхто больш не прапанаваў, ды і нічога не хацелася*;

займеннікі і прыслоўі з суфіксамі або постфіксамі *-сь, -сьці*: *дзесь, хтось, дзесьці, хтосьці, кудысьці, чыйсьці, якісьці*;

займеннікі з пачатковым узмацняльным афіксам *а-*: *аніхто, аніяк, анідзе, анікуды.* Часціца *а-* пішацца разам з адмоўем *ні*: *ані воблачка, ані нічога, ані не хачу*.

2. Пішуцца асобна словы ў састаўных злучніках: *таму што, так што, хіба што, як толькі, як быццам, перш чым, гэта значыць, то так,* а таксама ў словазлучэннях, якія ўжываюцца ў функцыі пабочных слоў: *можа быць, так кажучы, такім чынам* і інш.

3. Пішуцца праз злучок:

складаныя прыназоўнікі *з-за, з-пад, з-над, з-паміж, з-па-над, па-за, па-над*;

складаныя выклічнікі, падзыўныя і гукапераймальныя словы: *о-го-го, вой-вой-вой, о-ё-ёй, а-я-яй, дзю-дзю-дзю, ха-ха-ха, дзын-дзын-дзын, ку-ку, трах-тарарах, уга-уга* і інш.;

словы з прыстаўкай *абы-*, суфіксамі або постфіксамі *-небудзь, -колечы* (*-кольвечы, -кольвек*), часціцай *то: абы-хто, абы-што, абы-дзе, абы-адкуль, хто-небудзь, дзе-небудзь, куды-небудзь, як-колечы* (*кольвечы*), *ён-то, сказаць-то сказаў*.

4. Займеннікі *абы-хто* і *абы-што* пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *абы ў каго, абы да каго, абы з чым.*

5. Займеннік *абы-які* пры спалучэнні з прыназоўнікамі перадаецца або трыма словамі (*абы з якімі*), або двума (*з абы-якімі*).

6. Словы, вытворныя ад прыслоўя *абы-як,* з прэфіксам *абы* пішуцца разам: *абыякавы, абыякава, абыякавасць, абыякаваты* і інш.

7. Часціца *такі* пішацца праз злучок у словах *усё-такі* і *так-такі*, а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *прыйшоў-такі сам*. Ва ўсіх астатніх выпадках часціца *такі* пішацца асобна: *Ён такі надумаўся прыйсці. Ён усё ж такі думае прыехаць.*

8. Пішуцца асобна часціцы *бы* (*б*), *жа* (*ж*): *прыйшоў бы, прыйшла б, казаў жа, чаму ж, хто ж бы, як жа ж*, а таксама *што* ў такіх спалучэннях, як *пакуль што, амаль што, толькі што, сама што, хіба што* і інш.

### § 39. Правапіс *не* (*ня*) і *ні*

1. *Не* (*ня*) пішацца разам:

калі без *не* (*ня*) слова не ўжываецца: *небарака, неруш, неслух, невук, немаўля, невідзімка, незабудка, нечысць, нелюдзім, нехрысць, нядзеля, нявестка, нягода, нястача, нябыт, нявер'е, нязгрэба, нядбальства*; *ненавідзець, непакоіцца, нездаровіцца, няможацца, няволіць*; *непахісны, непарушны, незабыўны, нелюдзімы, нехлямяжы, нечуваны*; *няспынна, няўцям, няшчадна, нельга, няма*;

з назоўнікамі, калі адмоўе прыдае слову без гэтай часціцы значэнне супрацьпастаўлення, адмаўлення: *неспецыяліст, нечалавек, неметал, нятэрмін, нелінгвіст* і інш.; напрыклад: *розніца паміж тэрмінамі і нятэрмінамі, кніга прызначана ў асноўным для неспецыялістаў, нелінгвісту гэтыя тэрміны могуць быць незнаёмы*;

з прыметнікамі і прыметнікавымі прыслоўямі на -*о* (-*а*), калі спалучэнне іх з *не* служыць не для адмаўлення якога-небудзь паняцця, а для выражэння новага, процілеглага паняцця: *невысокі* (нізкі), *нешырокі* (вузкі), *недалёкі* (блізкі), *неспакойны* (які хвалюецца), *невялікі* (малы), *нелегальна* (падпольна, скрыта), *нямнога* (мала) і пад., а таксама з прыслоўем *няйначай* (абавязкова). Наяўнасць паясняльных слоў, як правіла, не ўплывае на напісанне разам *не* з прыметнікамі: *незнаёмы нам аўтар*, *невядомыя навуцы факты*, *незразумелыя вучню словы*;

у дзеяслоўнай прыстаўцы *неда-*, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недалічваць* (мець менш, чым трэба), *недаацэньваць* (ацэньваць ніжэй, чым належыць), *недаважваць* (адважваць менш, чым патрабуецца), *недаглядзець* (недастаткова, дрэнна глядзець), *недавыканаць* (выканаць менш за патрэбную норму), *недамерваць* (адмерваць менш, чым трэба). Ад дзеясловаў з прыстаўкай *неда-* адрозніваюцца дзеясловы з прэфіксам *да-*, якія спалучаюцца з *не* і абазначаюць не даведзенае да канца дзеянне: *не давучыцца да канца*, *не дачакацца цябе, не даскочыць да берага, не дасядзець да канца*;

з дзеепрыметнікамі, пры якіх адсутнічаюць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *неасушаныя* (балоты), *нержавеючая* (сталь), *нечаканы* (прыход); *непрыбраны* (пакой), *незачыненыя* (дзверы), *няходжаная* (сцежка), *нячэсаная* (*нечасаная*) (воўна); *няпоўнае* (вядро), *няспелы* (яблык), *нясмелае* (дзіця); але: *не засеянае вясною поле, не асушаныя да гэтага часу балоты. Не* (*ня*) пішацца разам з поўнымі дзеепрыметнікамі і прыметнікамі пры наяўнасці пры іх слоў *вельмі, надта, зусім, выключна, абсалютна, незвычайна* і інш.: *вельмі неабдуманы ўчынак, выключна неспрыяльнае надвор'е, абсалютна непрымальная прапанова*; *зусім някепскі вынік, надта няласкавы прыём*;

з займеннікамі, калі на часціцу *не* падае націск і паміж *не* і займеннікам няма прыназоўніка, і з падобнымі займеннікавымі прыслоўямі: *нехта, нешта, некага, нечага, некаму, нечаму; нейкі*, *нейчы, некаторы*; *некалі, некуды, неяк, некалькі, недзе, неадкуль, неадтуль*; але: *не адкуль, не адтуль* (пры націску на займеннікавым прыслоўі);

у прыслоўях, постфіксах, асобных словах: *нечакана, неабсяжна, неўзабаве, незадоўга, неўпапад, непадалёк, неўзаметку, няўцям, нехаця, нельга*; прыназоўніку *нягледзячы на;* часціцах *няўжо, няхай,* постфіксе *-небудзь* (*як-небудзь, хто-небудзь*) і слове *няма*.

2. *Не* пішацца асобна:

з дзеясловамі і дзеепрыслоўямі: *не бачыў, не ведаў, не буду рабіць, не бяры, не рабі*, *не курыць*; *не ведаючы куды*; *рабіць не спяшаючыся*; *сказаць не падумаўшы*; але: *непакоіцца, ненавідзячы*;

са словамі іншых часцін мовы, калі ёсць або падразумяваецца проціпастаўленне: *не шчасце, а адно гора з вамі; любога колеру, толькі не жоўтага*; *заходзіць да нас, але не часта*; *не два – больш*; *не каму, а вам будзе лепш*; *выступаў і ён, толькі не доўга*; *не кісла і не горка; не пашкоджаны, але не працуе нешта*;

з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі пры іх ёсць паясняльныя словы: *да канца не вырашанае пытанне, не пакінутая без увагі парада, даўно не стрыжаны, цалкам не ўпэўнены*;

з дзеепрыметнікамі ў кароткай форме: *у пакоі* (*было*) *не прыбрана, твае правы* (*былі*) *не парушаны, дзверы не зачынены*;

з прыметнікамі, прыслоўямі, калі ў якасці паясняльнага слова выступае займеннік або займеннікавае прыслоўе, якія пачынаюцца з *ні: нікому не патрэбны, ніхто не галодны, ніяк не варта чытаць, ні да чаго не здольны*;

з прыметнікамі і прыслоўямі з паясняльным словам, якое мае ацэначнае значэнне якасці: *далёка не лепшы вынік, сёння дзень зусім не горшы за мінулы, не спелы яшчэ яблык*;

з нязменнымі словамі *не трэба, не варта, не шкода, не можна, не супраць,* якія выступаюць у якасці выказніка;

з усімі словамі, часткі якіх пішуцца праз злучок: *паступіў не па-сяброўску, зроблена не па-людску, не навукова-папулярны фільм*;

асобна пішацца выраз *не раз: Не раз прыходзілася яму хадзіць праз гэты лес*.

3. *Ні* пішацца разам:

у займенніках, калі *ні* не аддзелена ад займенніка прыназоўнікам: *ніхто, нішто, нікога, нічога, ніякі, нічый, ніякаму, нічыйго, нічыім*; але: *ні ў кога, ні ў якім, ні ў якія, ні да чаго, ні да каго*;

у прыслоўях *ніколі, нідзе, нікуды, ніадкуль, ніяк, нікольк, нічуць*, а таксама ў вытворных словах: *нічыйны, ніштаваты, ніякавата, ніякаватасць*;

у слове *нібы* (*нібыта*).

4. Неабходна адрозніваць звароты *не хто іншы, як, не што іншае, як, не хто іншы, а, не што іншае, а*, у складзе якіх ёсць адносныя займеннікі *хто, што* і азначальны займеннік *іншы* (*хто іншы, што іншае*), якія ў спалучэнні з *не* з'яўляюцца адмаўленнем іх сумеснага значэння, ад зваротаў *ніхто іншы не, нішто іншае не* з адмоўнымі займеннікамі *ніхто, нішто* ў спалучэнні з азначальным займеннікам *іншы* (*ніхто іншы, нішто іншае*), значэнне якога адмаўляецца: *не хто іншы ўзяў, як ён*; *не хто іншы, а толькі ён*; *гэта не што іншае, як вапна*; *гэта не што іншае, а толькі нейкі звярок прашмыгнуў*; але: *ніхто іншы не быў, толькі ён*; *нішто іншае не цікавіць яго, адно толькі кнігі*.

5. *Ні* пішацца асобна перад выказнікам у дадзеных сказах, калі служыць для ўзмацнення сцвярджальнага значэння, а таксама ва ўстойлівых узмацняльных зваротах: *Што ні кажы, наш край багаты*; *з кім бы то ні было, што б там ні было*.

## ГЛАВА 8
## ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ

### § 40. Правілы пераносу простых, складаных, складанаскарочаных слоў, умоўных графічных скарачэнняў і іншых знакаў

1. З аднаго радка на другі словы пераносяцца па складах: *во-ля, тра-ва, за-яц, га-ла-ва, ка-ва-лак, стра-ка-ты, пра-ве-рыць, пе-ра-кі-нуць*.

2. Калі ў сярэдзіне слова паміж галоснымі маецца спалучэнне зычных, то пераносіцца на наступны радок або ўсё гэта спалучэнне, або любая яго частка. Можна пераносіць: *ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; во-стры, вос-тры, вост-ры; пту-шка, птуш-ка; кро-пля, кроп-ля; ма-ста-цтва, мас-тац-тва, мас-тацт-ва*.

Такім жа чынам перанос ажыццяўляецца, калі гэта спалучэнне разбіваецца марфемнай мяжой: *ра-змова, раз-мова; за-става, зас-тава; ра-скрыць, рас-крыць, раск-рыць; бя-скрыўдна, бяс-крыўдна, бяск-рыўдна; дзя-ці-нства, дзя-цін-ства, дзя-цінс-тва, дзя-цінст-ва; двац-цаць, два-ццаць, калос-се, кало-ссе, сол-лю, со-ллю, памяц-цю, памя-ццю, мыц-ца, мы-цца, паа-бапал, па-абапал, насе-нне, насен-не*.

3. Пры пераносе нельга:

пакідаць або пераносіць на наступны радок адну літару, нават калі яна адпавядае складу: *аса-ка, лі-нія, ра-дыё, еха-лі, па-коі.* Нельга пераносіць: *а-сака, ліні-я, рады-ё, е-халі, і-кол, а-са, я-на, ю-нак, ма-я, а-рыя, а-лея, А-зія* і інш.;

разбіваць пераносам спалучэнні літар *дж* і *дз*, калі яны абазначаюць на пісьме гукі [*дж*], [*дз'*]: *ура-джай, са-джаць, ра-дзі-ма, ха-дзіць*. Спалучэнні *дж* і *дз* можна разбіваць пераносам, калі *д* адносіцца да прыстаўкі, а *з, ж* – да кораня: *пад-жары, ад-жаць, пад-земны, ад-значыць*;

аддзяляць ад папярэдняй галоснай літары *й* і *ў*: *сой-ка, бой-кі, май-стар, дай-сці, зай-мацца, праў-да, слоў-нік, маў-чаць, заў-тра, праў-нук*;

аддзяляць мяккі знак (*ь*) і апостраф ад папярэдняй зычнай: *буль-ба, прось-ба, вазь-му, бур'-ян, сем'-яў, мыш'-як.*

4. У складаных словах кожная іх частка пераносіцца згодна з правіламі пераносу асобных слоў: *се-на-ўбо-рка, збож-жа-зда-ча.*

5. Не дзеляцца пры пераносе абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі або з'яўляюцца спалучэннем літар і лічбаў, а таксама графічныя скарачэнні слоў і выразаў: *ААН, НАТА, АБСЕ, ДАІ, А-95, г.д., г.зн., стст.*; не адрываюцца пры пераносе ад лічбаў далучаныя да іх злучком канчаткі або часткі канчаткаў: *а 19-й* (*гадзіне*), *1-га* (*студзеня*); не пажадана адрываць ад прозвішчаў ініцыялы: *Я. Брыль, К. М. Міцкевіч, Я. Ф. Карскі, М. І. Гурскі*; не пераносіцца на наступны радок працяжнік; пры пераносе нельга адрываць ад лічбы скарочаныя назвы адзінак вымярэння: *1990 г., XXI ст., 100 кг, 50 га, 2 км, 10 см, 1000 руб.*

## РАЗДЗЕЛ II
## ПУНКТУАЦЫЯ

## ГЛАВА 9

## КРОПКА

### § 41. Правілы пастаноўкі кропкі

1. Кропка ставіцца ў канцы закончанага апавядальнага сказа: *Вечар быў цёмны і ціхі. Побач з чыгункай стаяў высокі стары лес, таемны, пануры і важны. На станцыі шумеў паравоз таварнага цягніка, шумеў ціха і роўна, як бы баючыся парушыць спакой гэтага лесу. Замаўкаюць птушыныя звонкія спевы, калі восень прыходзіць у край наш лясны. Позняя ноч. Цішыня. Старонкі добрай кнігі.*

2. Калі ў канцы апавядальнага сказа ў дужках указваецца аўтар або даецца пашпартызацыя, то кропка ставіцца пасля дужак: *Жнеі спяваюць у полі, жыта густое жнучы* (М. Танк). *Госця, – маладая дзяўчына, – сядзела ў пакоі і ціха размаўляла з маці* (У. Караткевіч). *Выдатны паэт і крытык Максім Багдановіч вылучаўся глыбокай і шырокай адукацыяй, тонкім разуменнем і пачуццём паэзіі* («ЛіМ»).

3. Пасля слоў і сказаў, якія з'яўляюцца загалоўкамі да тэкстаў, папер рознага прызначэння, а таксама твораў, кніг, карцін, фільмаў, пасля надпісаў на шыльдах кропка не ставіцца. Калі ж загаловак, назва або надпіс складаюцца з двух або некалькіх сказаў, то кропка не ставіцца толькі пасля апошняга.

4. Кропкай звычайна аддзяляецца «назоўны тэмы» – назва прадмета, асобы ці з'явы, пра якую будзе ісці гутарка ў наступным тэксце.

Напрыклад:

*Піхты. Вынослівыя, гонкія, стройныя. Яны, як громаадводы, тырчаць з тайгі. Без сукоў, адны голыя ствалы. Толькі на самай макавіне дзе-нідзе рэдзенькія кароценькія лапкі* (Я. Сіпакоў).

*Дзед Міронавіч. З-за яго і запісваю гэта. Дзед – у капелюшы, з сахаром у руцэ. А барада… раскошная, як у прарока* (Я. Брыль).

5. Кропка ставіцца ў канцы пабуджальных сказаў, калі просьба ці пажаданне выказаны спакойным тонам, без клічнай інтанацыі.

Напрыклад:

*Углядайся, мой сыне, пільней углядайся ў святыя абрысы бацькоўскай зямлі* (Н. Гілевіч).

*Не хітруй, Аўсееў. Тут табе не кірмаш – таргавацца. Табе загадана, ты і выконвай* (В. Быкаў).

6. Кропка ставіцца ў канцы складаных сказаў з ускосным пытаннем.

Напрыклад:

*Пятро падышоў і спытаў у шафёра, ці можна пад'ехаць* (І. Шамякін).

*Дзед Талаш і Мартын Рыль сталі раіцца аб тым, што рабіць далей і куды ісці* (Я. Колас).

*Міхалка і не стараўся дазнацца, дзе бывае яго гаспадар* (К. Чорны).

7. Кропка ставіцца пасля сцвярджальных ці адмоўных слоў-сказаў *так, не* і іх сінонімаў (*ага, але, эге, ну, добра* і інш.) пры адсутнасці клічнай або пытальнай інтанацыі.

Напрыклад:

*«У бібліятэку збіраецеся?» – «Так».*

*«А вы, уласна кажучы, хто? Інжынер?» – «Не. Настаўніца»* (І. Шамякін).

*«Ты мяне слухаеш?» – «Ага»* (Я. Колас).

8. Кропка ставіцца перад злучнікамі *і, ды, а, але, аднак* і пад., калі яны звязваюць паміж сабой самастойныя сказы.

Напрыклад:

*Лён быў дагледжаны, падкормлены. А тут і цёплыя дні надышлі. І закучаравіўся, пайшоў лён у рост* (А. Бялевіч).

*Лабановіч борздзенька кінуўся да форткі. Але там было ўсё ціха* (Я. Колас).

*Саўчанка дазволіў разлікам добра адаспацца. Ды на холадзе, у сырых нішах, не надта спіцца* (І. Шамякін).

9. Кропкай аддзяляюцца асобныя часткі выказвання пры парцэляцыі.

Напрыклад:

*Людзі змагаюцца і перамагаюць. Вайну. Страх. Голад. Дэспатызм, тупасць...* (І. Шамякін).

*Назаўтра першы падхапіўся Гарбацэвіч. Яшчэ на світанні* (Г. Далідовіч).

*«Тады будзе мір. І шчасце. І жыццё», – сказаў я не без некаторага пафасу* (В. Быкаў).

10. Кропка ставіцца ў канцы рубрык пералічэння, калі гэтыя рубрыкі з'яўляюцца самастойнымі сказамі. Паслядоўнасць пунктаў абазначана лічбамі з кропкай.

Напрыклад:

*У пастанове былі запісаны чатыры пункты:*

*1. Арганізаваць саюз настаўнікаў на падставе пастановы сходу ад 9 ліпеня 1906 года.*

*2. Саюз ставіць сабе асноўнай мэтай – весці барацьбу з самадзяржаўным ладам шляхам прапаганды ідэі рэвалюцыі сярод насельніцтва і распаўсюджання рэвалюцыйнай літаратуры. Кожнаму члену арганізаванага настаўніцкага саюза ставіцца ў абавязак – стварэнне на месцах рэвалюцыйных ячэек з мэтай прыцягнення найбольшай колькасці членаў у саюз настаўнікаў.*

*3. Арганізаванаму настаўніцкаму саюзу далучыцца да Усерасійскага саюза настаўнікаў і ўвайсці з ім у цесныя зносіны.*

*4. Для вядзення спраў саюза выбіраецца бюро ў складзе 3-х асоб: Садовіча, Райскага і Тукалы* (Я. Колас).

11. Кропка ставіцца пасля ўмоўных графічных скарачэнняў (акрамя стандартных скарочаных абазначэнняў метрычных мер): *г. Мінск; в. Лебядзінец; г. Капыль Мінскай вобл.*; але: *100 г, 5 см, 3 сек* і інш.

Калі ўмоўным графічным скарачэннем заканчваецца сказ, то ў канцы сказа другая кропка не ставіцца.

Напрыклад:

*Існуюць індукцыйная электрычная зварка* (*токамі высокай частаты*), *зварка электронным промнем* і інш. (БелСЭ).

12. Кропкай аддзяляюцца назвы дзейных асоб у драматургічных творах, калі гэтыя імёны запісваюцца ў адным радку з рэплікай.

Напрыклад:

Ч а р н а в у с. *Можа, я занадта рэзка выступіў. Трэба будзе пагаварыць з ім.*

В е р а. *Я лічу, што вы вельмі добра выступілі, і няма чаго вам прабачэння прасіць*
(К. Крапіва).

13. Кропка ставіцца ў спасылках (у тым ліку і падрадковых) пры ўказанні на прыналежнасць цытаты пасля прозвішча аўтара, калі ўслед за ім ідзе назва твора гэтага аўтара.

Напрыклад:

*Было лета, самая зялёная пара яго* (І. Мележ. «Подых навальніцы»).

*Тварэц мовы – народ. Задача ж пісьменніка – у фарміраванні, адборы лепшага, у прывядзенні мовы да літаратурных норм. Як бачым, задача немалая. Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную* (Я. Колас. «Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову»).

## ГЛАВА 10
## ПЫТАЛЬНІК

### § 42. Правілы пастаноўкі пытальніка

1. Пытальнік ставіцца ў канцы простага сказа (у тым ліку слова-сказа), якім выражаецца прамое пытанне.

Напрыклад:

*Дзе вы, песні жніўныя? Хто вас адвячоркамі панясе над нівамі?* (П. Броўка).

*Адкуль тут музыка нясецца? Чыя тут песня ў душу льецца?* (Я. Колас).

*– Няўжо дачакаліся? Няўжо праўда? – бы дзіця, радавалася дзяўчына* (В. Быкаў).

*– Га? – не зразумеў пытанне дзед* (Я. Колас).

2. Пытальнік ставіцца ў канцы складаназалежнага сказа, калі пытанне выражана ў галоўнай і даданай частках або толькі ў галоўнай.

Напрыклад:

*Ці ты, бабка, не ведаеш, хто гэта прынёс сюды красак?* (Я. Колас).

*Хто згадае, чаго сэрца плача?* (П. Трус).

*Край мой родны! Дзе ж у свеце край другі такі знайсці, дзе б магла так, поруч з смеццем, гожасць пышная ўзрасці?* (Я. Колас).

*Што можа быць даражэйшае сэрцу чалавека, як у сталых гадах пачуць цябе, роднае слова, у чужой старане?* (К. Крапіва).

Пытальнік можа ставіцца ў канцы складаназалежнага сказа і тады, калі пытанне заключаецца ў даданай частцы.

Напрыклад:

*І скажы, дзядок, адкуль хмары гэтыя выходзяць?* (Я. Колас).

3. Пытальнік ставіцца ў канцы складаназлучанага і бяззлучнікавага складанага сказа, калі кожная іх частка выражае пытанне або калі пытанне выражае толькі апошняя частка.

Напрыклад:

*Будуць яшчэ пытанні ці пачнём спрэчкі?* (М. Паслядовіч).

*Ці гэта казку лес складае, ці даль ачнулася нямая і немасць песняй парушала?* (Я. Колас).

*Яго пакрыўдзілі, зняважылі, а ён будзе кланяцца ім?* (Я. Колас).

*Стаміўся ў дарозе, ды дзе спачываць?* (П. Броўка).

*Паслухай добра: чуеш песні?* (Я. Колас).

4. Пытальнік (або пытальнік з клічнікам) ставіцца ў дужках (звычайна ў цытаце з тэксту іншага аўтара), калі змест выказанай кім-небудзь думкі выклікае сумненне ці непаразуменне.

Напрыклад:

*Наўрад ці ўпрыгожваюць паэтычны твор радкі накшталт: «Букет струменняў пералівісты шугнуў падобна рысаку»* (?) (Н. Гілевіч).

5. У пытальных сказах з аднароднымі членамі сказа пытальнік можа ставіцца пасля кожнага аднароднага члена з мэтай раздзялення пытання.

Напрыклад:

*Вольна ішлі яны* [калгаснікі] *пушчай, прыцішыўшы крокі... Стрэл адзінокі рэхам трывожна глухім дакаціўся да іх. Што гэта? Стрэл паляўнічы? Ці знак таямнічы?* (А. Куляшоў).

## ГЛАВА 11
## КЛІЧНІК

### § 43. Правілы пастаноўкі клічніка

1. Клічнік ставіцца ў канцы простага і складанага сказа, якія вымаўляецца з клічнай інтанацыяй.

Напрыклад:

*Эх, і прывабныя стаяць летнія дзянькі!* (І. Навуменка).

*Слаўся, наша сталіца Мінск!*

*Я хачу зберагчы цябе, матчына песня, каб запоўніць табою спусцелыя душы!* (Н. Гілевіч).

*Як усім было весела!* (А. Васілевіч).

*– Які дождж! – усклікнуў я* (Г. Далідовіч).

*Што за дзяўчына! Што за натура!* (Я. Колас).

*Як хацеў бы я па палях прайсці і ўпіцца іх пахам, росамі, паглядзець, зірнуць, як жыты растуць, як калосікі наліваюцца!* (Я. Колас).

*Цыц! Не смець казаць мянушку, а то зніму на вас папружку!* (Я. Колас).

*«Рукі ўгору!» – грымнуў тут дзядзька Мірон...* (М. Лынькоў).

*Ён не служка тут больш – кві́та!* (Я. Колас).

Калі часткі складанага сказа з'яўляюцца клічнымі, то яны раздзяляюцца коскай, а ў канцы сказа ставіцца клічнік.

Напрыклад:

*Якія знаёмыя назвы і словы, якая цудоўная родная мова!* (П. Панчанка).

*Ты паслухай, Апанас, што за голас, што за бас!* (Я. Колас).

Параўн.: *Колькі хараства і чароўнага прывабу ў сініх далях! Колькі новых малюнкаў, свежых матываў і таемных здарэнняў абяцаюць яны вачам і сэрцу падарожнага!* (Я. Колас).

*Як хітра, мудра збудавана! Як чыста, хораша прыбрана!* (Я. Колас).

2. Клічнік ставіцца пасля звароткаў, якія стаяць у пачатку або ў канцы сказа, пасля выклічнікаў і гукаперайманняў, што стаяць у пачатку, у сярэдзіне ці ў канцы сказа, калі гэтыя словы вымаўляюцца з клічнай інтанацыяй.

Напрыклад:

*Піліпчык! Нясі з істопкі, што там ёсць у нас. Людзям час даўно снедаць.* (М. Лынькоў).

*Я помню летнія часіны і вас, грыбныя баравіны!* (Я. Колас).

*– Ого! – пачуў ён збоку ад сябе пявучы голас. – Малайчына, хлопчык!* (М. Лупсякоў).

*– Гу-гу! – штосьць гукне, садрыгнецца, бах-бах! – на гук той адзавецца і аж па лесе пойдзе рэхам...* (Я. Колас).

*Там рыба – ого-го!* (Я. Маўр).

3. Клічнік ставіцца ў канцы слоў і сказаў, якімі эмацыянальна перадаюцца прывітанні, развітанні, віншаванні, пажаданні, заклікі і пад.

Напрыклад:

*– Дзень добры!*

*– Дзень добры! Сядай, чалавеча!* (А. Куляшоў).

*– Добры дзень вам! – сказала, усміхаючыся ад нечаканасці і здзіўлення, Вера Сымонаўна.* (Б. Сачанка).

*– Да пабачэння! – Бывайце, – кінуў яму безуважна адно слова Карніцкі.* (М. Паслядовіч).

*Добрай ночы!*

*Слава працаўнікам-хлебаробам!*

*Усім народам – мір і шчасце!* (А. Астрэйка).

*З Новым годам! З новым шчасцем!*

*Здароўя вам і поспехаў!*

4. Клічнік можа ставіцца пасля «назоўнага тэмы» («назоўнага ўяўлення»).

Напрыклад:

*Мір! Што ёсць лепшае і прыгажэйшае на свеце? Мір – гэта і праца, і шчасце, і радасць. Усё найдаражэйшае, людское заключана ў гэтым на дзіва простым і на дзіва мілым слове* (М. Гамолка).

*Дарогі! Колькі іх, агульных для ўсіх людзей і асабістых у жыцці кожнага чалавека! І акружных, і простых* (А. Пальчэўскі).

5. Клічнік можа ставіцца ў дужках для выражэння эмацыянальных адносін да зместу выказвання.

Напрыклад:

*Прыйшоў адтуль* [з рэдакцыі] *ліст. А ў ім, як звычайна, пісалася: «...відаць, вы* (!) *упершыню ўзяліся за пяро...»* (В. Зуёнак).

*Сцэна* (*дадатковая*), *якая падвешана* (!) *над звычайнай сцэнай, важыць зноў жа ні многа ні мала – сорак пяць тон...* (А. Васілевіч).

## ГЛАВА 12
## ШМАТКРОП'Е

### § 44. Правілы пастаноўкі шматкроп’я

1. Шматкроп'е ставіцца ў канцы апавядальнага сказа для абазначэння незакончанасці выказвання.

Напрыклад:

*Няма Хатыні... Звоняць толькі званы.* (Р. Мачульскі).

*І змоўклі абодва надоўга, думалі кожны пра сваё...* (Б. Сачанка).

*Беларусь, Беларусь, ні канца, ні краю...* (Я. Брыль).

*Толькі б ціха на свеце было, толькі б ціха...* (Н. Гілевіч).

*Направа будзе лісцвяны лясок. За ім вёска Ямичына. За Ямичынай проста дарога на поўдзень. Адлічыш па дарозе дзве першыя вёскі...* (К. Чорны).

*Людзі ездзяць, а ты...* (Я. Брыль).

2. Шматкроп'е ставіцца пасля апошняга слова пералічэння, калі яно абрываецца.

Напрыклад:

*У гэтым кутку міжрэчча некалькі вёсак маюць назву Рудня: Рудня Марымонава, Рудня Каменева...* (І. Шамякін).

*Ёсць кулямёты, ёсць аўтаматы. І шаблі, карабіны...* (Б. Сачанка).

*Чуецца гоман мне спелае нівы, ціхая жальба палёў, лесу высокага шум-гуд шчаслівы, песня магутных дубоў...* (Я. Колас).

3. Шматкроп'е ставіцца для абазначэння нечаканых перапынкаў, перарывістасці ў маўленні, што ўзнікаюць у выніку перажыванняў, хвалявання чалавека або пошуку спосабу выражэння думкі.

Напрыклад:

*– Я... так... хлопец... падарожны, праз сябе сам... Я... нічый! – і пры гэтым асцярожна ён* [Сымон] *зірнуў на дзедаў кій.* (Я. Колас).

*Я хацеў сказаць, што мы... сёння... не сустракаемся...* (І. Мележ).

*Чакай, як жа яе* [настаўніцу] *звалі... Гм, Людміла Рыгораўна... Людміла Рыгораўна Капуцкая... Здаецца, зусім нядаўна тое ўсё было... А колькі чаго перажыта!..* (Б. Сачанка).

*А Сава сказаў коратка і проста: «Для мяне, хоць зараз...» – «Нічога...– перабіў Паддубны. – Толькі канспірацыя... прашу... Асцярожна. Вывучайце сваіх людзей...»* (П. Пестрак).

*– Антоська!.. родны мой! канаю... перагарэў, адстаў, знікаю... Вядзі ж ты рэй, вядзі... адзін... як лепшы брат, як родны сын* (Я. Колас).

*– Я спужаўся?! – разгарачыўся Лявон. – Я спуж…* (З. Бядуля).

4. Шматкроп'е ставіцца ў пачатку, у сярэдзіне, у канцы цытаты, каб паказаць, што ў гэтых месцах прапушчаны словы.

Напрыклад:

*К. Крапіва, раскрываючы сутнасць сатырычных твораў, адзначае: «...рэзананс сатырычнага твора... залежыць ад значнасці аб'екта, на які гэты твор накіраваны».*

*Доўгі час сяброўскія адносіны звязвалі І. Шамякіна з І. Мележам. «Безумоўна, жывучы па-суседску, – успамінае ён, – мы часта заглядвалі адзін да аднаго і вялі цікавыя літаратурныя размовы, больш спакойныя, глыбокія, чым нашы калектыўныя дыспуты...»*

*І. Шамякін успамінае: «Пленум... надзвычай узбагаціў мяне»* (В. Каваленка).

5. У лексікаграфічных працах пры пропуску часткі цытаты-ілюстрацыі звычайна ставяцца дзве кропкі.

Напрыклад:

*Усё.. аблічча дзяўчыны выдавала яе ўсходняе паходжанне* (А. Васілевіч).

*Добра абмачыць касу, пацягнуць яе пад вадой і, падняўшы, глядзець, як.. цячэ ў раку тонкі струмень* (Я. Брыль).

6. Калі скарачаецца цытата, у канцы якой павінен стаяць пытальнік або клічнік, то гэтыя знакі ставяцца пасля дзвюх кропак.

Напрыклад:

*Гэй! узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна..!* (Я. Купала).

Параўн.: *Гэй! узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна, на мінулых дзён магіле, над санлівасцю хаўтурнай!*

7. Шматкроп'е ставіцца ў дыялогу, каб паказаць маўчанне замест адказу на зварот суразмоўцы.

Напрыклад:

*– Дык што, пайшлі?– запыталася дзяўчынка.*

*– ...*

*– Ну, чаго ты маўчыш?*

8. Шматкроп'е ставіцца паміж абзацамі пры нечаканым пераходзе ад аднаго плана апавядання да другога.

Напрыклад:

*Яна была яшчэ зусім маладая, але на твары яе ляжаў адбітак перажытага. Цененькія маршчынкі сабраліся на яе ілбе і каля рота, сінія кругі былі пад вачыма, твар увесь быў запэцканы зямлёй. Кароценькі рваны кажушок на ёй таксама быў у зямлі...*

*Часавы раздзеўся, набраў у кварту вады і стаў умывацца. За ім памыліся яшчэ два. Кабета падняла галаву і папрасіла дазвалення памыцца* (К. Чорны).

Калі пераход ад аднаго плана апавядання да другога мае больш рэзкі характар, то шматкроп'е ставіцца ў канцы першага абзаца і ў пачатку другога.

Напрыклад:

*Ці помніць яна, што гаварыла вясною? Тады ў садзе белай пенай з ружовымі прасветамі цвілі яблыні... Цвілі, каб за ўсё лета антонаўкі выраслі, паспелі, сталі такімі, як некалі яна казала...*

*...Успомніла! Зірнула на Антона, усміхнулася, узяла самы большы яблык і паднесла да губ* (І. Грамовіч).

9. Шматкроп'е можа ставіцца пасля «назоўнага тэмы» («назоўнага ўяўлення»).

Напрыклад:

*Хатынь... Мала хто чуў, мусіць, гэтую назву да вайны. Мала хто ведаў і самую вёску, якая згубілася сярод лясоў і пагоркаў Лагойшчыны.*

*Максім Багдановіч... Кароткі быў яго жыццёвы век. Ён вымяраецца дваццаццю пяццю гадамі. Многія літаратары ў такім узросце толькі пачынаюць тварыць. Ён жа закончыў* (А. Бачыла).

## ГЛАВА 13
## КОСКА Ў ПРОСТЫМ СКАЗЕ

### § 45. Коска паміж аднароднымі членамі сказа

1. Коскай раздзяляюцца аднародныя члены сказа, якія не звязаны паміж сабою злучнікамі.

Напрыклад:

*Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы* (Я. Купала).

*Наўкола гуў, гаманіў, мітусіўся салдацкі натоўп* (В. Быкаў).

*Молада, хораша, звонка спяваў гарманіст* (Я. Брыль).

Не з'яўляюцца аднароднымі членамі і не аддзяляюцца адзін ад аднаго коскай два дзеясловы ў аднолькавай форме, якія стаяць побач, утвараючы ў сэнсавых адносінах адно цэлае тыпу: *Пайду вазьму. Пайсці даведацца. Вазьмі аднясі. Сядзем абмяркуем. Устань пагляздзі*. *«Кладзіся ідзі спаць, позна ўжо!» – загадвае маці* (А. Васілевіч).

2. Раздзяляюцца коскамі два або некалькі прыметнікаў-азначэнняў, якія адносяцца да аднаго і таго слова ў сказе і характарызуюць прадмет у аднолькавых адносінах – называюць падобныя паводле сэнсу прыметы (звычайна сінанімічныя або блізкія да сінанімічных), а таксама азначэнні, якія абазначаюць адметныя адзнакі розных прадметаў.

Напрыклад:

*На змену ночы прыйшоў ясны, сонечны дзень* (В. Вольскі).

*Мяккія, ласкавыя гукі стройным сугалоссем паліліся па пакоі* (Я. Колас).

*Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня...* (М. Багдановіч).

*На ёлцы загарэліся чырвоныя, зялёныя, жоўтыя агні.*

Не раздзяляюцца коскамі неаднародныя прыметнікі-азначэнні.

Напрыклад:

*Над далёкімі лясамі звісала тонкая блакітная смуга* (Я. Колас).

*Я гляджу на зялёнае рослае жыта, на крутыя мурожныя ў лузе стагі* (С. Грахоўскі).

*Плыве над верасам хваёвы душны пах* (П. Панчанка).

*Насталі кароткія туманныя асеннія дні* (Я. Колас).

3. Коскай аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія звязваюцца паміж сабой злучнікамі *а, але, ды* (у значэнні «але»), *аднак, хоць, толькі* і інш.

Напрыклад:

*Паўлюк толькі зірнуў, але нічога не сказаў* (Я. Колас).

*Сонца толькі што ўзышло, аднак прыгравала ўжо даволі горача* (Э. Самуйлёнак).

*Хлопчык слухаў, ды не верыў* (Я. Колас).

*Голас яго ўжо быў амаль звычайны, толькі хрыпеў...* (І. Шамякін).

*І дзядзька быў рыбак выдатны, хоць больш урыўкавы, прыватны...* (Я. Колас).

4. Коскай аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія звязваюцца пры дапамозе парных злучнікаў *як, так і; не толькі, але* (*а*) *і; калі не, то* (*дык*)*; хоць, але* (*а*)*; хоць і не, затое* (*аднак*)*; не то што, але і* і інш.

Напрыклад:

*Пажар заўважылі як з баракаў, так і з пасёлка* (П. Пестрак).

*Маці як несла патэльню яечні на стол, так і застыла з ёю на паўдарозе* (І. Шамякін).

*Каб не то што сказаць, але і падумаць ніхто кепскага не мог...* (І. Мележ).

*Лес наш хоць і не дужа вялікі, але прыгожы* (М. Ваданосаў).

*Якуб Колас – паэт, і паэт не толькі ў сваіх паэмах, але і ў прозе* (Б. Сачанка).

5. Коскай аддзяляюцца адзін ад аднаго аднародныя члены сказа, якія звязваюцца пры дапамозе паўторных злучнікаў *і ... і, ды … ды, то ... то, ні ... ні, не то ... не то, ці ... ці, ці то ... ці то, або* (*альбо*) *... або* (*альбо*) і інш.

Напрыклад:

*Я рад і сонцу, і вясне, і дожджыку* (Я. Пушча).

*Пазбіраць іх* [людзей] *толькі трэба ды на добрую дарогу наставіць, ды даць ім добрага камандзіра* (Я. Колас).

*Касцы ідуць то грамадою, то шнурам цягнуць, чарадою, то паасобку, то па пары...* (Я. Колас).

*Ні далеч, ні час не заслоняць мне родных бароў* (Я. Колас).

*Потым чуваць ці то птушыны шчэбет-перасвіст, ці то веснавое булькание ручаін* (Я. Брыль).

6. Калі паўторныя злучнікі *і, ні, то* звязваюць словы як аднародныя часткі ўстойлівых (фразеалагічных) выразаў, то ў іх перад гэтымі злучнікамі коска не ставіцца.

Напрыклад:

*і днём і ноччу, і туды і сюды, і смех і грэх, і смех і слёзы, і смех і гора, і скокам і бокам, і так і сяк, і так і гэтак, і тут і там, і вашым і нашым, і радасць і слёзы, і такі і гэтакі, і ў хвост і ў грыву, і дома і замужам*;

*ні так ні гэтак, ні бэ ні мэ, ні сёе ні тое, ні з таго ні з сяго, ні ўзад ні ўперад, ні жывы ні мёртвы, ні рыба ні мяса, ні кала ні двара, ні даць ні ўзяць, ні многа ні мала, ні больш ні менш, ні адтуль ні адсюль, ні свет ні зара, ні стаць ні сесці, ні села ні пала, ні слуху ні духу, ні складу ні ладу, ні гневу ні ласкі, ні канца ні краю, ні сват ні брат, ні к сялу ні к гораду, ні ў кола ні ў мяла, ні ў пяць ні ў дзесяць, ні грозьбай ні просьбай, ні спору ні ўмалоту, ні дому ні лому*;

*то скокам то бокам, то сюды то туды, то ўзад то ўперад, то тое то сёе, то так то сяк* і інш.

7. Не аддзяляюцца коскай таксама два аднародныя члены сказа, якія звязваюцца паўторнымі злучнікамі, калі яны паводле сэнсу і інтанацыйна ўтвараюць адзінства.

Напрыклад:

*Як хмары закрылі і сонца і зоры, пайшоў* [Каліна] *партызаніць да бору...* (П.Броўка).

*Вітаю цябе я і соллю і хлебам!* (Я. Купала).

*І дзень і два яны ў дарозе* (Я. Колас).

*Ці вясною ці ўлетку шмат народу на палетку* (А. Русак).

8. Коскай раздзяляюцца ўсе аднародныя члены сказа, калі папярэднія з іх звязаны паміж сабой без злучнікаў, а наступныя – пры дапамозе паўторнага злучніка *і*.

Напрыклад:
*Жыццё чулася ў траве, у гаёчку, і лясочку, на палях, і на лугах, і ў зялёненькім лужочку, і ў крынічных берагах* (Я. Колас).
*Дзень іграе на жалейцы, на трубе, і на ражку, і на сінім трысняку* (М. Танк).

9. Калі паўторны злучнік *і* стаіць пасля першага аднароднага члена, перад ім таксама ставіцца коска.

Напрыклад:
*У песнях жа родны край, родныя словы жылі, і жывуць, і жыць будуць* (Я. Купала).

10. Коскай аддзяляюцца аднатыпныя парныя групы аднародных членаў сказа, звязаных паміж сабой злучнікам *і*.

Напрыклад:
*Выпаў першы снег. Белай коўдрай улёгся на палеткі і лугі, рэкі і азёры* (М. Машара).
*Сосны і вязы, дубы і асіны вакол возера вартай пасталі* (Я. Купала).

11. Калі злучнік *і* звязвае больш як дзве парныя групы аднародных членаў, то перад ім ставіцца коска.

Напрыклад:
*Лясы ў нашай краіне можна сустрэць вялікія і малыя, і густыя і рэдкія, і хвойныя і змешаныя.*

12. Калі злучнік *і* звязвае пары аднародных членаў, паміж імі коска не ставіцца.

Напрыклад:
*Удзень і ўночы над палямі і лясамі чуліся выбухі снарадаў і аўтаматная страляніна* (І. Мележ).

## § 46. Коска паміж словамі, якія паўтараюцца

1. Коскай раздзяляюцца аднолькавыя словы і радзей – спалучэнні слоў, не звязаныя паміж сабой злучнікамі (за выключэннем *і, ды*), якія пераважна стаяць побач і паўтараюцца для сэнсавага падкрэслівання працягласці, бесперапыннасці дзеяння, для колькаснага або эмацыянальнага выдзялення прадметаў, з'яў, асоб, для ўзмацнення прыметы і ступені якасці, сцвярджэння або адмаўлення і пад.

Напрыклад:
*Плыве, плыве за хмарай хмара...* (П. Трус).
*Не веру, не веру і не веру. Гэтага не магло быць* (К. Крапіва).
*Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы, калыхайце, люляйце свой напеў векавы...* (Н. Гілевіч).
*Ніколі, ніколі нідзе не забыць, як хлопцы выходзяць адранкам касіць* (П.Броўка).
*І рэчка ёсць. А рыбы, рыбы!* (Я. Колас).
*І вам нічога не цікава, апроч сябе, апроч сябе* (Г. Бураўкін).

2. Калі перад словам, якое паўтараецца, стаіць слова *толькі* або *і толькі* ці *іменна*, то коскамі выдзяляецца разам усё гэта спалучэнне.

Напрыклад:
*Перад Лабановічам усплыў вобраз Ядвісі, і зноў аб ёй, толькі аб ёй, пачаў ён думаць* (Я. Колас).
*Значыць, ты з ім, іменна ты з ім, а не ён з табою* (А. Кулакоўскі).
*У яго, і толькі ў яго, хацела б яна вучыцца мужнасці, высакародству, адданасці справе* (А. Васілевіч).

3. Калі перад кожным словам, якое паўтараецца, стаіць злучнік *і*, то перад ім ставіцца коска.

Напрыклад:
*І гудуць, і гудуць па азімай раллі трактары* (М. Танк).
*Глуха шэпча лес зялёны, і шуміць ён, і шуміць* (Я. Колас).

Коска ставіцца перад далучальнымі злучнікамі *і, ды,* якія стаяць пры паўтораным слове з удакладненнем.

Напрыклад:
*Я пакахаў цябе з дзяцінства, і пакахаў да слёз* (П. Трус).

4. Коскай не раздзяляюцца пры паўторным ужыванні словы, якія стаяць побач:

два словы, звязаныя адзіночнымі злучнікамі *і, ды* (у значэнні *і*): *Хваля паветра дрыжыць і дрыжыць* (Я. Колас). *Кругом была вада і вада* (Я. Маўр). *Дні бягуць ды бягуць* (Я. Колас);

два аднолькавыя або аднакаранёвыя словы, калі наступнае слова ўжываецца з адмоўем *не*: *было не было, прасі не прасі, хочаш не хочаш, дагоніш не дагоніш, купіў не купіў, зладзіў не зладзіў; дрэва не дрэва, брат не брат, і ён не ён*; *насіць не перанасіць, вазіць не переразіць, прасіць не дапрасіцца, чакаць не дачакацца, капаць не дакапацца; сказаць не скажаш, зрабіць не зробіш, зрабіць не зраблю* і інш.;

два аднолькавыя словы, калі наступнае слова ўжываецца з часціцай *дык* і паўтараецца для ўзмацнення меры дзеяння, ступені якасці: *закінуў дык закінуў, падскочыў дык падскочыў, скакаць дык скакаць, страсянуў дык страсянуў; вецер дык вецер, паводка дык паводка, чалавек дык чалавек. Калі самалёт крута пайшоў уніз, Сашка не спалохаўся: скакаць дык скакаць* (М. Лынькоў). *От гэта чалавек дык чалавек* (Р. Сабаленка).

## § 47. Коска пры параўнальных зваротах

1. Параўнальныя звароты, якія пачынаюцца злучнікамі *як, бы, як бы, нібы, нібыта, быццам, як быццам, што, як і, чым,* выдзяляюцца коскамі.

Напрыклад:
*Па небе хмары, як палотны, паўночны вецер рассцілае.* (Я. Колас).
*Дзяўчаты, нібы русалкі, карагоды водзяць* (П. Панчанка).
*Поле, нібыта падкованай, акружана лесам* (І. Навуменка).
*Над возерам устае, быццам белая воўна, пахучы туман* (З. Бядуля).
*Зоры высыпаюць, бы іней...* (Я. Колас).
*Высокі, аж пад столь, плячысты, што воз сена, стройны і роўны, што сасняк у бары, смуглявы і вясёлы, з усмешкай на белых зубах, як у дзіцяці, ён ішоў на круг* (І. Пташнікаў).

2. Выдзяляюцца коскамі спалучэнні слоў *як адзін, як правіла, як звычайна, як знарок, як цяпер, як заўсёды* і пад.

Напрыклад:
*Мы па сігналу ваеннай трывогі ўсе, як адзін, уставалі на бой* (П. Глебка).
*Пажылыя людзі памятаюць, як цяпер, дзень заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.*
*Каля сельмага, як заўсёды, збіраюцца вяскоўцы.*

3. Пры параўнальных зваротах са злучнікамі *як, як быццам, чым* і іншых у шэрагу выпадкаў коска не ставіцца.

Коска не ставіцца перад злучнікамі *як* і *чым* у спалучэннях *больш як* (*не больш як*), *больш чым* (*не больш чым*), *менш як* (*не менш як*), *менш чым* (*не менш чым*), *не бліжэй як, не далей як, не часцей як, не радзей як, не іначай як, усё роўна як* і пад., якія выражаюць абмежаванне ў прасторы, часе, колькасці.

Напрыклад:

*Абоз расцягнуўся больш як на вярсту* (Я. Колас).

*Менш чым праз хвіліну Несцяровіч вярнуўся ў хату* (К. Чорны).

*У вышыню* [дуб] *не менш як трыццаць метраў, таўшчыня – тры-чатыры абхваты* (В. Вольскі).

У такіх спалучэннях коска перад *як* і *чым* ставіцца тады, калі яны сэнсава і інтанацыйна выдзяляюцца.

Напрыклад:

*Гасцей чакалі не раней, як праз паўгадзіны* (Я. Колас).

*Лес патрэбен людзям не меней, чым хлеб* (І. Навуменка).

*Людзей у лесе было больш, як грыбоў.* (Я. Колас).

*Ён меў права затрымлівацца ў адным месцы не больш, чым суткі* (Я. Брыль).

4. Не выдзяляюцца коскамі:

устойлівыя выразы са злучнікам *як*: *як мага, як след, як мае быць, як належыць, як не ў сябе,* а таксама *як на далоні, як на іголках* і пад.;

Напрыклад:

*Здалёк разгледзець жанчыну як след было цяжка* (М. Лупсякоў).

*Трэба як належыць рыхтавацца ў дарогу.*

*Не паспеў Лабановіч як мае быць разгледзець гэтыя ўбогія апартаменты вартаўніка, як зараз жа выплыла з-за дрэў яго постаць* (Я. Колас).

ўстойлівыя параўнанні з *як: відна як днём, гол як сакол, галодны як воўк, злы як сабака, белы як палатно, белы як снег, пабляднеў як палатно, моцны як дуб, здаровы як бык, лёгкі як пярынка, няўклюдны як мядзведзь, патрэбны як паветра, чорны як сажа, цвёрды як камень, чырвоны як рак, цёмна як ноччу, хітры як ліса, палахлівы як заяц, халодны як лёд, баяцца як агню, берагчы* (*глядзець*) *як вока, ведаць як свае пяць пальцаў, маўчаць як рыба, біцца як рыба аб лёд, не бачыць як сваіх вушэй, як рукой зняло, як рукой падаць, як кот наплакаў, растаў як снег, лопнуў як мыльны пузыр, прыстаў як смала, стаіць як укопаны, спаў як забіты, расце як на дражджах, адчуваць сябе як дома, усе як на падбор, як на далоні, як на іголках*.

5. Не выдзяляюцца коскамі параўнальныя звароты, якія з'яўляюцца іменнай часткай выказніка.

Напрыклад:

*Яны для мяне як бацькі* (В. Быкаў).

*Ты як песня тая* (Я. Пушча).

*Ліпа нібы цёмная хмара за акном* (Я. Брыль).

6. Коска не ставіцца перад параўнальным зваротам, калі перад ім ёсць часціца *не* або прыслоўі *зусім*, *амаль*.

Напрыклад:

*Андатра ўмывалася амаль як чалавек* (В. Вольскі).

*Міхась трымаўся не як сталы чалавек* (Я. Колас).

*Сонца прыгравала зусім як летам* (М. Паслядовіч).

7. Не выдзяляюцца коскамі звароты з *як,* калі яны ўжытыя са значэннем “у якасці” або са значэннем тоеснасці.

Напрыклад:

*Чмаруцьку ведаюць усе як чалавека з фантазіяй* (М. Лынькоў).

*Я захоўваю франтавыя пісьмы братоў і сяброў як памяць аб іх.*

*Гэта кніга выдадзена як дапаможнік для студэнтаў.*

## § 48. Коска пры адасобленых азначальных зваротах і словах

1. Коскамі выдзяляюцца:

дапасаваныя азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі і прыметнікавымі словазлучэннямі, што стаяць пасля назоўніка, які паясняюць;

Напрыклад:

*Між імён, праслаўленых на свет, былі імёны нашых блізкіх і знаёмых* (П. Глебка).

*Вядома, няма ўжо таго пярэстага дывана, калі бела-сінім полымем палае дол, зарослы пралескамі* (І. Навуменка).

*Сінявокая смуга, поўная цеплыні і ласкі, песціла далёкія лясы і куччастыя бярозы* (Я. Колас).

дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі без паясняльных слоў, калі яны стаяць пасля назоўніка, з якім звязаны, і звычайна маюць падкрэсленую сэнсавую нагрузку;

Напрыклад:

*Шуміць рака, вясёлая, жывая* (А. Бачыла).

*А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі* (Я. Колас).

*Хата, вымытая і прыбраная, чакала гасцей.*

*Лабановіч, зацікаўлены, глянуў яшчэ раз на пасаду* (Я. Колас).

дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі як з паясняльнымі словамі, так і без іх, калі яны стаяць перад назоўнікам, які паясняюць, і, з'яўляючыся азначэннем, маюць дадатковае акалічнаснае адценне (прычыны, уступкі);

Напрыклад:

*Узрушаны і выведзены з раўнавагі, старшыня грозна ўшчувае крыкуноў* (Я. Колас).

*Захоплены гэтаю новаю думкаю, Пракоп доўга не можа заснуць* (Я. Колас).

*Падахвочаныя, дужыя, хлопцы адразу ўзяліся за працу* (Я. Колас).

Дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепры-метнікамі з паясняльнымі словамі і без іх, якія адносяцца да назоўніка (пераважна да дзейніка) і стаяць перад ім, радзей – пасля яго, але аддзеленыя ад гэтага назоўніка выказнікам ці іншымі членамі сказа;

Напрыклад:

*Магутныя ў сваёй велічы, стаялі старыя дубы* (І. Навуменка).

*Мокрая і прыціснутая асеннім холадам, цяпер гэта расліннасць усё яшчэ гусцілася і ўпарта зеленелася* (К. Чорны).

*Ігнась вярнуўся дадому праз два тыдні, схуднелы, абарваны* (У. Ліпскі).

дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, адзіночныя і з паясняльнымі словамі, якія адносяцца да асабовых займеннікаў;

Напрыклад:

*Пранікніцеся любоўю да маёй Беларусі, людзі. Велічная і гордая, яна таго вартая* (У. Караткевіч).

*Радасная здагадка азарае мяне, і, здзіўлены, я паволі ўстаю ў акопе* (В. Быкаў).

*Пільны, насцярожаны, ступіў ён у хату* (І. Мележ).

Калі ў склад адасобленага азначальнага звароту ўключана іншая ўдакладняльная канструкцыя, то яна выдзяляецца коскамі: *Навокал быў густы травяністы луг, усыпаны, нібы пацеркамі, расою...* (Я. Сіпакоў).

Калі дапасаваныя азначэнні не маюць выражанага акалічнаснага значэння, коска можа не ставіцца: *Працяты марозам снег хрустка скрыпеў пад нагамі дзеда Талаша і грамознага Мартына Рыля* (Я. Колас).

2. Дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, адзіночныя і з паясняльнымі словамі, адасабляюцца і выдзяляюцца коскамі і ў тым выпадку, калі пры іх займеннік адсутнічае, але падразумяваецца.

Напрыклад:

*Занятыя размовай,* [мы] *непрыкметна пад'язджаем да шырокай прасекі* (У. Правасуд).

3. Калі да аднаго назоўніка або займенніка ў сказе адносяцца некалькі адасобленых азначэнняў, выражаных дзеепрыметнымі і прыметнымі словазлучэннямі або адзіночнымі азначальнымі словамі, то яны раздзяляюцца коскамі як аднародныя члены сказа.

Напрыклад:
*Гаспадар-камень быў відаць здалёк. Ён, зверху белаваты, пасярэдзіне нібы ружовы, здаецца, выветраны да шкляной празрыстасці і цвёрдасці, спадыспаду нібы не зусім ужо моцны, шэры, аброслы тоўстым цвёрдым мохам, патрэсканы, быў вышэйшы за чалавека і ёмісты* (Г. Далідовіч).

4. Не адасабляюцца і не выдзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, якія хоць і стаяць пасля назоўніка, які паясняюць, але не вызначаюцца адноснай сэнсавай самастойнасцю (іх значэнне не падкрэсліваецца) і зліваюцца з назоўнікам у адно сэнсавае цэлае.

Напрыклад:
*Плыве, гудзе шум гулкі, будаўнічы...* (Я. Купала).
*Травою спелаю, мурожнай уся запахла сенажаць* (А. Астрэйка).

5. Не выдзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі, і тады, калі пасля назоўніка перад першым з іх стаіць злучнік *і*, які набывае значэнне ўзмацняльнай часціцы.

Напрыклад:
*Гэткім часам і сумным, і хмурым адлятае і песня, і смех* (М. Машара).

6. Не аддзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі (з паясняльнымі словамі або без іх), якія пры цеснай сувязі з дзеясловам, пасля якога яны стаяць, і пры аслабленай сувязі іх з паяснялным назоўнікам становяцца іменнай часткай выказніка.

Напрыклад:
*Саша ішла дадому вясёлая, узрушаная гульнёй* (І. Шамякін).
*Узыходзіла сонца, і палі пад яго праменямі ляжалі залітыя залаціста-ружовымі і бледна-зялёнымі фарбамі* (Т. Хадкевіч).

7. Адасабляюцца і выдзяляюцца коскамі:

недапасаваныя азначэнні, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах з паяснялнымі словамі і без іх, з прыназоўнікамі і, радзей, без прыназоўнікаў;

Напрыклад:
*Без шапкі, у адной гімнасцёрцы, Васіль з усяе сілы працаваў вёсламі* (І. Шамякін).
*Хутчэй бы прыйшла зіма, белая і маладая, з малінавымі маразамі, са звонам канькоў на лёдзе і навагодняй ёлкай* (П. Панчанка).
*На гарадок паўзла цёмна-шызая хмара, з ружова-серабрыстымі беражкамі* (С. Грахоўскі).

прыдаткі, якія адносяцца да асабовых займеннікаў і звычайна стаяць пасля іх, зрэдку – перад займеннікам;

Напрыклад:
*І толькі ён, мароз заўзяты, мароз занадта зухаваты, адзін па лесе пахаджае...* (Я. Колас).
*Вунь яны цягнуцца, варожыя акопы* (А. Марціновіч).
*Сын лесніка, я сам з маленства любіў паліць касцёр, пасядзець ля вогнішча* (І. Шамякін).

прыдаткі, якія адносяцца да назоўнікаў, стаяць пасля іх і не ўтвараюць з імі цеснага сэнсавага адзінства, у тым ліку і тыя, што далучаюцца пры дапамозе злучніка *як* (з адценнем прычыны);

Напрыклад:
*І мядзведзь, даўні ўладар пушчаў, таксама прабівае сабе сцежку, прыходзячы з далёкіх нязведаных схованак* (П. Пестрак).
*Сцяпана, як смелага салдата, часта пасылалі ў разведку* (В. Быкаў).

прыдаткі, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі, стаяць пасля агульнага назоўніка і маюць удакладняльнае значэнне (перад імі можна без змены сэнсу ўставіць словы *гэта значыць, а іменна*);

Напрыклад:
*Часцей заходзіць туды і старшыня, Захар Лемеш* (Я. Колас).
*Большыя сыны, Кастусь і Язэп, ужо валтузіліся, змагаліся за бацькаву чорную, з блакітным брылём фуражку* (Г. Далідовіч).
*Гэта быў наш сусед, Іван Бразоўскі, Шуркаў бацька* (Я. Брыль).

прыдаткі, якія адносяцца да ўласнага імя, стаяць пасля яго і маюць удакладняльнае значэнне.

Напрыклад:
*Ганна, маці Лабановіча, была жанчына добрая, працавітая, руплівая...* (Я. Колас).
*Самай выдатнай фігурай Адраджэння быў Францыск Скарына, сын купца з Полацка* (У. Караткевіч).

Перад уласным імем і агульным назоўнікам прыдатак адасабляецца толькі тады, калі мае дадатковае акалічнаснае значэнне: *Пісьменнік-псіхолаг, Колас вельмі добра разумеў чалавечыя характары* (І. Шамякін).

Перад злучнікам *як* у зваротах, што адносяцца да назоўнікаў, коска не ставіцца, калі злучнік ужываецца са значэннем ‘у якасці’ і зварот не мае дадатковага адцення прычыны або ўступкі: *Ён славіўся ў брыгадзе як выдатны падрыўнік* (І. Мележ). *Лапко прыглядаўся да работы як гаспадар* (Я. Колас).

Два прыдаткі да ўласнага імя коскамі не аддзяляюцца, тры і болей – аддзяляюцца: *доктар тэхнічных навук прафесар Сідарчук; начальнік штаба капітан Дзянісаў; доктар тэхнічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Ю.Ф. Мацкевіч; дэкан, доктар хімічных навук, прафесар Васільеў* і інш.

8. Выдзяляецца коскамі прыдатак да назоўніка або асабовага займенніка, які ёсць і падразумяваецца ў папярэднім сказе ці ў частцы складанага сказа: *Дзе ж падзеўся той Сымон? Ці дзе ходзіць спазарання, непаседа-ветрагон?* (Я. Колас).

## § 49. Коска пры адасобленых акалічнасцях і акалічнасных зваротах

1. Коскай выдзяляюцца акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі, незалежна ад іх месца ў сказе.

Напрыклад:
*Шчасце ў працы знайшоўшы, добра ў полі араць* (П. Броўка).
*Нізкія сонечныя прамяні, яшчэ не абласкаўшы зямлю, знаходзілі беласнежную кіпень яблынь і запальвалі яе ружовым святлом* (В. Карамазаў).

2. Акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі зваротамі, якія з’яўляюцца ўстойлівымі выразамі, коскамі не аддзяляюцца.

Напрыклад:
*Яны працавалі не пакладаючы рук* (З. Бядуля).
*І слухаюць яго вушы развесіўшы* (А. Макаёнак).
*Растуць яны* [дзеці] *тут у нас на лес гледзячы* (Я. Брыль).

3. Выдзяляецца коскамі акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем пры дзеяслове-выказніку, калі яна перадае дадатковае дзеянне.

Напрыклад:

*Раз-пораз стукалі, падаючы, спілаваныя дрэвы* (П. Галавач).

*Успыхвалі, трапечучы, белыя ракеты* (І. Мележ).

*І нечакана над самай галавою раскалоўся гром, затрашчала, ломячыся, дрэва* (В. Адамчык).

4. Акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, не адасабляюцца і не выдзяляюцца коскамі, калі стаяць пасля дзеяслова-выказніка і сваім значэннем набліжаюцца да прыслоўя спосабу дзеяння ці часу.

Напрыклад:

*Бацька доўга сядзіць задумаўшыся, і я не чапаю гэтых дум* (Я. Скрыган).

*Лена бегла не азіраючыся* (М. Лынькоў).

*Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы* (Прыказка).

*Людзі хутка ўстаюць, спяшаючыся апранаюць сваё скуранoе адзенне* (Э. Самуйлёнак).

5. Перад злучнікам *і*, які звязвае дзве акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі або дзеепрыслоўнымі зваротамі, а таксама прыслоўем з дзеепрыслоўем, коска не ставіцца, як пры аднародных членах сказа.

Напрыклад:

*Смеючыся і жартуючы, дзеці ішлі да рэчкі* (Я. Колас).

*Сонца падымалася вышэй, рупліва аглядаючы зямлю і рассыпаючы над ёй святло і цяпло* (Т. Хадкевіч).

*Крушынскі гаварыў ціха і не пазіраючы на госця* (З. Бядуля).

Пры бяззлучнікавай сувязі паміж такімі акалічнасцямі коска ставіцца: *Ганна, не азіраючыся, не слухаючы нічога, пералазячы платы, напрасткі праз мокрыя, па-асенняму голыя агароды паляцела да Васілёвага селішча* (І. Мележ). *Конь выцягнуў воз на цвярдзейшую дарогу і пайшоў раўней, не спяшаючыся* (К. Крапіва). *Панізіўшы голас, шэптам дзед сказаў з узрушэннем: «У лес трэба перабірацца»...* (Я. Колас).

6. Калі акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, знаходзіцца паміж аднароднымі дзеяслоўнымі выказнікамі, звязанымі злучнікам *і*, то яны выдзяляюцца коскамі без злучніка.

Напрыклад:

*Сонца апусцілася зусім нізка і, стаміўшыся, пачало хіліцца на захад* (Б. Сачанка).

*Алесь неўзабаве звярнуў з вуліцы і, мінуўшы нечую сядзібу, углыбіўся ў двор* (Г. Далідовіч).

*Стараста слухаў, прыплюшчыўшы вочы, і толькі згаджаўся* (Я. Колас).

7. Не аддзяляецца коскай акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, перад якой стаіць узмацняльная часціца *і*.

Напрыклад:

*Штосьці трэба рабіць і не атрымаўшы звестак* (А. Кулакоўскі).

*Антон умее гаварыць і не падумаўшы як след* (П. Галавач).

8. Калі спалучальны злучнік, што звязвае два аднародныя дзеяслоўныя выказнікі, стаіць паміж адасобленымі акалічнасцямі, выражанымі дзеепрыслоўнымі зваротамі ці адзіночнымі дзеепрыслоўямі, якія адносяцца да розных выказнікаў, то коска ставіцца перад злучнікам і пасля яго.

Напрыклад:

*Іван зацяў дыханне, стараючыся як найлепей пацэліць, і, трошкі не падпусціўшы сабаку да каменя, стрэліў* (В. Быкаў).

*Удвух з Андрэем неслі яны сетку на бераг, трымаючы вусцем угору, і, толькі адышоўшыся далей ад вады, перавярнулі яе кулём на дол* (Я.Колас).

9. Калі акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным зваротам або адзіночным дзеепрыслоўем, стаіць пасля злучніка ці злучальнага слова, якое звязвае часткі складанага сказа, то яна аддзяляецца коскай без гэтага злучніка.

Напрыклад:

*І з натхненнем, і з ахвотай я аддаўся працы шчырай, каб, паліўшы нїўку потам, ад нуды ўцячы нішчымнай* (Н. Гілевіч).

*Чуеш ты, як звоняць ціха, як, палі вітаючы свае, недзе ўнучка слуцкае ткачыхі пра вясну шчаслівая пяе* (М. Танк).

*З дня ў дзень губляла празрыстую блакітнасць неба, і, усё часцей хмурнеючы, яно як бы ніжэй апускалася да зямлі* (У. Краўчанка).

10. Выдзяляюцца коскамі акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўным зваротам, і адзіночнае дзеепрыслоўе ў пазіцыі пасля злучніка *а*, які звязвае два аднародныя дзеяслоўныя выказнікі з супрацьлеглым значэннем.

Напрыклад:

*Лабановіч не спыніўся, а, выбраўшы больш зручнае месца, смела рушыў наперад* (Я. Колас).

*Ён не гаварыў, а, махаючы кулакамі, крычаў* (П. Пестрак).

11. Калі ж злучнік *а* па сэнсе непасрэдна звязаны з акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўем, тады пасля яго коска не ставіцца.

Напрыклад:

*Рыгор доўга шукаў выхад, а знайшоўшы, весела ўсміхнуўся і выйшаў з кватэры* (Ц. Гартны).

*Садзілася* [сонца] *на хвалі велізарным чырвоным кругам, а сутыкнуўшыся з вадою, увачавідкі змяніла форму* (А. Кулакоўскі).

12. Акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, пры якіх стаяць часціцы *толькі, нават*, разам з імі аддзяляецца коскай.

Напрыклад:

*Толькі прайшоўшы амаль паўдарогі,* [дзед] *запытаў: – Ну, а як у цябе ў школе?* (П. Броўка).

*Нават узяўшы кнігу першы раз у рукі, разумееш, як табе пашчасціла*.

*З краю на лясных прагалах стаялі маладыя бярозкі, толькі-толькі выпускаючы пахучыя лісточкі і надаючы лесу асаблівую чароўнасць* (Я. Колас).

13. Калі адасобленая акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, звязана з астатняй часткай сказа злучнікамі *нібы, як бы, быццам* і іншымі, то коска ставіцца перад адпаведным злучнікам.

Напрыклад:

*Яна* [машына] *то бегла весела, жвава, калі было роўна, то гула і стагнала, быццам злуючыся, што яе не пускаюць* (Я. Скрыган).

*Бушмар правёў рукою па твары, як бы знімаючы з яго штосьці чужое і непрыемнае* (К. Чорны).

*Нібы спрабуючы моц сваіх каранёў, упарта пакрэхтвалі старыя дрэвы, трашчала сатлелае галлё, церліся адна аб адну і рыпелі тоўстыя галіны* (В. Адамчык).

14. Пры адасобленай акалічнасці, выражанай дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, замест коскі можа ставіцца працяжнік, калі сэнсава дзеепрыслоўе выразна выдзяляецца.

Напрыклад:

*Не шукаючы – не знойдзеш* (Прыказка).

*І памагаць яму трэба – умеючы* (Я. Брыль).

15. Выдзяляецца коскамі акалічнасць, выражаная назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *насуперак, у адпаведнасці, са згоды* і іншымі са значэннем прычыны, умовы, уступкі, спосабу дзеяння.

Напрыклад:

*Насуперак ліхой стыхіі, на гэтай згруджанай жарстве, узняўшы вежы залатыя, прыгожы горад расцвіце* (П. Глебка).

*Максіма ў ваенна-марское вучылішча не прынялі, і ён, наперакор жаданню бацькоў, на злосць усім, паехаў у марскі тэхнікум* (І. Шамякін).

*Дваццаць восьмага ліпеня, у выніку абыходнага манеўру і баявой атакі, войскі Першага Беларускага фронту авалодалі Брэстам* (У. Карпаў).

*У выпадку якой патрэбы, звяртайцеся за дапамогай* (І. Шамякін).

*Нягледзячы на трывожны час, рынак жыў сваім звычайным жыццём* (А. Якімовіч).

*У адпаведнасці з законам, кожны мае права на працу.*

Пры такіх акалічнасных канструкцыях з некаторымі прыназоўнікамі дапускаецца адсутнасць коскі, калі яны сэнсава і інтанацыйна не выдзяляюцца.

Напрыклад:

*А млын – добры пункт, дзе можна ў выпадку патрэбы схавацца* (З. Бядуля).

*У адпаведнасці з надвор'ем гэтак жа часта змяняе свой колер і возера* (В. Вольскі).

16. Коскамі выдзяляюцца інфінітыўныя звароты, калі яны далучаюцца да выказніка пры дапамозе злучнікаў *каб, для таго каб, з тым каб, замест таго каб* і пад.

Напрыклад:

*На тое ён і лес, каб шумець* (К. Крапіва).

*Замест таго каб прышываць людзям ярлыкі, вы б лепш вывучылі гэта пытанне* (К. Крапіва).

17. Не выдзяляецца коскамі інфінітыўны зварот з *каб*, калі ён уваходзіць у пытальную сінтаксічную канструкцыю з пачатковым *што*: *Што каб пайсці ў адпачынак? А што каб сказаць? А што каб запрасіць іх у госці?* і пад.

18. Факультатыўна коскамі выдзяляюцца акалічнасці, выражаныя прыслоўямі або прыслоўнымі зваротамі, што адносяцца да выказніка і маюць значэнне інфармацыйнай заўвагі.

Напрыклад:

*Хведар бег, аслабела і няўцямна, ужо не выбіраючы шляху* (В. Быкаў).

*Сабака ўсё брахаў, заложна і аднатонна* (К. Крапіва).

## § 50. Коска пры словах і спалучэннях слоў, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць значэнне іншых слоў у сказе

1. Коскамі выдзяляюцца акалічнасці, выражаныя словамі і спалучэннямі слоў са значэннем месца, часу, спосабу дзеяння і пад., якія стаяць побач і ўдакладняюць, канкрэтызуюць ці ўзмацняюць сэнс папярэдніх слоў, што маюць больш шырокае значэнне.

Напрыклад:

*Тут, на высокай і даволі прасторнай пляцоўцы, і знайшло сабе ціхі прыпынак сяло Верхань* (Я. Колас).

*За дваром, на бярозах, была пасека – больш за дзясятак ліпавых вулляў* (М. Лупсякоў).

*Адтуль, недзе з-за ўзгорка, даносіліся невыразныя, як бы прыглушаныя, гукі* (К. Крапіва).

*А было гэта тыдзень таму, у нядзелю, пад вечар* (Я. Брыль).

*Тады браты радком садзяцца, плячо ў плячо* (Я. Колас).

2. Калі ж другая акалічнасць мае больш шырокае значэнне, чым папярэдняя, то яна не ўдакладняе, а толькі паясняе папярэднюю і коскамі не выдзяляецца.

Напрыклад:

*Зусім інакш ішло жыццё ў сасняку за горадам, дзе быў штаб фронту* (І. Мележ).

*Яшчэ зранку на другі дзень па Заборцах панеслася гутарка аб Сцёпку* (Я. Колас).

3. Калі другая акалічнасць у адносінах да папярэдняй мае больш вузкае значэнне, але па сэнсе і інтанацыйна не выдзяляецца, то паміж імі коска не ставіцца.

Напрыклад:

*А там за возерам, як струнка, пралегла роўненька чыгунка* (Я. Колас).

*На балоце паабапал дарогі раслі кусты лазы і алешніку* (Я. Колас).

*Дзялілі лужок найчасцей у нядзелю пад вечар* (Я. Брыль).

4. Калі ў сказе стаяць побач адна за адной тры і больш акалічнасці, з якіх наступная ўдакладняе папярэднюю, але апошняя не мае ўдакладняльнага значэння, то пасля яе коска не ставіцца.

Напрыклад:

*Там, на ўзлессі, на высокім дубе з разгалістай вершалінай было гняздо чорных буслоў* (Т. Хадкевіч).

5. У творах мастацкай літаратуры і ў перыядычным друку пры выдзяленні ўдакладняльных акалічнасцей з узмацняльным значэннем часам ужываецца працяжнік.

Напрыклад:

*Стрэлы чутны толькі недзе далёка – у лесе* (Я. Скрыган).

6. Коскамі выдзяляюцца акалічнасці, выражаныя словамі і спалучэннямі слоў, якія ўдакладняюць, падкрэсліваюць значэнне папярэдняга прыметніка, займенніка і інш.

Напрыклад:

*З яснага, без адзінай хмурынкі, глыбокага неба россыпам зорак свяціў поўны месячык* (І. Шамякін).

*Крыху далей стаяла невялікая, хат на дзесяць, вёсачка* (Я. Сіпакоў).

*Хвалістыя, доўгія, ледзь не ў пояс, валасы... былі незвычайнага, попельнага колеру* (Т. Бондар).

*Тады ён* [Алесь] *падняў другі, меншы, камень* (Г. Далідовіч).

7. Коскамі выдзяляюцца спалучэнні слоў і асобныя словы, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць, выдзяляюць ці ўзмацняюць сэнс папярэдніх ці наступных слоў, далучаючыся да іх непасрэдна або пры дапамозе выразаў *у тым ліку, у тым ліку і, апрача* (*апроч*), *акрамя, амаль, за выключэннем, галоўным чынам, па прозвішчы* (*па мянушцы* і інш.), *гэта значыць, так званы, або, ці* (у значэнні ‘гэта значыць’), *асабліва, нават, напрыклад, як, у прыватнасці, і ў прыватнасці, і прытым* і пад.

Напрыклад:

*У зямлянцы, апрача камісара і камбрыга, за сталом сядзеў незнаёмы мужчына* (У. Карпаў).

*Усе палешукі, у тым ліку і стараста, пісаць не ўмелі* (Я. Колас).

*А ты, акрамя свайго баяна, і ведаць нічога не хочаш* (Т. Хадкевіч).

*Вада ў Нёмане, нават каля берага, не ідзе, здаецца, а бяжыць* (Я. Брыль).

*Пажылы мужчына, па прозвішчу Хмель, ехаў у млын* (Я. Колас).

*Добра памагае падбел супроць падагры, ці, як цяпер кажуць, адкладання солі* (В. Вольскі).

8. Калі спалучэнні слоў з *апрача, акрамя* і пад. цесна звязаны з паяснільным выказнікам або маюць пры сабе ўзмацняльную часціцу *і*, то яны звычайна коскамі не выдзяляюцца.

Напрыклад:

*Акрамя мяне там вучыўся толькі адзін беларус* (А. Бажко).

*Хтосьці пабываў каля рэчкі і апрача нас* (Б. Мікуліч).

*Усе птушкі, і нават непаседлівыя крыклівыя вераб'і, схаваліся ад навальніцы* (Я. Маўр).

9. Паміж спалучэннямі слоў са значэннем выдзялення, узмацнення, удакладнення і пад., звязанымі злучнікам *і*, коска не ставіцца.

Напрыклад:

*Моладзь, асабліва дзяўчаты і ў тым ліку графіня, уважна слухалі і часамі цяжка ўздыхалі* (Я. Колас).

## § 51. Коска пры пабочных і ўстаўных канструкцыях

1. Коскамі выдзяляюцца пабочныя канструкцыі, якія стаяць у сярэдзіне або ў пачатку сказа. Словы, спалучэнні слоў і сказы, якія выражаюць ацэнку ступені верагоднасці думкі, пэўнасці або няпэўнасці таго, пра што гаворыцца ў сказе: *безумоўна, бясспрэчна, вядома, канечне, зразумела, напэўна, сапраўды, праўда, пэўна, відавочна, відаць, здаецца, здавалася, мабыць, магчыма, можа, мусіць, няйначай, бадай* (у значэнні 'магчыма', 'можна думаць'), *знаць, нябось, часам, бывае, бывала, як вядома, як відаць, па ўсім відаць, можа быць, чаго добрага, таго і глядзі, само сабой разумеецца* і інш.

Напрыклад:

*І я, безумоўна, шчаслівы і рад, што добра зародзіць густая пшаніца* (П. Глебка).

*Няма, бадай, па багацці ўбораў прыгажэйшай пары года, чым восень* (Р. Ігнаценка).

*Лабановіч, відавочна, быў задаволены, што не трэба доўга шукаць фурманкі* (Я. Колас).

*Захар Крымянец зірнуў на зоркі, падумаў пра мароз, які, няйначай, збярэцца да раніцы* (М. Лынькоў).

*Але расстацца нам час наступае; пэўна, ужо доля такая ў нас* (М. Багдановіч).

*Хацелася мне, вядома, пачуць ад Коласа нешта незвычайнае, важнае* (Я. Брыль).

*Не можа быць, канечне, і размовы, каб дарослы чалавек нацкаваў юнака на юнака* (У. Караткевіч).

*Адразу пасвятлела. Відаць, ужо ўзышло сонца* (І. Мележ).

*Як радасна ён* [Лукаш] *сустракаў, бывала, Вялікдзень* (Я. Колас).

2. Не выдзяляюцца коскамі тыя словы, якія ўжываюцца ў ролі мадальнай часціцы або са значэннем прыслоўя і выражаюць сцвярджэнне, узмацненне: *можа, няйначай, пэўна, напэўна, канечне, сапраўды, часам, бывала, бывае, бадай, бадай што, мо* (усечаная форма слова *можа*) і інш., а таксама словы *відаць, здавацца*, якія ў сказе выступаюць выказнікам.

Напрыклад:

*Можа за якой паўгадзіны батальён па вузкіх і слізкіх ходах, траншэях быў выведзены ў лагчыну...* (І. Шамякін).

*Цяпер зіма напэўна ляжа* (Я. Колас).

*Адтуль відаць адразу пяць азёр* (Я. Брыль).

*Часамі Лабановічу здавалася, што вынікі дасягнуты нязначныя* (Я. Колас).

*Такія корчмы-станцыі Мінскі тракт меў бадай праз кожныя дзесяць кіламетраў* (З. Бядуля).

*Мікіта – нелюдзімы, удзень яго бадай што і не спаткаеш на людзях...* (Я. Колас).

*Дыміць туман. Мо лепш перачакаць, пакуль зара не прыадчыніць дзверы?* (М. Танк).

3. Выдзяляюцца коскамі спалучэнні слоў і сказы, якія маюць значэнне эмацыянальнай ацэнкі фактаў рэчаіснасці, а таксама перадаюць пачуццёвую рэакцыю на тыя факты, пра якія гаворыцца ў сказе: *на жаль, на вялікі жаль, на шчасце, як на шчасце, на маё здзіўленне, як на тое ліха, як на грэх, як на тую бяду, хвароба на іх* і інш.

Напрыклад:

*Велізарныя ахвяры і страты, на жаль, не ўсіх навучылі розуму* (Г. Далідовіч).

*Аж тут, як на тое шчасце, стаіць сагнутая бярэзіна* (С. Грахоўскі).

*Хата была, на шчасце, ужо абжытая* (П. Пестрак).

*Але, на маё здзіўленне, ён адказвае зусім не так, як я думаў* (А. Асіпенка).

*Як на грэх, лоў быў шчаслівы* (Я. Колас).

*Нават сорам на хатніх зірнуць: ці не ўцямілі, хвароба на іх, ад чаго мой тварык смяецца, ад чаго маё сэрцайка б'ецца* (М. Багдановіч).

4. Коскамі выдзяляюцца словы, спалучэнні слоў і сказы, якія паказваюць на крыніцу паведамлення, на прыналежнасць выказанай думкі: *па-мойму, па-твойму, па-ягонаму, па-вашаму, па-іхняму, моў* (*маўляў*), *думаю, на мой погляд, з пункта гледжання* (*каго-небудзь*), *на думку* (*каго-небудзь*), *як вядома, як кажуць, як людзі кажуць, як той казаў* і інш.

Напрыклад:

*Гэта, па-мойму, і ёсць сапраўдная сувязь з жыццём* (К. Чорны).

*Выходзіць, па-ягонаму, што ледзь не самі мы вінаваты, а не той, што наша дабро крадзе* (Я. Брыль).

*Кожны расказваў сваё, на яго погляд, самае цікавае і незвычайнае* (А. Пальчэўскі).

*Яшчэ, як той казаў, не ўсё скончана* (Я. Брыль).

*– Дай, думаю, схаджу праверу шнуры, пастаўленыя звечара* (У. Шахавец).

5. Словы, спалучэнні слоў і сказы, якія паказваюць на адносіны да спосабу выражэння думкі, на матывацыю спосабу выказвання ці выбару стылістычных сродкаў мовы: *адным словам, словам, што называецца, скажам, інакш кажучы, карацей кажучы, як гаворыцца, як гэта гаворыцца, уласна кажучы, прасцей кажучы, не пры вас кажучы, праўдзівей сказаць, папраўдзе сказаць, так сказаць, з дазволу сказаць, я сказаў бы* і інш.

Напрыклад:

*Скажам, аб вадзе гамонкі не было спрадвек, бо хапала нам заўсёды і азёр, і рэк* (А. Астрэйка).

*Шчыра кажучы, я толькі лічуся брыгадзірам* (А. Асіпенка).

*Голас у яго быў звонкі, я сказаў бы, нейкі нават музыкальны* (Р. Сабаленка).

6. Коскамі выдзяляюцца словы, спалучэнні слоў і сказы, прызначаныя для выражэння адносін гаворачай асобы да слухача з мэтай засяродзіць увагу суразмоўцы, пераканаць яго, выклікаць давер, увагу, прабачэнне: *бачыш* (*бач*), *прызнацца, кажаш, кажаце, ведаеш, ведаеце, разумееш, разумееце, паверце, выбачайце, даруйце, даруйце мне, далібог, калі ласка, калі хочаце ведаць, ці дасце веры, зрабіце ласку* і інш.

Напрыклад:

*Але ж язык у цябе, даруй мне, як тая мянташка* (М. Лынькоў).

*Напішы мне, калі ласка, пісямко дахаты!* (Я. Колас).

*– Я, шчыра прызнацца, і загад на вас падрыхтаваў* (А. Асіпенка).

7. Коскамі выдзяляюцца словы і спалучэнні слоў, якія служаць сродкамі сувязі асобных частак выказвання і ўказваюць на паслядоўнасць, абмежаванне, удакладненне, супастаўленне або аб'яднанне частак тэксту, на выражэнне выніку, заключэння і пад.: *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і інш., *першае, другое, трэцяе і інш., нарэшце, значыць, дарэчы, наогул, аднак, прынамсі, наадварот, з аднаго боку, з другога боку, у сваю чаргу, разам з тым, у прыватнасці, паміж іншым, між іншым, між тым, да таго ж, такім чынам, галоўным чынам, па крайняй меры* і інш.

Напрыклад:

*Турсевіч – гэта мой настаўнік і мой зямляк, прынамсі, аднае воласці* (Я. Колас).

*Валодзька выпрасіў, нарэшце, у рэдактара дазвол паехаць на раён* (Я. Брыль).

*Спазніліся, аднак, на вялікае спатканне, трэба было раней* (В. Быкаў).

*Мікола быў, між тым, дома* (К. Чорны).

*З другога боку, Ядвісі было цікава паслухаць, як вёў сваю работу ў школе настаўнік...* (Я. Колас).

*– У нас знойдзецца сёе-тое для атрада. У прыватнасці, ёсць у нас зброя, боепрыпасы, харчаванне, медыкаменты, адзенне* (І. Новікаў).

*Па крайняй меры, для яго нічога ўжо не будзе* (В. Быкаў).

*Такім чынам, усе няяснасці, сумненні, прынесеныя Саўкам, цяпер развеяліся* (Я. Колас).

8. Калі слова *нарэшце* не выконвае функцыі пабочнага слова і выражае часавае значэнне, то яно коскамі не выдзяляецца.

Напрыклад:
*Нарэшце да Панаса падыходзіць шырокі чалавек з жорсткімі вусамі* (Я. Колас).
*Тым часам поезд з кожнай хвілінай набліжаўся да вакзала і нарэшце спыніўся* (Я. Колас).

Калі слова *аднак* у пачатку сказа ці другой часткі складаназлучанага сказа і пры аднародных членах ужываецца як супраціўны злучнік (не пабочнае слова!), яно коскай не аддзяляецца: *Свеціць сонца. Аднак на дварэ холадна* (Т. Хадкевіч). *Турку стала лягчэй ад тае пахвалы, аднак ён прастадушна прызнаўся* (В. Быкаў). *Паходня лёг у пасцель, аднак яшчэ не спіць* (Т. Хадкевіч).

9. Спалучэнні слоў *між тым, тым не менш, да таго ж*, якія ўжываюцца ў пачатку сказа або другой часткі складанага сказа, выконваюць функцыю злучніка і коскай не аддзяляюцца.

Напрыклад:
*У вас на мястэчка многа сілы не патрабуецца, між тым вакол вялікая патрэба ў людзях* (Ц. Гартны).
*На дварэ ноч. Між тым спаць не хочацца* (І. Мележ).
*Тым не меней ён* [Лабановіч] *устаў і рушыў у той бок, куды паехала дзяўчына* (Я. Колас).
*Да таго ж Мініч яшчэ меў недахоп у вымаўленні: ён шапелявіў* (Я. Колас).

10. Коскамі выдзяляюцца словы і спалучэнні слоў, якія не маюць уласна сінтаксічнага значэння і ўводзяцца ў сказ без якой-небудзь матывацыі: *гэта, гэта самае, ну, вот, само сабой, знацца, значыцца, стала быць, так сказаць, брат ты мой, тудэма-сюдэма, каліна-маліна* і інш.

Напрыклад:
*Зусім не тое выйшла, зусім не тое, што трэба было нашай, значыцца, вёсцы* (М. Лынькоў).
*Проста, ну, сімпатызуюць адзін другому маладыя, хіба ж ім і не пагаварыць, хіба ж ім і не пасмяяцца* (М. Лынькоў).
*Усё роўна, як мы год тут цэлы, вот што, знацца* (С. Баранавых).
*Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты ад дому...* (Я. Купала).
*Чаго яны, каліна-маліна, там?* (І. Мележ).

11. Коскамі выдзяляюцца пабочныя словы і спалучэнні слоў, якія ўваходзяць у склад іншых пабочных ці ўстаўных сказаў, адасобленых зваротаў, удакладняльных ці іншых выдзеленых знакамі прыпынку частак сказа.

Напрыклад:
*Немцы, як ты, мабыць, ведаеш, аднавілі завод у Гудове* (Б. Сачанка).
*Боты – і выцер іх, здаецца! – усё ж такі наслядзілі на чыстай чырвонай падлозе* (Я. Брыль).
*Не будку мае Жук – палацы* (*хоць не свае, вядома, працы*) (К. Крапіва).
*Людзі слухалі ўважліва, баючыся, відаць, прапусціць хоць адно слова* (П. Пестрак).
*Мы зайшлі ў крайнюю хату, пабудаваную, напэўна, пасля вайны.*
*Не чакаючы, як відаць, далейшай размовы, жанчына хутка выйшла з хаты* (П. Галавач).

12. Калі пабочнае слова стаіць перад адасобленым зваротам, пабочным сказам або ўдакладняльнай канструкцыяй, то яно ўваходзіць у склад іх і коскай не аддзяляецца.

Напрыклад:
*Старшыня імкліва абыходзіць вакол машыны, няйначай прыглядаючыся неспакойным вокам да яе паклажы* (І. Шамякін).
*Плылі ў вясновую сінь за акно мяккія акорды, уздыхала мора, і, можа заслухаўшыся гэтай музычнай вясной, не падавалі свайго голасу гарматы* (І. Навуменка).
*Аднекуль, мабыць з печы, да іх кінулася жанчына* (В. Быкаў).

13. Паміж пабочнымі словамі, спалучэннямі слоў і сказамі, якія ідуць адно за адным, ставіцца коска.

Напрыклад:
*Словам, на наша шчасце, хата нейкім чынам уцалела* (З. Бядуля).
*Само сабой, канечне, паставілі мы і хату* (Б. Сачанка).

14. Пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы аддзяляюцца коскамі ад папярэдніх злучнікаў, якія звязваюць члены сказа або часткі складанага сказа.

Напрыклад:
*Санкоўскі з ходу далучыўся да песні, і, можа, ад таго яна загучала яшчэ энергічней* (П. Пестрак).
*Твае* [маці] *у мяне бровы, твой лоб і нос. Твой неспакой. І, пэўна, твой лёс* (А. Вярцінскі).
*Маёр спыніўся каля дзвярэй, заплюшчыў вочы і, здалося мне, пахіснуўся* (І. Шамякін).
*Тады спрэчкі не разлучалі іх, а, наадварот, яшчэ болей умацоўвалі* (Я. Колас).

15. Злучнік *а*, калі ён складае адно цэлае з наступным пабочным кампанентам сказа, не аддзяляецца ад апошняга коскай: *а можа, а магчыма, а значыцца, а між іншым, а па-другое* і пад.

Напрыклад:
*– І штаб па кіраўніцтву партызанскім рухам будзе? – пытаў Багавік.*
*– Будзе. А можа, ён ужо і ёсць* (В. Быкаў).

16. Не аддзяляецца коскай ад пабочных кампанентаў узмацняльная часціца *і*.

Напрыклад:
*І сапраўды, гэта не кепская думка!* (Я. Колас).
*Дожджык, і праўда, так і поўз за каўнер* (Я. Брыль).

17. Коска не ставіцца паміж пабочнымі словамі і часціцамі, якія да іх адносяцца і стаяць пасля іх.

Напрыклад:
*Можа б ты даў мне хоць кавалачак хлеба ў дарогу?* (Я. Колас).
*Ну, напэўна ж ёсць прычына, калі кпіць з цябе яна?* (Я. Колас).

18. Коскамі выдзяляюцца ўстаўныя словы, спалучэнні слоў і сказы, якія выконваюць удакладняльную функцыю (тлумачэнні, заўвагі, дадатковыя звесткі і інш.).

Напрыклад:
*Такую каманду – польскае «падній», лажыся, абсечанае на свой лад, і зручнае, да брэху адшліфаванае «аўф», устань, – як аўтамат, нястомна і бяздушна паўтарае гітлераўскі старшы унтэр Шранк* (Я. Брыль).
*Іван Пратасаў, родам з Яраслаўля, камандаваў тады партызанскай спецгрупай* (М. Паслядовіч).

## § 52. Коска пры звароткu

1. Коскамі выдзяляюцца звароткі ў пачатку, у сярэдзіне і канцы сказа разам са словамі, якія адносяцца да іх.

Напрыклад:
*Сонца, умыйся расою на світальнай зары* (А. Бялевіч).
*Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!..* (Я. Купала).
*Народ пранясе цябе, родная мова, святлом незгасальным у сэрцы сваім* (М. Танк).
*Дык уздымі свой голас-звон з глыбінь душы, пясняр свабоды* (К. Буйло).
*Відаць, па сур'ёзных справах да нас, Надзя?* (М. Лынькоў).

2. Калі зваротак раздзяляецца на часткі іншымі словамі, то кожная з іх выдзяляецца коскамі.

Напрыклад:
*Ой ты, мая рыбка, спі, залатая!*

3. Калі паміж звароткамі-паўторамі ёсць займеннік *ты* або *вы*, то ён адносіцца да першага звароткa і коска ставіцца пасля займенніка.

Напрыклад:
*Лета ты, лета прыгожа-квяцістае, колькі ты ўносіш аздобы з сабой!* (Я. Купала).
*Бярозы вы, бярозы, чаму не шуміце?* (У. Хадыка).
*Ой, хлопцы вы, хлопцы!* (Т. Хадкевіч).

### § 53. Коска пры выклічніках і гукаперайманнях

1. Коскамі аддзяляюцца выклічнікі, калі яны не маюць падкрэсленай клічнай інтанацыі і знаходзяцца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа.

Напрыклад:
*Ах, дружа-клён! Ну як яго не ўспомніць?..* (П. Трус).
*Мілая! О, колькі радасці даеш майму ты сэрцу маладому!* (Я. Купала).
*Ох, нашто ж ты, ночка, так прыгожа-міла?* (Я. Колас).
*Эх, як слаўна, як прыгожа, хораша, прыстойна!* (Я. Колас).
*Эй, дзяцюк малады, не тужы, не глядзі ты скрозь слёзы на свет...* (Я. Купала).

2. Не аддзяляюцца коскамі выклічнікі перад асабовымі займеннікамі.

Напрыклад:
*Ой ты, ночка, чарнявая ноч, агарні цеплынёю мяне...* (П. Панчанка).
*– Эх ты, –- кажа яна, – лепш вось дахаты ідзі, а то будзе табе ад маці* (Я. Брыль).

3. Не з'яўляецца выклічнікам і не аддзяляецца коскай часціца *о* пры звароткy, адмоўі, сцвярджэнні.

Напрыклад:
*Я не для вас, паны, о не, у час вольны песенькі складаю...* (Я. Купала).
*О так, так, планы маюць выключную ролю ва ўсякай справе* (М. Лынькоў).

4. Не выдзяляюцца коскамі ўзмацняльныя часціцы, аднолькавыя па гукавым складзе з выклічнікамі.

Напрыклад:
*Міколу ж аднаму ай-ёй як цяжка* (Я. Брыль).
*Я яшчэ ого які дужы!* (І. Шамякін).

5. Коскамі раздзяляюцца выклічнікі або гукаперайманні, калі яны знаходзяцца ў сярэдзіне або ў канцы сказа ці паўтараюцца.

Напрыклад:
*Раздолле ў лузе, эх, раздолле!* (Я. Колас).
*Шкада, ай, як шкада Іліко* (Э. Самуйлёнак).
*Які гэта быў чалавек, ого!* (І. Гурскі).
*Колькі ў лесе грыбоў, ай-яй-яй!* (З. Бядуля).
*– Ну, ну, пашавельвайся, – падганяў ён Алеся* (К. Крапіва).
*Толькі ў другой палавіне, дзе спяць гаспадыня і яе дачка-вучаніца, размашыста і глуха стукаюць ходзікі: як-так, як-так...* (І. Шамякін).
*«Др-р-р, др-р-р, др-р-р», – пракрычаў паблізу дзяркач...* (Т. Хадкевіч).

### § 54. Коска пасля сцвярджальных, адмоўных і пытальных слоў і перад імі

1. Коскай выдзяляюцца сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы ў пачатку сказа, калі яны цесна звязаны са сказам, які раскрывае, канкрэтызуе іх сэнс: *так, але, ага, ну, што ж, як жа, не, што, як* і інш.

Напрыклад:
*Не, ты проста скажы, прыедзеш ці не?* (Э. Самуйлёнак).
*Што, грыбоў яшчэ няма?* (Я. Колас).

Калі пры такіх словах стаяць узмацняльныя часціцы, то коскай яны аддзяляюцца разам.

Напрыклад:
*Ой не, пакідаць таварыша ў бядзе нельга* (Я. Маўр).

2. Калі сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы паўтараюцца, то яны аддзяляюцца коскамі адно ад аднаго.

Напрыклад:
*Так, так, пані гаспадыня. Чалавек страляе, а чорт кулю носіць* (Я. Купала).
*Але, але, яго маці і мне паказвала ліст, у якім ён піша, што няйначай мусіць прыехаць на свята* (Ц. Гартны).
*– Не, не, – адагнаў ад сябе змрочныя думкі Іван* (Б. Сачанка).

3. Сцвярджальныя, адмоўныя і пытальныя словы ў сярэдзіне сказа выдзяляюцца коскамі з абодвух бакоў.

Напрыклад:
*Не загасне, не, ніколі светач праўды на зямлі* (М. Машара).
*Работа, што ж, у лес не пабяжыць* (Ц. Гартны).

4. У канцы сказа перад сцвярджальнымі, адмоўнымі і пытальнымі словамі ставіцца коска, а пасля – знак прыпынку ў адпаведнасці з агульнымі правіламі.

Напрыклад:
*Я цяжкасцей не баюся, не!* (І. Грамовіч).
*Цяпер ты пойдзеш спаць, так?* (І. Мележ).

## ГЛАВА 14
## КОСКА Ў СКЛАДАНЫМ СКАЗЕ

### § 55. Коска ў складаназлучаным сказе

1. Коскай аддзяляюцца часткі складаназлучаных сказаў, якія аб'яднаны злучнікамі *і, ды* (у значэнні «*і*»), *дый* (*ды і*), *або* (*альбо*), *ці*.

Напрыклад:
*Ідуць ад кожнага перона на ўсход і захад цягнікі, і ад апошняга вагона далёка свецяць агнькі* (С. Грахоўскі).
*Праплыве гук баязліва па-над лугам, па-над нівай у знямелы свет, ды зноў ціха-ціха стане* (Я. Колас).
*Ад завеі не было відаць агнёў нават недалёкіх вёсак, ды і блізкія ішлі ў цемры ледзь прыкметнымі мутнымі знакамі* (І. Мележ).
*Выпадковыя гэта здарэнні, ці яны звязаны паміж сабой?* (Т. Хадкевіч).

2. Перад злучнікамі *і, ды, або* коска не ставіцца:

калі ў складаназлучаным сказе (звычайна ў пачатку) ёсць агульны член, які адносіцца да першай і да другой частак, або агульная часціца ці пабочнае слова;

Напрыклад:
*Дзе-ні́дзе ў гародчыках, ля ганкаў чырванелі вясновыя кветкі і зацвітаў бэз* (В. Быкаў).
*Праз нейкі час вецер разагнаў хмары ў вышыні і дождж сціх* (І. Мележ).
*На кожным чоўне льецца песня або гучыць гармонік* (А. Чарнышэвіч).
*Толькі верхавіны сосnaў гудзелі ледзь чутна ды шалясцелі няўмоўчныя трапяткія асіны* (М. Лынькоў).

калі часткі складаназлучанага сказа з'яўляюцца безасабовымі (аднароднымі па значэнні), няпэўна-асабовымі або намінатыўнымі сказамі, а таксама калі маюць форму пытальных, пабуджальных ці клічных сказаў.

Напрыклад:
*Шуміць у галаве і хочацца спаць* (І. Мележ).
*Цішыня і прастор* (Э. Агняцвет).
*Колькі працы і колькі сумлення!* (Б. Мікуліч).

3. Коскай аддзяляюцца часткі, якія аб'яднаны ў складаназлучаны сказ злучнікамі *але, а, ды* (у значэнні «*але*»), *ж* (*жа*)*, аж, аднак, затое, толькі* і інш.

Напрыклад:
*Наводдалек чуліся стрэлы, але тут было ўжо ціха* (І. Мележ).
*Мартын астаўся ў хмызняку, а дзед Талаш знік з вачэй, расплыўся ў цемрадзі* (Я. Колас).
*І чужому навучайся, ды свайго не цурайся* (Прыказка).
*Мікіта моцна пастукаў у дзверы, аднак з кабінета ніхто не азваўся* (М. Зарэцкі).
*На вуліцы скрыпка грае, мяне ж маці не пускае* (Народнае).
*Завярнуўся* [Бруй] *і хацеў ужо ісці назад, аж з печы пачуўся голас: «Хто там?»* (Я. Колас).
*Ападала лісце з ліп, бяроз і клёнаў, толькі дубы стаялі нечапаныя і непаўторныя ў сваёй прыгажосці* (А. Чарнышэвіч).

4. Коскай аддзяляюцца часткі, якія аб'яднаны ў складаназлучаны сказ пры дапамозе паўторных злучнікаў *і... і, ні... ні, то... то, не то... не то, або* (*альбо*)*... або* (*альбо*)*, ці... ці, ці то... ці то*.

Напрыклад:
*І хвалюецца пшаніца, і дрыжыць пяшчотна гай* (П. Броўка).
*Ні колас на ніве не ўскалыхнецца, ні ліст на дрэве не ўзварухнецца* (Я. Колас).
*То грузавая машына прамчыцца, то нехта пройдзе з клункам* (А. Пальчэўскі).
*Або іх* [птушак] *тут не было, або яны проста не адважваліся падаваць голасу* (Я. Колас).
*Ці то стогне бура, ці то віхор гуляе*.

## § 56. Коска ў бяззлучнікавым сказе

Коскай аддзяляюцца часткі складанага бяззлучнікавага сказа, якія па сэнсе і інтанацыйна звязаны паміж сабой.

Напрыклад:
*Цвітуць лугі, жаўцее проса, уздымае жыта каласы* (С. Грахоўскі).
*Неба сеяла цяпло, цёплы дожджык церушыў, у думках радасна было, беглі песні ад душы* (Я. Купала).
*Ад зямлі да самых чубоў на дрэвах не было ніводнай галінкі, сляды ад усіх колішніх галінак даўно заплылі жывой смалою, згладзіліся, кара над імі самкнулася* (В. Карамазаў).
*Ноч, лес, глухмень. Пагана адчувае сябе Саўка* (Я. Колас).

## § 57. Коска ў складаназалежным сказе

1. Коска ставіцца:

паміж галоўнай і даданай часткамі складаназалежнага сказа, а калі даданая частка стаіць у сярэдзіне галоўнай, яна выдзяляецца коскамі з двух бакоў;

Напрыклад:
*Пасаджу каля вёсак сады маладыя, каб ты вечна цвіла і ў шчасці расла, дарагая мая Беларусь* (П. Панчанка).
*Яны выехалі з двара, калі апошняя жоўтая палоска зары дагарала на захадзе* (У. Караткевіч).
*Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць...* (А. Ставер).
*Дзяды і бацькі нашу мову стваралі, каб звонка звінела, была як агонь* (П. Броўка).
*Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка* (Я. Колас).

паміж даданымі часткамі, якія адносяцца да адной і больш галоўных частак.

Напрыклад:
*Глянь туды, дзе машыны спяваюць, дзе палае ў горане сталь, дзе рабочыя песні складаюць пад сталёвы напеў малатка* (П. Трус).
*А там, дзе разам мы прайшлі, вясенні гул не моўкнуў, газоны пышна расцвілі, зазіхацелі вокны* (М. Танк).

2. Калі аднародныя даданыя часткі звязваюцца пры дапамозе адзіночных злучнікаў *і, ды* (у значэнні «*і*»), *або, ці,* то паміж імі коска не ставіцца.

Напрыклад:
*Я люблю часіну навальніцы, калі б'е пярун па ўсіх ладах і злуюцца ў хмарах бліскавіцы* (П. Панчанка).
*Некаторыя ішлі далей, дзе было начальства і дзе раздаліся гэтыя нечаканыя выбухі* (В. Быкаў).
*Як толькі разднела і ўзышло сонца, пачалі збірацца вучні* (Я. Колас).
*Там, дзе раней ляжалі хмызнякі або жаўцеў голы пясок, раслі стройнымі радамі маладыя сасонкі* (А. Чарнышэвіч).
*Люблю твае, Нарач, затокі і тоні, як вецер густыя туманы развеіць ці снежная пена на хвалях зазвоніць* (М. Танк).

Перад супраціўнымі злучнікамі і перад злучнікам *і*, якія паўтараецца паміж аднароднымі даданымі часткамі, коска ставіцца:

Напрыклад:
*Нарадзіўся я ў маі, як сады вакол цвілі, а ў наднёманскім гаі распявалі салаўі* (А. Русак).
*Цяпла, аднак, вялікага ўжо не чулася, бо і сонца было няяркае, нібы астуджанае, і паветра прыкметна ўжо настаялася асеннімі скразнякамі, і зямля астыла, страціла цяпло ад першых замаразкаў* (Г. Далідовіч).

3. Коска не ставіцца перад злучнікамі *і*, *ды* (у значэнні «*і*»), *або, ці*, што звязваюць дзве галоўныя часткі, да якіх адносіцца агульная даданая частка.

Напрыклад:
*Ужо сонца праглядвала праз вершаліны хвой і пачынала адчувацца гарачыня летняга дня, калі настаўнікі падышлі да балота* (Я. Колас).
*Калі наступае глыбокая восень, над зямлёй нізка сцелецца туман або імжыць дробны дождж* (К. Чорны).

4. Калі даданая частка звязваецца з галоўнай пры дапамозе састаўных падпарадкавальных злучнікаў (*перш чым, затым што, пасля таго як, для таго каб, па меры таго як, да таго часу пакуль, з прычыны таго што, нягледзячы на тое што, дзякуючы таму што, у сувязі з тым што* і пад.), то коска ставіцца:

паміж даданай часткай і галоўнай, калі даданая пачынаецца такім злучнікам і стаіць перад галоўнай (злучнік не разрываецца);

Напрыклад:
*Пасля таго як гітлераўскія войскі генерал-фельдмаршала Модэля не здолелі затрымаць нашы войскі на Беразіне, яны паспрабавалі арганізаваць абарону на ўсход ад беларускай сталіцы на лініі Даўгінава – Лагойск – Чэрвень* (А. Васілеўскі).
*З той пары як пайшлі на аблаву, цягнецца іх паляванне да сённяшніх дзён* (А. Куляшоў).
*Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучыць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з малых гадоў* (Я. Колас).
*Па меры таго як неба святлела, цемра змянялася рэдкім лёгкім змрокам...* (І. Мележ).

калі даданая частка сказа стаіць пасля галоўнай, коска ставіцца або перад другой часткай састаўнога падпарадкавальнага злучніка, або перад гэтым злучнікам у поўным яго складзе ў залежнасці ад сэнсу.

Напрыклад:
*Я гэту мову ўзяў сабе таму, што зашмат у ёй было гаротных песень* (М. Танк).
Параўн.: *Бабка была спагадлівая да чужога гора, таму што сама перажыла шмат пакут і нягод* (Ю. Пшыркоў).
*Малады патрыёт пакляўся біцца з ворагам да таго часу, пакуль родная зямля не будзе ачышчана ад фашысцкай погані* (К. Крапіва).

5. У залежнасці ад сэнсу коска можа ставіцца пасля першай часткі састаўнога падпарадкавальнага злучніка.

Напрыклад:
*Перад тым, як ісці ў поле, яна прыбірала ў хаце, мыла падлогу, лавы* (Б. Сачанка).
*Па меры таго, як прыпыняўся дзе ў вёсцы Ельскі са сваім атрадам, прыпыняўся і Сцяпан* (П. Пестрак).
*У той час, калі ішлі жорсткія баі пад Віцебскам, галоўны ўдар войск 2-га Беларускага фронту быў скіраваны на Магілёў* («Маладосць»).

*Нягледзячы на тое, што давялося несці на плячах тол і боепрыпасы, адстаючых не было* (І. Мележ).

*Можа нават таму, што навокал было многа прастору, хлопцу раптам стала няўтульна* (І. Чыгрынаў).

6. Коска не ставіцца перад *як, калі, што* і пад., якія ўваходзяць у склад устойлівых выразаў тыпу *як лепш не трэба, як ні ў чым не бывала, калі б то ні было, што б там ні было, як вады ў рот набраўшы* і пад.

Але: *не хто іншы, як...; не што іншае, як...* і пад.

7. Калі побач стаяць два падпарадкавальныя злучнікі (ці злучнік і адноснае слова), а таксама злучальны і падпарадкавальны злучнікі (ці злучальнае слова), то паміж імі ставіцца коска.

Напрыклад:

*Брыгадзе рабочых сказалі, што, калі своечасова будзе закончаны аб'ект, яны атрымаюць прэмію.*

*Наперадзе былі ўжо добра відаць зарнічныя выблiскі ад стрэлаў батарэй, якія, як агні маякоў, указвалі напрамак танкістам* (І. Мележ).

*Пот залiваў вочы, але, каб не выдаць сваёй слабасці, хлопец не кідаў вёслаў* (І. Шамякін).

8. Перад другім злучнікам коска не ставіцца, калі галоўная частка пачынаецца словамі *дык, то*.

Напрыклад:

*А яшчэ помніць ён* [Алесь], *што калі прыходзілі жаўнеры ў вёску, дык насміхаліся з усіх, абзываючы «мужыкамі»* (П. Броўка).

*Ён чалавек дарма што сур'ёзны, а калі разгаворыцца, дык люба слухаць* (К. Крапіва).

*Трэба было адпачыць, але Іван адчуваў, што калі ўпадзе ў снег, то напэўна болей ужо не ўстане* (В. Быкаў).

9. Калі перад падпарадкавальным злучнікам ці адносным словам стаіць адмоўе *не* або злучальны злучнік (*і, ці, або* і інш.), які цесна зліваецца з даданай часткай, то яна не аддзяляецца коскай ад галоўнай часткі.

Напрыклад:

*Нам трэба ведаць не дзе ты быў, а што ты за дзень зрабіў.*

*Ён спакойны і калі заўзята працуе, і калі адпачывае.*

10. Даданая частка ў пазіцыі пасля галоўнай, выражаная толькі адным адносным словам або спалучэннем слоў, коскай не аддзяляецца.

Напрыклад:

*А я хаджу і радуюся. Ведаеш чаму?* (І. Шамякін).

*Яны паехалі і не сказалі куды.*

*Моўчкі стаялі, не ведаючы што рабіць* (Ф. Шкірманкоў).

*Невядома хто тут гаспадар.*

## ГЛАВА 15
## КРОПКА З КОСКАЙ

### § 58. Правілы пастаноўкі кропкі з коскай

1. Кропка з коскай ставіцца паміж адносна незалежнымі састаўнымі часткамі сказа, якія аб'ядноўваюцца ў адзін складаны сказ без дапамогі злучнікаў, калі такія састаўныя часткі значна разгорнутыя і маюць свае знакі прыпынку.

Напрыклад:

*Чарнеецца сажаю вечар. Дождж б'ецца аб хвалі ракі; гуляе, гудзе над ёй вецер, заводзіць, што ў полі ваўкі* (М. Багдановіч).

*Ручай застаўся недзе ўбаку, гоман яго прыціх; мацней і выразней сталі шумець яліны; свежы вецер скрозь гойдаў верхавінамі; сонца схавалася; змаркатнелае неба ўсё далей і шырэй абкладвала хмара* (В. Быкаў).

Кропка з коскай можа ставіцца на стыку частак бяззлучнікавага сказа з адносна незалежнымі часткамі, калі паміж імі знаходзіцца пабочнае слова. У гэтым выпадку кропка з коскай паказвае, да якой з частак адносіцца пабочнае слова.

Напрыклад:

*Але якое гэта запрашэнне – адзін сказ у канцы, як бы між іншым, для ветлівасці; можа, спадзявалася, што ён не адважыцца прыехаць* (І. Шамякін).

2. Кропка з коскай ставіцца паміж часткамі складанага сказа, якія звязваюцца паміж сабой:

далучальнымі злучнікамі *але, толькі, аднак, усё ж, тым не менш* і пад., асабліва калі гэтыя часткі значна разгорнутыя або маюць свае знакі прыпынку;

Напрыклад:

*Марозік крэпіць, лёд таўшчэе, і рэчка вольная нямее, да дна вадзіца вымярзае і ходу, бедная, не мае, і цесна там ёй, і няміла яе халодная магіла; але дарма: жывую сілу не запраторыш ты ў магілу, мароз бязжаласны і люты!* (Я. Колас).

*Гойдалася ў цэбры вада, льючыся праз край, і твару свайго выразна разгледзець у вадзе Агата не магла; толькі бялелі ў вадзе рукі, і гэта цешыла яе* (К. Чорны).

далучальнымі злучнікамі *і* і *ды* (у значэнні «*і*») толькі ў тым выпадку, калі яны аб'ядноўваюць дзве састаўныя часткі, якія без гэтых злучнікаў былі б самастойнымі сказамі, раздзеленымі кропкай: *На ёй* [ялінцы] *валоскія арэхі, а з пазалочанай паперкі глядзяць панадныя цукеркі; і больш на ёй няма нічога, ды хіба ж дзецям трэба многа* (Я. Колас).

3. Перад злучнікам *а* кропка з коскай ставіцца толькі ў тым выпадку, калі састаўныя часткі, якія звязваюцца гэтым злучнікам, значна разгорнутыя і абавязкова маюць свае знакі прыпынку, у прыватнасці коскі.

Напрыклад:

*Ён невысок, не надта ёмак, ды карчавіты і няўломак, а валас мае цёмна-русы, і зухаўскія яго вусы ў меру доўгі, густаваты, угору чуць канцы падняты; а вочы шэры, невялічкі, глядзяць прыветна, як сунічкі, але раптоўна і адразу не расчытаеш іх выразу...* (Я. Колас).

4. Кропка з коскай ставіцца паміж развітымі аднароднымі членамі, калі пры адным з іх ёсць коскі.

Напрыклад:

*Хлопец злёгку задрыжаў і ўзяў скрыпку паслухмяна; струны звонкія наладзіў, раз-другі смычком правёў і аддаўся ўвесь абладзе, чарам струнных галасоў* (Я. Колас).

*Я выйшаў на вуліцу і адчуў, як сцюдзёнае марознае паветра апаліла мне твар; пачуў, як звонка рыпіць снег; убачыў, як гарыць на сонцы аснежанае поле...* (А. Астапенка).

*Наталля то ўскладала на палку рэчы, то перастаўляла іх; то адкрывала сумку, то закрывала; то зашпільвала на сабе кофтачку, то, як ад гарачыні, расшпільвала яе* (Я. Скрыган).

*Цягнуцца з усіх дарог – з куфэркамі, з клункамі; з ботамі, з лапцямі, босыя; з праважатымі і адны; без слёз і з плачам; п'яныя і цвярозыя; каханыя і забытыя – на станцыю* (Я. Скрыган).

5. Кропка з коскай ставіцца паміж значна разгорнутымі даданымі часткамі складаназалежнага сказа, падпарадкаванымі адной і той жа галоўнай, калі паміж даданымі няма злучальнага злучніка, асабліва калі ўнутры такіх даданых ёсць, у сваю чаргу, даданыя часткі.

Напрыклад:

*Калі з-пад завялых шыпулек паказаліся і смачна запахлі спачатку маленькія шэра-сінія струменьчыкі дыму, а потым, вельмі хутка разросшыся, вялікімі клубамі паплылі над бульбоўнікам; калі, нарэшце, праз голле прабіліся жвавыя і белаватыя на ранку языкі полымя, на ўчастку неяк адразу ўсё змянілася* (А. Кулакоўскі).

*Нягледзячы на тое, што крыўда раз-пораз загаралася ў душы Кляновіча, яго цешылі перспектывы, што вось ён зоймецца даследаваннем глебаў; што будзе арганізоўваць севазвароты, адкрываць розныя курсы; што ён наладзіць справу ўпарадкавання гною; што ён едзе ў такую вобласць, дзе яшчэ не звялася мясцовая чырвоная парода кароў, аб якой Кляновіч даўно думае; што гэтую пароду няслушна закінулі; што ў свой час знаходзіліся і такія разумнікі, што ў мэтах падрыву прадукцыйнасці жывёлагадоўлі гэтую пароду назвалі «нацыяналістычнай»* (П. Пестрак).

6. Кропка з коскай ставіцца паміж групамі адносна незалежных састаўных частак бяззлучнікавага сказа, а таксама паміж групамі даданых частак, якія адносяцца да адной галоўнай, калі неабходна паказаць граніцы паміж групамі частак у адрозненне ад граніц паміж асобнымі састаўнымі часткамі.

Напрыклад:

*Цёмны бор, кусты, балоты, кучы лоз і дубняку, рэчкі, купіны, чароты, мора траў і хмызняку; мосцік, зложаны з бярвенняў, брод і грэбля кожны крок, на дарозе рад карэнняў, крыж, пахілены набок; пералескі, лес, паляна, старасвецкі дуб з жарлом, хвоя-веліч на кургане з чорным буслявым гняздом; гразь, пяскі, лужок зялёны, шум крынічкі з-пад карча, шэлест лісцяў несканчоны, крык у небе крумкача; вербы, груша-сіраціна, нізкарослы цёмны гай... Гэта ты, балот краіна! Гэта ты, палескі край!* (Я. Колас).

7. Кропка з коскай ставіцца ў канцы рубрык пералічэння, калі рубрыкі гэтыя не з'яўляюцца самастойнымі сказамі, але дастаткова разгорнутыя, і асабліва калі яны маюць свае знакі прыпынку.

Напрыклад:

*Паводле папярэдніх даных, рух усіх трох спадарожнікаў адбываецца па блізкіх арбітах з пачатковымі параметрамі:*

*перыяд абарачэння 95,2 мінуты;*

*максімальная адлегласць ад паверхні Зямлі* (*у апагеі*) *876 кіламетраў;*

*мінімальная* (*у перыгеі*) *210 кіламетраў;*

*вугал нахілу арбіт да плоскасці экватара 56 градусаў 10 мінут* («Звязда»).

*У адпаведнасці з пунктам 4 Палажэння аб адстаўцы служачых дзяржаўнага апарату, служачы, з якім заключаны кантракт, мае права звольніцца ў сувязі з выхадам у адстаўку ў некалькіх выпадках: у дзень заканчэння тэрміну кантракта; у парадку і на ўмовах, прадугледжаных кантрактам ці пагадненнем бакоў; а таксама пры абставінах, прадугледжаных артыкулам 32 КЗаП...* («Звязда») .

## ГЛАВА 16
## ДВУКРОП'Е

### § 59. Правілы пастаноўкі двукроп'я

1. Двукроп'е ставіцца перад пералічэннем аднародных членаў, перад якімі ёсць абагульняльнае слова (займеннік, прыслоўе, назоўнік) або словы *напрыклад, а іменна*.

Напрыклад:

*Наогул яе* [настаўніцу] *любілі ўсе: вучні, настаўнікі, калгаснікі* (І. Шамякін).

*Раніца была сухая. Нідзе ні расінкі: ні на траве, ні на лісці* (А. Чарнышэвіч).

*Усе былі апрануты па-святочнаму: чысценька і прыгожа* (Я. Колас).

*На прыгуменні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам, а пад паветкаю прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вулляў некалькі на пчолы...* (Я. Колас).

*На ўроках мовы праводзяцца розныя віды работ, напрыклад: дыктанты, сачыненні, пераказы і інш.*

2. У афіцыйных паперах, дакументах, у навуковых працах, зрэдку ў мастацкіх тэкстах двукроп'е перад аднароднымі членамі ставіцца і тады, калі перад імі адсутнічае абагульняльнае слова (яго ролю выконвае дзеяслоў-выказнік).

Напрыклад:

*Да заявы прыкладаюцца: ... .*

*На нарадзе прысутнічалі: ... .*

*Вучылішча рыхтуе: токараў, слесараў ...*

*З прамысловых птушак найбольшую цікавасць маюць: цецярук, глушэц, рабчык, шэрая курапатка, крыжанка, слонка, дупель, бакас і белая курапатка* (Т. Хадкевіч).

3. Двукроп'е ставіцца перад пералічэннем аднародных азначэнняў, якія выражаны прыметнікам або назоўнікам ці займеннікам і адносяцца да паяснявальнага папярэдняга назоўніка.

Напрыклад:

*Дарэчы, вельмі сімвалічна, што і да гэтага часу не высветлена, якога ж веравання быў Скарына: праваслаўнага, каталіцкага ці пратэстанцкага?* (Н. Гілевіч).

*Размову спачатку вялі Васіль і Маслоўская – звычайную размову знаёмых людзей у першыя хвіліны сустрэчы: аб надвор'і, аб сустрэчы, аб навінах* (І. Шамякін).

4. Калі аднароднымі членамі з папярэднім абагульняльным словам сказ не заканчваецца, то перад імі ставіцца двукроп'е, а пасля іх – працяжнік.

Напрыклад:

*Рыбацкая снасць: сетка, нераткі, вуды – была адмысловая ў дзядзькі Марціна* (Я. Колас).

*Бацька прыбраў з воза ўсё: плуг, барану, мяшкі з бульбай – і ўвайшоў у хату* (М. Зарэцкі).

5. Двукроп'е ставіцца перад аднароднымі членамі, якія тлумачаць, удакладняюць значэнне папярэдніх слоў.

Напрыклад:

*На скорым часе ранічкою Алесь у кепскім быў настроі: хадзіў, бурчаў, не змоўчваў маме, усё дагары вярнуў нагамі* (Я. Колас).

*Яна ўзялася за работу: набрала бярэма дроў, унесла ў хату і, запаліўшы газоўку, стала класці іх у печ* (К. Чорны).

6. Двукроп'е ставіцца паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, калі ў другой раскрываецца змест ці ўказваецца прычына таго, аб чым гаворыцца ў папярэдняй частцы.

Напрыклад:

*Аўгіня пускаецца на хітрасць: яна крута верне свой човен наперарэз Мартынаваму чоўну* (Я. Колас).

*Усё навокал было па-ранейшаму: глуха шумеў лес, нізка над зямлёй плылі хмары* (С. Александровіч).

*Яна дамаглася свайго: сталовая ўжо красавалася жоўтай страхою* (П. Броўка).

*Але пагаварыць яму так і не ўдалося: гаспадыня запрашала гасцей за стол* (Я. Колас).

7. Двукроп'е можа ставіцца паміж трыма часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, у якім наступная частка ў адносінах да папярэдняй можа абазначаць прычыну, выражаць удакладняльна-тлумачальнае значэнне і інш.

Напрыклад:

*Але справа тут не ў часе была: недаверлівыя залацінцы другое мелі ў думках: каб не прыбраў часам гэты інструктар і сад, і агарод, і сенакос* (Я. Колас).

*Прашу: хоць раз задумайцеся, людзі: на што мы трацім лепшыя гады?* (А. Бачыла).

8. Двукроп'е ставіцца паміж дзвюма часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, першая з якіх заканчваецца дзеясловамі *бачыць, глядзець, разгледзецца, чуць, адчуць, адчуваць, заўважыць, зразумець, ведаць, верыць, казаць, разумець* і інш., пры дапамозе якіх пазначаецца, што далей будзе ісці паведамленне аб якім-небудзь факце, падзеі, з'яве і пад.

Напрыклад:

[Зося] *заўважыла: Янка ўжо там, за вушаком дзвярэй* (Г. Далідовіч).

*Гляджу: усё ў парадку* (К. Чорны).

*Праз туман разгледзеўся цяпер я: над палянай жоўкне поўны месяц* (М. Лужанін).

*Адным словам сказаць, усе бачылі: яна і прыгожая, і ўдалая* (К. Чорны).

*Няхай усё гэта песня нагадала, але я веру: устане горад мой* (М. Танк).

*Алесь зразумеў: нервовасць Кастуся можа сапсаваць справу* (У. Караткевіч).

*Праз вокны відаць: на ўсходзе разгараецца раніца* (М. Лупсякоў).

9. Двукроп'е ставіцца пасля сказаў або слоў, якія ўводзяць у тэкст простую мову.

Напрыклад:
*Лагодненька ўмее гаварыць дзед Павал: «Не хадзі ты, Агатка, далёка»* (Я. Колас).
*Ціха шэпчуць за парканам дзеці: «Вунь новая настаўніца ідзе»* (С. Грахоўскі).
*Рая прапанавала: «Хлопцы, дзяўчаты! Давайце наведаем Данілу Платонавіча!»* (І. Шамякін).

## ГЛАВА 17
## ПРАЦЯЖНІК

### § 60. Правілы пастаноўкі працяжніка

1. Працяжнік ставіцца паміж дзейнікам і выказнікам:

калі абодва галоўныя члены сказа выражаны назоўнікам у назоўным склоне і пры выказніку адсутнічае дзеяслоў-звязка;

Напрыклад:
*Мінск – сталіца, гордасць наша, слава ўсёй краіны* (Я. Купала).
*Нарэшце дзед Талаш – партызанскі камандзір* (Я. Колас).
*Матчыны рукі – залатыя рукі* (І. Мележ).
*Фразеалогія – раздзел моваазнаўства, які вывучае семантычныя, граматычныя і стылістычныя асаблівасці ўстойлівых выразаў.*
*Прастора і час – усеагульныя формы каардынацыі з'яў і падзей* («БелСЭ»).

калі абодва галоўныя члены ці адзін з іх выражаны неазначальнай формай дзеяслова;

Напрыклад:
*Асаблівая асалода – хадзіць у ягады* (А. Ус).
*Вучыцца ў народа – задача кожнага пісьменніка* (К. Чорны).
*Ехаць – не працаваць* (Ф. Янкоўскі).
*Гаспадарку весці – не лапці плесці* (І. Гурскі).
*Хату зрабіць – не скрынку збіць* (Прыказка).

калі перад выказнікам ёсць словы *гэта, вось, значыць, гэта значыць, гэта ёсць*;

Напрыклад:
*Паэзія – гэта пакута і радасць, праклён і бязлітаснасць, споведзь і гордасць* (П. Панчанка).
*Кожны чалавек – гэта цэлы свет* (К. Чорны).
*Цімох і Ануля – вось роўная пара* (Я. Купала).
*Ігнараваць мову – гэта значыць ігнараваць народ, нацыю* (П. Пестрак).

калі дзейнік і выказнік выражаны лічэбнікамі або адзін з іх выражаны назоўнікам у назоўным склоне, а другі – лічэбнікам ці колькасна-іменным спалучэннем;

Напрыклад:
*Пяць і тры – восем.*
*Шэсцьдзесят і пяцьдзесят – сто дзесяць.*
*Плошча Нарачы – восемдзесят квадратных кіламетраў* (В. Вольскі).

калі выказнікам выступае ўсечаная форма дзеяслова, выклічнік або гукапераймальныя словы.

Напрыклад:
*Уладзік зараз – шмыг у дзверы* (Я. Колас).
*А куля – дзык! А другая ў руку* (Я. Брыль).
*Я – хоп за павады! Конь спужаўся, а я – скок на яго* (Я. Колас).
*Цяперашні чытач – ого-го!* (П. Місько).

2. У спецыяльнай літаратуры пры характарыстыцы прадмета перад колькасна-іменным спалучэннем працяжнік звычайна не ставіцца.

Напрыклад:
*Даўжыня* [Нёмана] *937 км. Плошча басейна 98,2 тыс. км².* («БелСЭ»).

3. Працяжнік не ставіцца:

калі дзеянне, абазначанае ўсечанай формай дзеяслова, сэнсава не выдзяляецца.

Напрыклад:
*Я тым часам шмыг за дзверы* (З. Бядуля).
*Даніла шусь тут у вароты з жалезным ёмкім сахарам* (Я. Колас).
*Шустры жоўценькі клубок шмыг са сцежкі пад дубок* (Н. Галіноўская).

4. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам, выражанымі назоўнікам або назоўнікам і займеннікам ці прыметнікам, звычайна не ставіцца:

калі паміж галоўнымі членамі стаіць прыслоўе, часціца, пабочнае слова, адасоблены член сказа (акрамя прыдатка) і інш.;

Напрыклад:
*Марына ўжо настаўніца* (І. Грамовіч).
*А мой бацька таксама партызан* (І. Шамякін).
*Дзед Талаш не проста праваднік у Букрэевай разведцы* (Я. Колас).
*Хлопцы, відаць, добрыя рыбакі* (Я. Сіпакоў)
*Хлопец, апрануты ў салдацкі шынель, наш зямляк* (К. Чорны).

калі дзейнік стаіць пасля выказніка;

Напрыклад:
*Страшэнны штукар і свавольнік гэты Нёман* (Я. Колас).

калі перад выказнікам ёсць адмоўе *не*;

Напрыклад:
*Сам сабе чалавек не вораг* (Прыказка).
*Сляпы сляпому не павадыр* (Прыказка).

калі пры выказніку ўжываюцца параўнальныя злучнікі *як, усё роўна як, быццам, быццам бы, бы, нібы, што;*

Напрыклад:
*Жыта як сцяна* (І. Навуменка).
*Аблокі нібы воўна* (Я. Янішчыц).
*Вясенні луг што выстаўка народнага мастацтва* (І. Шамякін).

калі дзейнік выражаны асабовым займеннікам, а выказнік – назоўнікам у назоўным склоне;

Напрыклад:
*Пасівелы мой лес, я твой вечны паклоннік, я твой вечны даўжнік* (Я. Сіпакоў).

калі дзейнік выражаны назоўнікам, а выказнік – прыметнікам.

Напрыклад:
*Неба чыстае, васільковае* (А. Якімовіч).
*У познюю восень вада пад мастком чыстая і халодная* (К. Чорны).

5. Пры сэнсавым і інтанацыйным выдзяленні выказніка ў адзначаных выпадках працяжнік можа ставіцца.

Напрыклад:
*Пароль неўміручасці – родная мова* (П. Макаль).
*Рак – не рыба, кажан – не птушка* (Прыказка).
*Лёдам гасцінец мой выбіты, выліты, лёд – як магіла сама* (Я. Купала).
*Вочы – нібы дзве чарэшні ў дождж* (А. Карпюк).
*Я – чалавек, мне трэба жыць, тварыць, а не гарэць у полымі напалму* (А. Зарыцкі).
*Неба – высокае, блакітнае* (Я. Маўр).

6. Працяжнік ставіцца перад абагульняльным словам пасля аднародных членаў.

Напрыклад:
*І двор, і дарога, і лес – усё было занесена белым снегам* (І. Пташнікаў).
*У полі, у лесе, на рэчцы – усюды быў відаць шырокі і смелы поступ вясны* (У. Краўчанка).

7. Калі пасля аднародных членаў перад абагульняльным словам ужыта пабочнае слова або спалучэнне слоў *словам, адным словам, карацей кажучы*, то працяжнік ставіцца перад пабочным словам, а пасля яго – коска.

Напрыклад:
*Начны лес, ціхі, ледзь улоўны гул маразявых сосен, цішыня лясных нетраў – адным словам, усё настройвала на роздум* (М. Зарэцкі).

8. Калі аднародныя члены сказа стаяць у сярэдзіне сказа пасля абагульняльнага слова, то перад імі ставіцца двукроп'е, а працяжнік – пасля іх.

Напрыклад:
*Хутка ўсё: неба, і дарога, і чэзлыя балотныя хмызнякі – патанула ў снежнай завірусе* (Я. Колас).
*Рыбацкая снасць: сетка, нераткі, вуды – была адмысловая ў дзядзькі Марціна* (Я. Колас).

9. Калі аднародныя члены знаходзяцца ў сярэдзіне сказа пасля абагульняльнага слова і маюць характар удакладнення, дадатковага тлумачэння, то яны выдзяляюцца працяжнікам.

Напрыклад:
*Тады ўсе – і дарослыя і дзеці – уважліва сачылі за далёкімі іспанскімі падзеямі* (М. Лынькоў).
*У лесе кожная мясцінка – лужок, палянка, баравінка – асобны твар і выраз маюць* (Я. Колас).

10. Працяжнік ставіцца паміж аднароднымі членамі сказа, не звязанымі злучнікамі, але пры наяўнасці перад першым з іх адмоўя *не* ці супрацьпастаўлення.

Напрыклад:
*Не плача – смяецца шчаслівая маці* (М. Багдановіч).
*На чарговым прыпынку ў пярэднія дзверы не ўвайшоў – ускочыў малады, як і шафёр, хлопец* (Ф. Янкоўскі).
*Гаспадар павёў яго не ў жылы катэдж – у лазню…* (І. Шамякін).
*Не сваімі – чужымі нагамі гаспадар падышоў да каня* (П. Глебка).

11. Працяжнік ставіцца перад злучнікам *і* паміж двума членамі сказа, калі другі з іх выражае вынік, хуткую змену падзей, нечаканасць.

Напрыклад:
*А ўбачыў Машу – і адразу падабрэў* (І. Шамякін).
*Павернеш галаву – і бачыш сквер, пасярэдзіне якога старая царква* (Г. Васілеўская).
*Грузавік чмыхнуў, заракатаў – і запыліў па вясковай вуліцы* (Т. Хадкевіч).

12. Калі злучнік *і* звязвае два аднародныя выказнікі, з якіх другі выражаны ўсечанай формай дзеяслова, то паміж імі заўсёды ставіцца працяжнік – перад злучнікам або пасля яго.

Напрыклад:
*Пахіснулася хвоя – і бразь на зямлю* (Я. Колас).
*Да рэчкі жаданай прабраліся хлопцы і – стоп!* (Я. Колас).

13. Працяжнік ставіцца перад недапасаваным азначэннем, выражаным неазначальнай формай дзеяслова ці спалучэннем з гэтай формай (такое азначэнне звычайна стаіць у канцы сказа, сэнсава і інтанацыйна выдзяляецца, перад ім можна ўставіць словы *а іменна*).

Напрыклад:
*Усіх непакоіла адна думка – выстаяць* (М. Лынькоў).
*Узнікла недарэчнае ў такіх абставінах жаданне – засмяяцца* (Р. Сабаленка).

14. Працяжнікам могуць аддзяляцца два ці больш дапасаваныя азначэнні, што стаяць звычайна ў канцы сказа, адасабленне якіх асабліва падкрэсліваецца інтанацыяй.

Напрыклад:
*Сонца зайшло, і пачалося змярканне – ціхае, свежае, з расой і камарамі* (Я. Брыль).
*Запальваліся то тут, то там зоры – вясёлыя, мігатлівыя* (Б. Сачанка).
*Паказалася нават сонца – чырвонае, нізкае* (Б. Сачанка).

15. Працяжнік ставіцца перад неразвітым або развітым прыдаткам, які стаіць у канцы сказа:

калі ў прыдатку тлумачыцца, удакладняецца змест азначаемага назоўніка і перад ім без змянення сэнсу можна ўставіць словы *іменна, а іменна*;

Напрыклад:
*Пацягнуўся лес сцяною – ельнік, дуб і хваіна* (Я. Колас).
*За ўвесь час яна ні разу не глянула на свайго суседа – Лабановіча* (Я. Колас).
*Не раз Бабейка сядзеў на гэтым грудку, прынёсшы бацьку полудзень – гарнушак малака і шырокі, на ўсю патэльню, пачарнелы дранік* (Т. Хадкевіч).

калі прыдатак, які знаходзіцца ў канцы сказа, адносіцца да займенніка;

Напрыклад:
*Наперадзе ішоў ён – таварыш Дарожка* (П. Пестрак).
*Вось яна – дзявочая пекната* (І. Шамякін).
*Ён паспеў ужо коратка пазнаёміцца з усімі ў гэтым доме і стаць быццам сваім чалавекам – гэты малады і вясёлы хлопец* (К. Чорны).

калі неабходна падкрэсліць адценне самастойнасці прыдатка, які стаіць у канцы сказа.

Напрыклад:
*А вось і сам гаспадар гэтай хаты – Трахім* (К. Крапіва).
*Андрэй сядзеў, апёршыся на край стала, і дапытліва пазіраў на людзей – на моладзь і старых* (П. Пестрак).

16. Прыдатак або група аднародных прыдаткаў, якія стаяць у сярэдзіне сказа пасля азначаемага назоўніка, выдзяляюцца з двух бакоў працяжнікамі, калі неабходна падкрэсліць самастойнасць прыдаткаў.

Напрыклад:
*Два пчаляры – Галя і Васілёк – не прымалі ўдзелу ў размове* (А. Рылько).
*Начны драпежнік – сава – бясшумна плыве ў паветры* (В. Вольскі).
*Грабцы – дзяўчаты, маладзіцы – штораз варушацца жывей, бо чуюць голас навальніцы* (Я. Колас).

Калі патрабуецца пастаноўка пасля адасобленага прыдатка коскі, то другі працяжнік апускаецца.

Напрыклад:
*Падаюць сняжынкі – дыяменты-росы, падаюць бялюткі за маім акном* (П. Трус).

17. Працяжнікам могуць аддзяляцца даданыя члены, якія знаходзяцца ў канцы сказа, пры іх сэнсава-інтанацыйным выдзяленні.

Напрыклад:
*Каля школы шчабяталі дзеці – звонка, радасна* (Я. Колас).
*Снарады нас і міны засыпалі, а мы ішлі – з акопа ў акоп* (П. Прыходзька).
*Ягор выпіў шклянку гарбаты з нейкімі сушкамі, і Арцём Андрэевіч павёў яго ў трэці цёмны пакой з ляжанкаю пры сцяне, скінуў з сябе кажух – яму накрыцца* (В. Быкаў).

18. Працяжнік звычайна ставіцца ў няпоўных сказах на месцы прапушчанага члена сказа.

Напрыклад:
*З аднаго боку дарогі стаяў рэдкі хвойнік, а з другога – кусты ядлоўцу, а далей – алешнік* (Я. Колас).
*Раны гояцца часам, а дружбаю – гора* (А. Куляшоў).

*Вось прабегла імгненне, затым – залатая мінута* (Я. Янішчыц).
*Па суседству з Белым возерам знаходзіцца другое – Чорнае* (В. Вольскі).
*Праз шум эшалона прарваўся недалёкі гарматны выбух. Затым яшчэ некалькі – большай сілы* (І. Мележ).
*У цёмным небе – карагоды сіняватых зорак* (М. Багдановіч).
*Далёка – бор. Няблізка – лес. Глыбока – водар верасовы* (Я. Янішчыц).

19. Працяжнік можа ставіцца ў сказе, каб пазбегнуць двухсэнсоўнасці выказвання.

Напрыклад:
*Ты што – забыў?* (І. Шамякін). Параўн.: *Ты што забыў?*
*І якія людзі незвычайныя – таленты!* (Я. Рамановіч). Параўн.: *І якія людзі – незвычайныя таленты!*

20. Працяжнік можа ўжывацца для выдзялення ўстаўных канструкцый (як знак, раўнапраўны з дужкамі).

Напрыклад:
*Алеся – ёй было ўжо каля дзесяці гадкоў – сядзела за праснічкаю* (Я. Колас).
*Балота зрабілася сівое ад попелу, і па ім – уначы было відаць з вёскі – бегаў агонь, адгаралі высушаны альшэўнік і ніцая лаза, што раслі высока на куп'і* (І. Пташнікаў).

21. Калі ўстаўная канструкцыя знаходзіцца паміж часткамі, дзе павінна ставіцца коска, або ў канцы самой устаўной канструкцыі ёсць гэты знак прыпынку, то коскі спалучаюцца з працяжнікам і ставяцца перад другім працяжнікам.

Напрыклад:
*Каб дабрацца да надзелу цёткі Насці – так завуць жонку бацькавага брата, – трэба прайсці каля будкі, у якой яшчэ нядаўна яны жылі…* (І. Навуменка).
*Дзяўчына – мачыха дзназлася ўжо, што завуць яе Параска, – прывяла воз на двор "воласці", сказала, што яна жыве тут, на першым паверсе, з боку двара* (І. Мележ).

22. Працяжнік ставіцца паміж часткамі складаназлучанага сказа, калі ў другой частцы падкрэсліваецца вынік у адносінах да першай, калі перадаецца нечаканасць, хуткая змена падзей або рэзкае супрацьпастаўленне.

Напрыклад:
*Дыхнула свежасцю – і лёгка стала, пачуўся лесу пошум, плёскат рэк…* (Н. Гілевіч).
*Момант – і ў веснічках паказалася Аленка…* (Я. Колас).
*Сярэдзіна кастрычніка – і такі мароз* (І. Шамякін).
*Пытаўся, шукаў – і ні слыху ў адказ, ні следу нідзе, ні далёкага рэха* (П. Панчанка).
*Узяўся чытаць – і не чыталася* (М. Гарэцкі).

23. Працяжнік можа ставіцца і пасля злучніка як сэнсава-акцэнтны знак.

Напрыклад:
*Перахапіў* [Толік] *далонню палатно касы пасярэдзіне, каб лягчэй было падтачыць, і – ужо глушэй азвалася рэха: Шах! Шах! Шах!* (І. Капыловіч).

24. Працяжнік ставіцца ў складаназалежным сказе, калі дадатая частка знаходзіцца перад галоўнай і інтанацыйна выдзяляецца.

Напрыклад:
*Цаніце чалавека заўсёды пры жыцці. Калі заплюшчыць векі – ён згіне ў небыцці* (П. Панчанка).
*А пакуль ёсць сілы – усё я трываю і веру ў розум, у вечны прасцяг…* (С. Законнікаў).
*Што думаў бацька – не ведаю* (Я. Брыль).
*Хто птушку пакрыўдзіць – той сам сабе здрадзіць* (П. Панчанка).

25. Пры сэнсава-інтанацыйным выдзяленні частак працяжнік можа ставіцца і тады, калі дадатая частка знаходзіцца пасля галоўнай.

Напрыклад:
*Тады магутная краіна – калі пявучы ў ёй народ* (Я. Янішчыц).
*Смяюся, калі плакаць трэба. Журба – калі на вуснах смех* (Я. Янішчыц).

26. Працяжнік ставіцца ў бяззлучнікавых сказах паміж часткамі:
калі ў першай частцы ўказваецца на ўмову або час дзеяння, пра якое паведамляецца ў другой частцы;

Напрыклад:
*Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям – поўны гуслі насыплю дукатаў* (Я. Купала).
*Вецер загуляе – хвойнік, лозы гнуцца* (Я. Колас).
*Падрасцеш вялікі – раскажу тады* (П. Глебка).

калі ў другой частцы паказваецца вынік, або робіцца вывад з таго, пра што паведамляецца ў першай частцы;

Напрыклад:
*Шмат зорак у небе – добра жывёла расплодзіцца. Густая шэрань на галіны лягла – ад яблыкаў, ад ігруш дрэвы да самай зямлі прыгнуцца* (Л. Дайнека).
*Пупышкі на вербах гнуткіх – гэта вясны пачатак* (П. Панчанка).

калі змест частак супрацьпастаўляецца ці супастаўляецца;

Напрыклад:
*Клікнуць хацелася – голас замёр* (П. Броўка).
*Маці будзіла снедаць – ён не ўстаў* (І. Навуменка).
*Мы ўжо не просім міласці ў прыроды – прырода моліць літасці ў нас* (С. Грахоўскі).

калі ў сказе гаворыцца пра хуткую змену падзей або ў другой частцы паказваецца неадпаведнасць, нечаканы вынік таго, пра што паведамляецца ў першай частцы;

Напрыклад:
*Бліснула маланка – стала відна як удзень* (С. Грахоўскі).
*Гляну ў я туды-сюды – нікога не відаць* (Я. Колас).
*Ён паслухаў – ціха ўсюды* (Я. Колас).

калі другая частка з'яўляецца абагульняльнай у адносінах да папярэдніх;

Напрыклад:
*Ціха булькатала вада ў канаве, сыпалася лісце, чырыкалі недзе вераб'і – усё гэта было такім звыклым, добрым, прыгожым* (М. Гамолка).
*Дол засланы шышкамі, цвіце сунічнік, брусьнічнік, перагукваюцца птушкі, звіняць камары – усё тут знаёмае…* (І. Навуменка).

калі другая частка з'яўляецца далучальным сказам;

Напрыклад:
*І разгарэлася ігрышча – даўно такога не было* (Я. Колас).
*Андрэй быў у добрым гуморы – гэта адразу кідалася ў вочы* (М. Зарэцкі).

калі другая частка з'яўляецца параўнаннем у адносінах да першай.

Напрыклад:
*Слова сказаў – сякераю адсек* (Прыказка).
*Двор без мамы – народ без мовы* (В. Зуёнак).

27. Працяжнік ставіцца паміж двума словамі, якія абазначаюць прасторавыя, часавыя або колькасныя межы (гэтыя словы замяняюць словазлучэнні з прыназоўнікамі *ад* (*з*) *… да*).

Напрыклад:
*Пасажырскі поезд Мінск – Масква прыбыў на станцыю Орша*.
*Можна лічыць, што масавы прыход славян на Беларусь і іх канчатковае ўкараненне тут пачалося на рубяжы VI – VII стст. н. э.* (М. Ермаловіч).

28. Працяжнік ставіцца паміж двума ці некалькімі ўласнымі імёнамі ў назвах вучэнняў або законаў.

Напрыклад:
*Закон захавання матэрыі Ламаносава – Лавуазье быў вялікім навуковым адкрыццём XVIII стагоддзя.*

## ГЛАВА 18
## ДУЖКІ

### § 61. Правілы пастаноўкі дужак

1. У дужкі бяруцца ўстаўныя спалучэнні слоў і сказы, якія з асноўным сказам не звязаны сінтаксічна, але аб'яднаны сэнсавай сувяззю і служаць у якасці заўваг, удакладненняў і пад.

Напрыклад:
*Узялі мы вуды, кацялок для юшкі, сачок* (*на ўсякі выпадак*) *і рушылі на рыбалку* (А. Якімовіч).
*Я* (*было ж нямала нас*) *чакаў павесткі кожны вечар* (А. Звонак).
*У адну з тых начэй* (*яшчэ не было занадта позна, толькі скончыўся вечар*) *двое людзей блукалі па глухіх закутках гэтага месца* (К. Чорны).
*Мы, дзеці, сядзелі на нашым бярвенні* (*бацька збіраўся ставіць новую хату і таму навазіў ужо многа лесу*) *і рабілі сабе свістулькі з вярбовых пруткоў* (Я. Сіпакоў).

2. У дужкі бяруцца ўстаўныя словы і спалучэнні слоў, якія тлума- чаць, удакладняюць значэнне асобных папярэдніх слоў.

Напрыклад:
*Ён сядзеў на ганку, ускінуўшы на плечы гуню* (*світку*), *і курыў* (А. Чарнышэвіч).
*Кожны раз перад выступленнем былі спеўкі* (*рэпетыцыі*) (Я. Маўр).
*У руках у яго вялікая галка камякоў* (*бульбяной кашы*) (К. Крапіва).

3. У дужкі бяруцца ўстаўныя спалучэнні слоў і сказы, якія хоць і звязаны сінтаксічна з асноўным сказам, але выражаюць толькі дадатковыя заўвагі.

Напрыклад:
*У яго тады жыла запаветная мара – стаць лётчыкам* (*калі не лічыць таго, што адзін час, нядаўна, ён захапляўся геалогіяй, каб знаходзіць затоеныя багацці*) (І. Мележ).
*У полі* (*хаця ў ім, праўда, яшчэ ляжаў снег*) *ужо чулася вясна* (Б. Мікуліч).

4. Пасля слоў устаўной канструкцыі (перад закрывальнай дужкай) можа ставіцца пытальнік, клічнік або шматкроп'е, якія патрабуюцца кантэкстам, але кропка не ставіцца.

Напрыклад:
*Быў узгорак, так як бубен, але Ціт пасеяў лубін, дык* (*ці веры вы дасце?*), *як чарот, жытцо расце* (К. Крапіва).
*Змітрок* (*добры ён хлопец!*) *чытае розную літаратуру* (В. Каваль).
*Успаміны плывуць, агартаюць чало. Беларусь! Беларусь!* (*А палеткі бягуць...*) (П. Глебка).
*І толькі школа* (*я адразу ўбачыў яе і беспамылкова пазнаў*) *стаяла за гародамі, бліжэй да лесу* (І. Шамякін).

5. У дужкі бяруцца словы і спалучэнні слоў, якія выражаюць рэакцыю, адносіны слухачоў да чыёй-небудзь прамовы, выказвання, рэплікі; адпаведны знак прыпынку ставіцца перад закрывальнай дужкай.

Напрыклад:
(*Смех.*)
(*Гучны смех.*)
(*Апладысменты.*)
(*Бурныя апладысменты.*)
(*Вясёлае ажыўленне ў зале.*)
(*Воклічы: «Правільна!»*)
(*Галасы: «Хопіць!»*)

6. У дужкі бярэцца прозвішча аўтара або прозвішча аўтара і крыніца (назва твора), з якой прыводзіцца цытата.

Напрыклад:
*Каля пасады лесніковай цягнуўся гожаю падковай стары, высокі лес цяністы* (Я. Колас. «Новая зямля»).

7. Пасля цытаты, непасрэдна за якой у гэтым жа радку ў дужках змяшчаецца спасылка на аўтара або на аўтара і крыніцу (г.зн. перад адкрывальнай дужкай, за якой ідзе спасылка), захоўваецца адпаведны правілам знак прыпынку: пытальнік, клічнік або шматкроп'е.

Напрыклад:
*Эпіграфам да працы ўзяты словы: «А там, над Нёманам, плывуць чаўны ў прасторы, там спевы коцяцца ў нямую далячынь»* (П. Трус. «Ліст да сястры»).
*Прыгадаліся знаёмыя радкі: «Чым сустрэла мяне мая вуліца, як я выходзіў?»* (А. Куляшоў. «Сцяг брыгады»).
*Няхай для нас палеткі родзяць, няхай для нас сады цвітуць!* (П. Панчанка).
*Насустрач цягніку выходзяць з-за ўзгорка маладыя алешыны, дубы, хвоі...* (П. Галавач).

8. Калі ж спасылка на аўтара ці на аўтара і крыніцу змяшчаецца асобна ўнізе пад тэкстам, тады ў канцы тэксту (цытаты) ставіцца кропка ці іншы адпаведны знак прыпынку (пытальнік, клічнік, шматкроп'е) і спасылка ў дужкі не бярэцца.

Напрыклад:
*Моўныя нормы і правілы не выдумляюцца мовазнаўцамі і не папярэджваюць моўнай практыкі, а ўтвараюцца самой моўнай практыкай, часта задоўга да таго, як набываюць сваё пісьмовае афармленне.*
Кандрат Крапіва.
*... Максім Багдановіч па праву заняў пачэснае месца ў нашай маладой паэзіі як высокаталенавіты паэт і майстра паэтычнай формы. ...Тое, што напісаў ён за сваё кароткае жыццё, ставіць яго ў першыя рады нашых лепшых песняроў.*
Якуб Колас. «Выдатнейшы паэт і крытык».

9. У дужкі бяруцца рэмаркі аўтара ў драматургічным творы.

Напрыклад:
А л ь ж б е т а (*убягае, трымаючы ў руцэ клінок з тварагом*). *Што гэта ў вас тут парабілася, мае міленькія?*
П а ў л і н к а. *Кабыла дзядзькава ўцякла ці хто ўкраў.* (*Ідзе, садзіцца на ложак і шые*) (Я. Купала).

## ГЛАВА 19
## ДВУКОССЕ*

### § 62. Правілы пастаноўкі двукосся

1. У двукоссе бяруцца словы, якія ўжыты ў іранічным сэнсе або ў якім-небудзь асобым, незвычайным значэнні.

Напрыклад:
*Багачы і панства, нашы «дабрадзеі»! Мы на суд вас клічам, каты вы, зладзеі!* (Я. Колас).
*«Высокае начальства» спачатку прыслала мне падзяку, што добра вучыў дзяцей у школе...* (Я. Колас).
*Аўтар «прышпіліў» да персанажаў лірычныя матывы, але нідзе не развіў іх і не паставіў у дзейсную і вобразную залежнасць ад канфлікту і ідэі* («Полымя»).
*Не праходзіць і дня, каб на ўчастку пагранатрада вартавыя граніцы не затрымлівалі перавозчыкаў «левых» грузаў* (З газет).
*Калі будан* (*або «юрта», як казаў Віктар*) *быў гатовы, сябры прыступілі да ўпарадкавання агню* (Я. Маўр).

---

* У адрозненне ад пунктуацыйных знакаў (кропкі, коскі і іншых), двукоссе як спецыфічны знак мае зусім іншае прызначэнне – служыць асобым спосабам выдзялення слоў, спалучэнняў слоў, сказаў, тэксту. Тым не менш ужыванне двукосся па традыцыі разглядаецца ў раздзеле «Пунктуацыя».

2. У двукоссе бяруцца назвы:

літаратурных твораў, навуковых прац, газет, часопісаў, спектакляў, песень, танцаў, музычных твораў, карцін і пад.: *паэма «Сымон-музыка», раман «Людзі на балоце», камедыя «Паўлінка», часопіс «Полымя», «Настаўніцкая газета», спектакль «Несцерка», «Лясная песня», народны танец «Бульба», опера «Кастусь Каліноўскі», сюіта «На Палессі», карціна «Абаронцы Брэсцкай крэпасці»*;

прадпрыемстваў, калгасаў, вытворчых аб'яднанняў, параходаў, станцый, санаторыяў, гасцініц, кінатэатраў, арганізацый, устаноў, партызанскіх атрадаў (брыгад) і інш.: *вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», параход «Украіна», санаторый «Ісліч», гасцініца «Беларусь», кінатэатр «Радзіма», прапускны пункт «Брэст-Цэнтральны», станцыя метро «Няміга», партызанская брыгада «Смерць фашызму»* і інш.;

марак машын, вытворчых вырабаў, кандытарскіх, парфумерных вырабаў і пад.: *«Ніва», «Волга», «Мерседэс»* (аўтамабілі), *«ЯК», «Дуглас»* (самалёты), *«кацюша»* (гвардзейскі мінамёт), *«максім»* (кулямёт), *«зіг-заг»* (барана), *«Ласунак», «Мінскі грыльяж»* (цукеркі), *«Духмяны ландыш»* (духі) і інш.

3. У двукоссе не бяруцца ўмоўныя назвы, у склад якіх уваходзяць словы *імя, памяці*.

Напрыклад:
*Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка.*
*Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.*
*Алея памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.*

4. У двукоссе бяруцца некаторыя словы, што выступаюць у ролі назоўнікаў (субстантывуюцца).

Напрыклад:
*Увесь час у яго гэтае «гэй» на языку верціцца* (Я. Колас).
*Ні стуку, ні груку, ні кашлю, а толькі далёкае «ку-ку» ці крык перапёлкі...* (А. Бачыла).
*У гэтым «ну-ну» Саўка пачуў нотку спогадзі, і яму стала лягчэй* (Я. Колас).
*А хіба зямлі гэтай «дзякуй» не скажу?* (К. Кірэенка).
*Час ставіць кропкі ўсе над «і». Усё на месца ставіць ён* (А. Вярцінскі).
*Усё гэта, вядома, вельмі цікава, але было тут і сваё «аднак»* (Я. Брыль).
*Маці стаяла, слухала, ці не пачуе ў лесе знаёмае «но»* (Я. Колас).

## ГЛАВА 20<br>ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ<br>ПРОСТАЙ МОВЕ І ЦЫТАТАХ

### § 63. Правілы пастаноўкі знакаў прыпынку пры простай мове і цытатах

1. Простая мова аддзяляецца працяжнікам або бярэцца ў двукоссе:

працяжнік ставіцца перад простай мовай звычайна тады, калі яна пачынаецца з абзаца;

Напрыклад:
*Васіль ужо гатоў быў зноў пакрыўдзіцца, але Ганна добра, шчыра просіць:*
*– Скажы што-небудзь!..* (І. Мележ).
*Нехта гучна клікаў з другога берага:*
*– Гэй, паромшчык, давай пераправу!* (М. Лынькоў).

двукоссе ставіцца перад простай мовай, калі яна запісваецца ў радок.

Напрыклад:
*Барвіна праціснуўся праз натоўп да Андрэя і Санкоўскага і з ходу сказаў: «Пойдзем»* (П. Пестрак).
*Нехта з хлопцаў пазнаў Андрэя і крыкнуў: «Андрэй, заходзь!»* (П. Пестрак).

2. У залежнасці ад месца слоў аўтара, якія ўводзяць простую мову, ставяцца наступныя знакі прыпынку:

калі словы аўтара стаяць перад простай мовай, то пасля іх ставіцца двукроп'е, а простая мова, якая пачынаецца не з абзаца, заключаецца ў двукоссе: *У прамове на ўрачыстым сходзе Якуб Колас гаварыў: «Маё слова, хоць і вузкімі дарогамі, але даходзіла да народа»*;

калі словы аўтара стаяць у сярэдзіне простай мовы, падзяляючы яе на дзве часткі, то перад словамі аўтара, у залежнасці ад інтанацыйнага афармлення першай часткі простай мовы, ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска і ўслед за гэтымі знакамі – працяжнік, а пасля слоў аўтара – або кропка і працяжнік (калі першая частка простай мовы з'яўляецца закончаным сказам), або коска і працяжнік (калі першая частка простай мовы не з'яўляецца закончаным сказам).

Напрыклад:
*«Хіба ж можам мы з табою займацца несур'ёзнымі справамі?» – пытаннем на пытанне адказала Надзя і прыгарнула да сябе Майку, прытуліла, як туляць дарослыя малых дзяцей. – Расказвай, як жывеш, як ваюеш?»* (М. Лынькоў).
*«Ну і напужаў мяне ён* [зайчык], *ды і сам, відаць, яшчэ больш напужаўся! – praказала Надзя. – Аднак чаго мы стаім?»* (М. Лынькоў).
*«Сцяпанка, – сказаў чалавек, – ідзі пасядзі ў цяньку, ты стаміўся»* (К. Чорны).
*«Эх, вадзічка... – працягваў Сава, выціраючы твар крысом курткі, – кветкамі пахне»* (П. Пестрак).

3. У словах аўтара могуць ужывацца два дзеясловы са значэннем мовы або думкі ці блізкія да іх па функцыі; пры гэтым, калі другі дзеяслоў адносіцца да другой часткі простай мовы, то пасля слоў аўтара ставяцца двукроп'е і працяжнік.

Напрыклад:
*«Я сказаў бы вам, ды толькі не ведаю, як прымеце вы тое, што я скажу, – ціха адзываецца ён. І, момант счакаўшы, дадае: – Я думаю, што з гэтага нічога не будзе»* (Я. Колас).
*– Вясна, Пётр, дружная, – загаварыў дзед, а пасля запыхкаў цыгаркай і дадаў: – Вяснянка, бач, як заліваецца* (Т. Хадкевіч).

4. Калі ў складзе слоў аўтара, што стаяць перад простай мовай, няма дзеясловаў са значэннем мовы або думкі ці блізкіх да іх па значэнні, то ў канцы іх ставіцца кропка.

Напрыклад:
*Урэшце дзед дастае з кішэні кавалак хлеба.*
*– Еш, Віхор... На-а-а...* (З. Бядуля).
*Віктар заплюшчыў вочы і на ўвесь пакой прытворна захроп. «Хай думае, што я сплю...»* (Б. Сачанка).

5. Калі словы аўтара ідуць за простай мовай, то пасля простай мовы, у адпаведнасці з інтанацыяй, ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска (на месцы кропкі), а за гэтымі знакамі – працяжнік.

Напрыклад:
*– Што вы сёння нешта не ў гуморы? – запыталася Ядвіся і глянула на настаўніка* (Я. Колас).
*– Эх, што за мясціна! – пачаў ён* [Лабановіч] *і раптам перапыніў самога сябе* (Я. Колас).
*– Праўды нідзе не любяць, – паківаў галавою Кірыла* (Г. Далідовіч).
*«Вам, Лескавец, відаць, хочацца, каб асабіста вас пахвалілі», – Ліда сказала гэта як бы між іншым, нават не павярнуўшыся да яго* (І. Шамякін).

6. Нявыказаная простая мова, пры якой у складзе слоў аўтара звычайна ёсць дзеяслоў *думаць* (*падумаць*) або іншыя словы, спалучэнні слоў і нават сказы са значэннем

думкі, меркавання, разважання і пад., заўсёды бярэцца ў двукоссе.

Напрыклад:
*«Удзячнасці ў нас мала», – думаў сам сабе Андрэй, да болю адчуваючы сябе вінаватым перад некім* (У. Краўчанка).
*«Чаму гэта пытала яна* [Ядвіся] *пра кнігу? – падумаў Лабановіч. – Ці не палажыла яна чаго туды?»* (Я. Колас).
*«Да Апанаса Харчэні трэба, мабуць, зайсці», – цюкнула неяк у галаву* (Б. Сачанка).
*«Што тут, у гэтым пакеце? – зайшлася душа ў Алеся. – Выклік на суд? Дараванне?»* (Г. Далідовіч).
*«Во ўскочыў дык ускочыў», – чухаў патыліцу Яўхім Бабай* (Б. Сачанка).
*«Нешта ў іх дома здарылася, – забілася ў Івана трывожна сэрца. – Інакш чужога чалавека на ноч не запрашалі б»* (Б. Сачанка).

7. Рэплікі дзвюх і болей асоб (у дыялогу) звычайна запісваюцца з чырвонага радка і з працяжнікам перад кожнай.

Напрыклад:
*– Ты па вёсцы вольна ходзіш?*
*– Хаджу, як і хадзіў. А што?*
*– Нічога, нікога не баішся?*
*– Я не злодзей, не забойца. Чаго ж мне баяцца?* (Б. Сачанка).
*– Бой быў, Валя.*
*– Дзе?*
*– Над морам. Далёка.*
*– З кім?*
*– Невядома* (І. Мележ).

8. Калі некалькі рэплік запісваецца ў радок без указання, каму яны належаць, то паміж імі ставіцца працяжнік і кожная з іх звычайна бярэцца ў двукоссе.

Напрыклад:
*«Вы яшчэ не былі ў сваёй школе?» – «Не, не была. І не ведаю, якая яна там. А вы ўжо даўно тут?» – «А ўжо зараз два месяцы будзе»* (Я. Колас).

9. Калі пасля папярэдняй рэплікі ідуць словы аўтара, то перад наступнай рэплікай працяжнік не ставіцца.

Напрыклад:
*Нарэшце адчыняюцца дзверы, недзе брэша сабака, уваходжу. Перада мной хлопчык з лямпай у руках. «Ты што тут робіш?» – пытаюся. «Нічога, – кажа. – Чыстапісанне пішу»* (В. Быкаў).

10. Цытаты, як і простая мова, бяруцца ў двукоссе. Скарачэнне цытаты абазначаецца шматкроп'ем.

Напрыклад:
*Кандрат Крапіва адзначаў, што «...канцылярызмы больш за ўсё псуюць нашу літаратурную мову, і ім трэба аб'явіць бязлітасную вайну».*
*«Пісьменнік, які не працуе над мовай, не клапоціцца аб папаўненні сваіх моўных запасаў, – пісаў Якуб Колас, – можа стаць перад небяспекай апынуцца за дзвярыма літаратуры».*

## ГЛАВА 21
## СПАЛУЧЭННЕ ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ

### § 64. Правілы пастаноўкі спалучэнняў знакаў прыпынку

1. Калі пытальнік, клічнік, кропка, шматкроп'е або коска ўжываюцца ў спалучэнні з працяжнікам, то працяжнік пішацца пасля пералічаных знакаў прыпынку.

Напрыклад:
*«Хлопец твой ужо добра падрос?» – спытаў той прыглушана* (Я. Брыль).
*«Малайцы! – стрымана пахваліў Ладынін, акінуўшы вокам зжатую плошчу. – Добры пачатак»* (І. Шамякін).
*«Нічога. Нічога, усё пройдзе...» – пасправабавала ўсміхнуцца яна* (І. Мележ).
*Красуй, наш Мінск, – любімая сталіца!* (М. Хведаровіч).
*Дзе яшчэ нядзельку таму назад калыхаліся высокія зялёныя травы, блішчалі кветкі, над каторымі з такімі вясёлымі песнямі лёталі работніцы-пчолкі, збіраючы мядок, – там цяпер пуста* (Я. Колас).

2. Калі пасля працяжніка стаяць словы, якія выдзяляюцца па адпаведных правілах коскамі (напрыклад, пабочнае слова), то коска перад ім апускаецца.

Напрыклад:
*Аслу раз выдалі мандат – няйначай, памылкова* (К. Крапіва).

3. Коска і працяжнік ставяцца ў наступных выпадках:

перад словам, якое паўтараецца для таго, каб звязаць з яго дапамогай дададзеную частку складаназалежнага, састаўную частку складаназлучанага ці частку простага сказа разгорнутай канструкцыі;

Напрыклад:
*Тыя сцежкі, што ў заўтра вядуць, – тыя сцежкі аднолькавы, мусіць?* (П. Трус).
*У цішыні, якой не можа парушыць ні далёкая песня адтуль, дзе палі і дарогі, ні грукатанне экскаватара, што ўжо даносіцца па вадзе з таго боку, дзе Нёман, пры зорках, што неяк цьмяна прасвечваюць з высокай вышыні, і пры месяцы, які барвовым акрайцам устаў над лугам, – у такой цішыні і спакойнай паўцемры выйшлі на працу нядаўнія госці гэтых мясцін – бабры* (Я. Брыль).
*Сапраўды, хто яна, гэтая пеставатая прыгажунька, зіхатлівы асколак чужога, далёкага свету, недарэчным лёсам вайны закінутая ў фашысцкі канцлагер, – хто яна, каб выкладаць ёй яго балючае, што ў свой час адабрала столькі душэўнае сілы ў самога?* (В. Быкаў).

у шматкампанентных складаназалежных сказах, звычайна з некалькімі дадзенымі часткамі перад галоўнай, якія распадаюцца на дзве агульныя сэнсавыя часткі, каб абазначыць месца гэтага падзелу;

Напрыклад:
*Пакуль ён ішоў у ваду, занадта, як здавалася Толю, плёхаючы нагамі, пакуль ён пырхаў і пакрэктваў ад задавальнення, – нехта трэці, здалёк яшчэ, з-за ракі ўбачыўшы хлопцаў, падышоў да кладачкі, па якой нядаўна перабіраўся певень з чубаткамі, узышоў на востраў і пачаў падкрадацца да берага* (Я. Брыль).
*Колькі было людзей на сходзе, што яны абмяркоўвалі, якое там прынялі рашэнне, – нам пра гэта не казалі*.

у складаных сказах з рознымі відамі сувязі, а таксама ў сказах з характэрнымі рысамі перыяду (з выразным падзелам на дзве часткі, з анафарычнай будовай першай састаўной часткі).

Напрыклад:
*Калі ж асенняя навіны змянялі сад, калі з бяроз рваў лісце вецер, а мароз, наліўшы ягады рабіны, траву губіў, і мы нагой узрывалі прэлых лісцяў слой; калі патроху чырванелі чаромха, ліпа, стройны клён, а гнёзды змрочныя варон між голага галля чарнелі, і грозны вечара пажар пылаў між бура-шызых хмар; калі асенні вецер дзіка стагнаў і глуха па начах грымеў у наш жалезны дах, – тады да лета Вераніка ад нас знікала ў інстытут і не будзіла згадак тут* (М. Багдановіч).
*Ці коска зазвоніць у час касавіцы, ці песню дзяўчо запяе, ці неба заззяе ў агнях бліскавіцы, ці вецер у палях заззлуе, ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах, ці грукне над полем пярун, – усё водгук знаходзіць у вольных абшарах, усё іх дакранаецца струн* (Я. Колас).
*Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор, ці запеў салавей, ці загагала гусь, – я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор, сваю матку-зямлю – Беларусь* (Я. Купала).

4. У канцы пытальных сказаў, у якіх пытанне суправаджаецца эмацыянальна-экспрэсіўным адценнем, спачатку ставіцца пытальнік, а потым – клічнік.

Напрыклад:
*Ці ж гэта многа?!* (Я. Купала).
*Хіба ж так трэба?!* (І. Мележ).
*Зямля Радзімы! У сэрцы боль салодкі хто не адчуў, сустрэўшыся з табой?* (А. Звонак).

5. Калі ў сказе эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка суправаджаецца адценнем пытання, то ставяцца клічнік і пытальнік.

Напрыклад:
*Бачыў ты?! Слова нельга сказаць!?* (К. Чорны).

6. Кропка, коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік ставяцца пасля двукосся.

Напрыклад:
*На ўсіх загадах у правым куточку зверху значылася: «Абсалютна сакрэтна»* (П. Пестрак).
*Праз тыдзень быў гатовы «твор» – тры тысячы радкоў, як лёду...* (Э. Валасевіч).
*Таямнічыя радыёхвалі панясуць нам весткі з усіх канцоў свету: водгаласы вайны ў Кітаі, гудзенне калгаснага трактара, зловяць з-пад хмараў «Лявоніху», «Тройку»...* (Я. Брыль).

7. Перад закрывальным двукоссем захоўваецца кропка, якая паказвае ўмоўнае графічнае скарачэнне.

Напрыклад:
*У інструкцыі было напісана: «Прымяняецца для склейвання рэчаў з паперы, кардону і г.д.».*

8. Калі перад закрывальным двукоссем стаіць пытальнік або клічнік, то коска ставіцца паводле кантэксту.

Напрыклад:
*«Што прынясе вясна?», «Што вясна пакажа?», «Што будзе вясною?» – у прадчуванні важных падзей пыталіся людзі і ўпотайку рыхтаваліся да іх* (Я. Колас).
*Пятра абганялі фурманкі з больш лёгкімі паклажамі, і ён, свецячыся сваім ясным тварам і песеннымі брывамі, толькі паспяваў гаварыць: «Добры дзень, дзядзечка!», «Добры дзень, цётачка!», хоць трошкі скіроўваючы ўбок свайго гнедку, каб даць абмінуць* (Я. Скрыган).

9. Пытальнік, клічнік і шматкроп'е ставяцца перад закрывальным двукоссем, калі яны адносяцца толькі да слоў, узятых у двукоссе; пасля ж закрывальнага двукосся гэтыя знакі пішуцца тады, калі адносяцца да ўсяго сказа, які заканчваецца словамі, узятымі ў двукоссе.

Напрыклад:
*Хлапчук спыніўся на ўсходках і з падазронасцю паглядзеў на жанчыну. «Яна яго ведае ці гэта проста цікаўнасць, можа нават і пустая?»* (К. Чорны).
*На ўсім двары тады загаварылі: «Бач ты, гэта ж у нашае дворнічыхі сын камандзір!»* (К. Чорны).
*Я паслаў ёй кароткі і сціплы адказ: «Прыязджай, будзеш госцяй жаданай у нас на вялікай будоўлі...»* (А. Куляшоў).
*Чаму камбайн працуе не ў «Волі»?* (І. Шамякін).
*А ведаеш ты нашага Івана «Тарпака» ?* (Я. Колас).

10. Калі перад закрывальным двукоссем стаіць пытальнік, клічнік або шматкроп'е, то яны (тыя ж самыя знакі) паўторна не пішуцца пасля двукосся; неаднолькавыя ж знакі (калі яны патрабуюцца ў залежнасці ад характару адпаведных частак тэксту) ужываюцца перад двукоссем і пасля яго.

Напрыклад:
*Ці вучылі вы ў школе на памяць верш Я. Купалы «А хто там ідзе?»*
*Вы чуеце, як мне пяюць натхнёныя паэты? Як шэпчуць закаханыя: «люблю!..»?* (Э. Валасевіч).
*Якая галоўная думка выказана ў вершы Я. Коласа «Асадзі назад!»?*
*Вучаніца выразна прачытала верш П. Броўкі «Пахне чабор».*

11. Калі ў пачатку або ў канцы цытаты (тое ж адносіцца і да простай мовы) сустракаюцца ўнутранае і знешняе двукоссі, то яны павінны адрозніваецца паміж сабой малюнкам (так званыя «елачкі» і «лапкі»), прычым знешняе двукоссе не павінна апускацца.

Напрыклад:
*Янка Шарахоўскі аб Ф.Багушэвічу піша: «З асаблівай паўнатой станоўчая грамадска-палітычная праграма паэта і ідэал працоўнага чалавека дадзены ў вершы "Ахвяра"».*

12. Унутранае і знешняе двукоссі могуць не адрозніваецца малюнкам, калі яны раздзелены клічнікам, пытальнікам ці шматкроп'ем.

Напрыклад:
*«Дык вы, значыць, не любіце «Вайну і мір», «Анну Карэніну»?!» – здзіўлена ўсклікнула дзяўчына* (М. Лупсякоў).

13. У межах аднаго сказа перад адкрывальнай або закрывальнай дужкай не ставіцца коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік; усе гэтыя знакі ставяцца толькі пасля закрывальнай дужкі, у залежнасці ад таго, які з гэтых знакаў павінен быць перад першай дужкай – на месцы разрыву асноўнага сказа ўстаўной канструкцыяй.

Напрыклад:
*Мы, прабачце (проста сорамна гаварыць), не змаглі перабрацца за раку* (С. Баранавых).
*Пад брамай рог звініць прызывам (бягуць да брамы ключары), і скача рэха пералівам у лясным заснуўшым гушчары* (М. Машара).
*У травах лежачы (за край знікала сонца), пра будучнасць мы марылі з табой* (А. Куляшоў).
*Палілася печ (нанач браўся мароз); у печы скварылася свежына* (К. Чорны).
*Машы ўспомніўся запіс у Алесіным дзённіку (учора ён выпадкова трапіў ёй у рукі): «У чым паэзія нашага жыцця?»* (І. Шамякін).
*Але «малы Лондан» (без прыгарадаў) – таксама не маленькі, калі прыняць пад увагу, што ён налічвае не менш шасці мільёнаў жыхароў* (К. Крапіва).

14. Кропка, пытальнік, клічнік і шматкроп'е ставяцца перад закрывальнай дужкай, калі яны адносяцца толькі да слоў, заключаных у дужкі, а пасля закрывальнай дужкі яны ставяцца тады, калі адносяцца да ўсяго сказа, які заканчваецца словамі, узятымі ў дужкі.

Напрыклад:
*Калі ён увайшоў у пакой, той, што сядзеў за сталом, – з чорнай кучаравай галавою, у гімнасцёрцы вайсковага крою, – не адрываючыся ад паперы, падаў яму левую руку. (У правай ён трымаў завостраны з абодвух канцоў чырвона-сіні аловак.)* (К. Крапіва).
*Дзьмуць вятры, і нічым не сагрэешся. (Мы на палубе, разам з чайкамі.) А ў каютах, напэўна, старэйшыя: можа там якія начальнікі?* (Х. Чэрня).
*Няхай жыве наша родная Беларусь! (Усе ўстаюць. Апладысменты.)*
*– Ды ў цэнтры (чуў мо?) выдалі дэкрэт – на мяса здаць усіх быкоў, якім мінула дзесяць год* (К. Крапіва).
*А як вы нас сустрэнеце (ці пабліжэе даль?), рака імя Лаўрэнція, зялёны Манрэаль* (П. Панчанка).
*Нядаўна (каторы раз!) я прачытаў «Новую зямлю»* (І. Шамякін).
Але:
*Іншы раз рэкі двух розных басейнаў бяруць пачатак з аднаго і таго ж балота (напрыклад, рэкі Лучэса і Аршыца паміж Віцебскам і Оршай)* (І. Дзяменцьеў).
*Відаць, своеасаблівай цікаўнасцю часопіса да славянства тлумачыцца тое, што ён змяшчаў творы групы ўкраінскіх пісьменнікаў (Кастамараў, Аснаўяненка, Гулак-Арцямоўскі і інш. )* (С. Майхровіч).

15. Калі ў канцы сказа сустракаюцца разам унутраныя і знешнія дужкі, то – у выпадку неабходнасці – дапускаецца ўжыванне дужак рознага малюнка (круглых і квадратных).

Напрыклад:
*Каму хапіла сіл адолець кручы, той духам гордым стаў раднёй арлам* [А. Звонак. «Кругазварот» (шэсць санетаў)].

16. Пры спалучэнні шматкроп'я з пытальнікам або клічнікам за гэтымі знакамі ставяцца яшчэ дзве кропкі.

Напрыклад:
*Ганна, што з табою робіцца?.. Чаму ты такою стала?..* (К.Чорны).
*Да пабачэння, родныя палеткі!.. Маленства сцежкі мілыя, бывайце!.. Бывайце, першыя трывогі сэрца!.. Расстацца з домам надышла пара* (Н. Гілевіч).
Параўн.: *А што ж ты цяпер рабіць будзеш?!.* (Я. Брыль).

17. Пры спалучэнні шматкроп'я з коскай апошняя звычайна паглынаецца шматкроп'ем (шматкроп'е ўказвае не толькі на пропуск слоў, але і на пропуск знака прыпынку).

Напрыклад:
*Валюня... слаўная мая... скажы ты мне што-небудзь, га?.. Скажы...* (Я. Брыль).
*І там… на дне… цвілі лілеі ў багне вечнасці…* (М. Багдановіч).
*Згубілі вербы каляровасць, а там снягі… снягі… снягі…* (П. Трус).

18. Перад шматкроп'ем можа ставіцца двукроп'е, коска, калі ёсць неабходнасць паказаць пералік сказаў-цытат, якія прыводзяцца не поўнасцю.

Напрыклад:
*У тэлеграмах паведамлялася: ... ваенны пераварот у Грэцыі, рабочыя ў Францыі адмовіліся разгружаць судны з ваеннымі грузамі...* (З газет).

## ГЛАВА 22
## ПАСЛЯДОЎНАСЦЬ ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ ПРЫ СПАСЫЛКАХ

### § 65. Правілы паслядоўнасці знакаў прыпынку пры спасылках

1. Коска, кропка з коскай, двукроп'е і кропка ставяцца пасля лічбы або зорачкі, якія з'яўляюцца знакамі-паказальнікамі спасылкі (каб указаць, што спасылка адносіцца да пэўнага слова ці групы слоў): ...[1], або ...[2]; або ...*; або ...**.

2. Пытальнік, клічнік, шматкроп'е і двукоссе ставяцца перад знакам спасылкі: ...?[1] або ...![2] або ...»*.

3. Пасля знака спасылкі (лічбы ці зорачкі), які размешчаны за двукоссем, кропка захоўваецца: ...»[1] . або ...»**.

Заўвагі і прапановы па новай рэдакцыі “Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” просім накіроўваць у Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на адрасы:

вул.Савецкая, 9, к.311, 220010, г.Мінск; ivchenkov@minedu.unibel.by або podlipskaya@minedu.unibel.by ;
на факс: 200-84-83 з пазнакай “Для З.І.Падліпскай”.